ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 КРАСАВІКА 1996 г. № 14 (3838) Кошт 2 500 руб.

*ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

# ДА КАГО ЎАБДЫМКІ?

Ліквідацыя апошняй у свеце каланіяльнай імперыі, якой, без сумнення, быў СССР (рускія нацыяналісты могуць аспрэчваць гэты тэзіс колькі ім будзе заўгодна), і ператварэнне яе ў незалежныя і хоць бы патэнцыяльна дэмакратычныя дзяржавы з'яўляецца буйнейшай гістарычнай прагрэсіўнай падзеяй XX стагоддзя, і ў нармальным грамадстве два кандыдаты на пасаду прэзідэнта Расіі, Ельцын і Гарбачоў, маглі б спрачацца аб тым, хто **вызваліў** рэспублікі — прэтэндуючы, так бы мовіць, на ролю Леніна, які падараваў незалежнасць Фінляндыі (за што, як вядома, яго там і дасюль любяць):

— Гэта я даў свабоду Грузіі, Літве, Украіне!

— Не, гэта я даў! Калі ты прыйшоў, яны ўжо былі свабодныя!

Расійскае грамадства, аднак, цяжка хворае. Імперская ідэя настолькі моцна ўбіта ў свядомасць большасці людзей з адукацыяй трошкі вышэй за сярэднюю, што белае прымаецца за чорнае, а чорнае — за белае. Страшна і сумна глядзець, як маскоўскія палітыкі і журналісты ўсіх масцей — ад Баркашова да Мінкіна з "Московского комсомольца" (нядаўна заявіў: "Мне да слёз шкада, што Расія вывела свае войскі з краін Балтыі"), ад Жырыноўскага да Віталія Траццякова з "Независимой" (апошні не далей як 1 сакавіка выступіў з чыста правакацыйнай перадавіцай "А чаму б нам не паспрабаваць аднавіць Савецкі Саюз?", у якой утрымлівалася ідэя-падказка: хто першым аб'явіць аб аднаўленні СССР, той, маўляў, і пераможа на прэзідэнцкіх выбарах; падобна, што менавіта гэтая падказка натхніла думцаў на іхні крок), ад былога зэка Салжаніцына да кагэбіста Кручкова — у адзін голас стогнуць і лямантуюць аб "злачынным развале вялікай дзяржавы" і патрабуюць аднаўлення імперыі хоць бы ў салжаніцынаўскім міні-варыянце: "у складзе трох славянскіх рэспублік і Казахстана".

Зразумела, апаненты скажуць мне пра сумесна пражытыя гады, змешаныя шлюбы, імкненні да ўсечалавечай еднасці. Яны будуць запэўніваць, што "ўз'яднання" хочуць не толькі рускія, але і ўсе іншыя народы, і нагадаюць аб выніках беларускага рэферэндуму. Аднак незалежнасць зусім не выключае дружбы: суверэнітэт заключаецца толькі ў праве кожнага народа ўсталёўваць звычны для яго лад (выбера Расія прэзідэнтам камуніста — яе клопат, а эстонцам і пры капіталізме добра), у праве кожнай дзяржавы аб'яўляць вайну і заключаць мір (пойдуць рускія паходам да Індыйскага акіяна — гладкай дарогі, а малдаванін будзе дома есці мамалыгу і глядзець тэлевізар), у прысутнасці замежных войск на сваёй тэрыторыі і да таго падобных рэчах, далёкіх ад "усечалавечай" лірыкі.

Не надта верыцца і мне ў безаглядлае імкненне ўсіх народаў ператварыцца ў падданых Ельцына — паколькі ёсць сур'ёзныя падазрэнні, што Барыс Мікалаевіч не зусім добра кіруе і адной толькі Расіяй. А ў падданых Зюганава — тым больш. І які народ пры светлым розуме захоча стаць нацменшасцю ў дзяржаве, якая па-варварску знішчае адну са сваіх нацменшасцей, аб'яўленую "злачыннай нацыяй" ("кожны чачэнец калі не забойца — дык бандыт, калі не бандыт — дык злодзей").

Што да беларусаў, дык гэты няшчасны народ на "глазах всей честной публики" подла падманваюць. Лукашэнка запытаў: "Ці хочаце вы ЭКАНАМІЧНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ з Расіяй?" (гэта значыць, "ці згодныя вы мяняць нашу бульбу на іхнюю нафту?" — дык на гэтае пытанне і Хмара з Чарнавілам адкажуць "так!"), а ўзнята радасная свістапляска, што беларусы адмаўляюцца ад НАЦЫЯНАЛЬНАГА СУВЕРЭНІТЭТУ. Пачнуць беларускія маці атрымліваць пахаронкі з Чачні, успомняць яны тады парады пана Пазняка, ды позна будзе...

**Уладзімір КАВАЛЕНКА,**
*("Союз уваскрос!" — "Сапраўды ўваскрос!", "Литературная газета", 27.III.96 N 13(5595)*



# УЗІРАЮЧЫСЯ Ў АКТ СТВАРЭННЯ

Пэўна, можна меркаваць, што дзеля гэтай самай мэты — узірацца — рэжысёр Віктар ШАВЯЛЕВІЧ апанаваў нашу першую паласу. Толькі ўзірацца трэба ўжо не ў акт, — у створанае. І ўзіранню спрыяе не адно толькі хуткі рэжысёраў юбілей. Хутчэй, скразныя тэмы творчасці (іх нязменна сутыкае або злучае адну з адной улюбёны мантажор Ларыса Юркевіч). Хутчэй, самі творы, якіх па наіўнасці ўсё яшчэ называюць дакументальнымі. Рэжысёр звяртаецца "Да вас, сучаснікі мае" — з Ефрасінняй Полацкай, Рагнедай, Усяславам Чарадзеем, Кірылам Тураўскім. Вандруе "Па дарогах "Слова пра паход Ігаравы", суправоджаны Дзмітрыем Сяргеевічам Ліхачовым. "Тварам да вас" паварочвае дырыжора Таццяну Каламійцаву. Абвяшчае грандыёзны "Валянцінаў дзень" харэографа Валянціна Елізар'ева...

*(Нататкі пра новыя фільмы рэжысёра — на стар. 10)*

Фота А. МАЦЮША

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

**_Пройдзе зусім няшмат часу і наш народ зразумее, што ён страціў 2 красавіка... Не, зусім не незалежнасць. Яна так проста не прадаецца і не здаецца. Ён страціў магчымасць паступальнага руху наперад. Мы ўжо адстаём ад Прыбалтыкі (ды і ад Украіны) на некалькі гадоў. Гэтая ж "дамова" адкідвае нас назад на дзесятак гадоў. Калі нам зноў давядзецца пачынаць адбудоўваць сваю дзяржаву (а гэта абавязкова будзе, гэта аб'ектыўная рэальнасць!) — мы будзем адставаць ужо амаль безнадзейна... Як Прыбалтыка адстае сёння ад, скажам, Чэхіі, а Чэхія — ад Германіі. Народ зразумее. Але ці не занадта дарагую плату плаціць Беларусь за гэтае разуменне?_**

## ПАДМАН ТЫДНЯ

Напярэдадні падпісання дагавора аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік (назву якую прыдумалі, га?), ад прэзідэнта Беларусі і яго каманды мы не раз чулі, што дазвол на "единение" з Расіяй нам даў народ на рэферэндуме 14 траўня мінулага года. Спасылаліся на гэта і "единяльщики" з расійскага боку. Між тым, на слынным рэферэндуме пыталіся ў народа пра пашырэнне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. І менавіта на гэта ён даў "дазвол". Пра аб'яднанне ў адну дзяржаву ў народа не пыталіся, пра палітычную і ваенную інтэграцыю таксама. Цікава, калі ўсё ж народ, ад імя якога гэта ўсё робіцца, падманулі: тады, перад рэферэндумам, ці цяпер? Зрэшты, розніцы няма. Бо вінаватым усё роўна акажацца народ, бо "единяльщики", як бачым, усяго толькі выканаўцы ягонай "волі".

## ДЗЕНЬ ТЫДНЯ

2 красавіка прэзідэнты ССР паабяцалі аб'явіць святочным днём. Гэты дзень, напэўна ж, застанецца ў гісторыі. Але вось назву яму прыдумаюць нашыя нашчадкі, і назавуць яго, магчыма, зусім інакш. Каб памяталі пра яго і ніколі больш не паўтарылі.

## ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Каля 30 тысяч мінчукоў выйшла на вуліцы сталіцы 2 красавіка з мэтай выказаць сваю нязгоду з тым, што адбывалася ў гэты дзень у Маскве. У адрозненне ад дэманстрантаў-мітынгоўшчыкаў 31 сакавіка іх не прымушалі рабіць гэта ні кіраўнікі прадпрыемстваў, ні "вертыкальшчыкі", іх не звозілі на дзяржаўным транспарце за дзяржаўны кошт з усёй краіны. Гэта было сапраўднае волевыяўленне народа, які не хоча, каб за ягонай спіной падпісваліся розныя змовы... Міліцыя, у адсутнасць галоўных кіраўнікоў дзяржавы, прымяняць газ і дубінкі для разгону дэманстрантаў у гэты дзень не стала.

## СУМЯШЧАЛЬНІЦТВА ТЫДНЯ

Заслугі прэзідэнта Беларусі па аднаўленні СССР, нарэшце, былі "по достоинству" ацэнены. На мінулым тыдні ў ягоным службовым спісе дадаліся дзве пасады: ён абраны старшынёй Міждзяржаўнага савета чатырох дзяржаў — Кыргызстана, Казахстана, Беларусі і Расіі, а таксама кіраўніком Супольніцтва Суверэнных Рэспублік. "Запусціць" заводы на Беларусі, згодна з новай дамовай, цяпер абавязаны Чарнамырдзін. Толькі ці вывезе Балівар двух?

## АСЦЯРОЖНАСЦЬ ТЫДНЯ

Візіт прэзідэнта Польшчы А. Квасьнеўскага на Беларусь быў наколькі нечаканым, настолькі і незразумелым: навошта, дзеля чаго прыязджаў да нас заходні сусед?.. Хіба што, каб бліжэй пазнаёміцца са сваім цёзкам. І толькі. Нічога канкрэтнага гэты візіт не даў ніводнаму з бакоў.

Па "заходняй" — дэмакратычнай — традыцыі польскі прэзідэнт сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі: Шушкевічам, Карпенкам, Дабравольскім, Таразевічам, Статкевічам... Праўда, сустрэча адбывалася ў прысутнасці "цэнзараў" — людзей з акружэння Лукашэнкі, гарадзенскіх ды берасцейскіх "вертыкальшчыкаў". А значыць, апазіцыянеры не маглі быць да канца шчырымі. Словам, наўрад ці "разведку" польскага прэзідэнта можна лічыць удалай: абодва бакі засталіся пры сваіх інтарэсах...

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

Пастаянная камісія ВС Беларусі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі зараз працуе над Законам аб свабодзе перамяшчэння і выбары месца жыхарства, які ліквідуе на Беларусі інстытут прапіскі. Што ж, самы час: межы адкрытыя, дзяржава з'яднаная... Насельніцтва нашае цяпер будзе прыбываць сібіракамі, азіятамі ды каўказцамі. Пракормім, жыллём надзелім і працай забяспечым усіх "бежанцаў" — дэмакратыя ж...

## КАНІКУЛЫ ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет распусціўся да 18 красавіка, так і не дайшоўшы да разгляду кадравых пытанняў, якіх у сувязі з пэрманентнай актыўнасцю прэзідэнта ў гэтай галіне набралася вельмі шмат.

## АРЫШТ ТЫДНЯ

Акцыянерам Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду на мінулым тыдні зноў давялося пахваляваацца: быў арыштаваны былы кіраўнік ПРІФа А. Саманкоў. Акцыянераў, праўда, адразу ж супакоілі — арыштаваны ён за ўзятце хабару ў 15 тысяч долараў. Так што дывідэндаў ад "прыхватызацыі" можна і далей чакаць.

## ВЫНАХОДНІЦТВА ТЫДНЯ

Новы герб і сцяг па загадзе адміністрацыі прэзідэнта цяпер чапляюць усюды: у паліклініках, дзіцячых садках, цырку... А вось на Падсвільскім камбінаце харчовых прадуктаў пайшлі яшчэ далей: размясцілі дзяржаўны герб на этыкетцы пладова-ягаднага віна "Водар мяты". (Альбо, як сцвярджае Уладзімір Арлоў, спасылаючыся на народ, — "Морда мятая".) А як жа — трэба далучаць да новай сімволікі ўвесь электарат прэзідэнта, усіх, хто быў і ёсць, так сказаць, "за".

## ЧАКАННЕ ТЫДНЯ

У суботу на тэлеканале НТВ у чарговы раз выйдуць знакамітыя "Лялькі". Звычайна "лялечнікі" вельмі аператыўна рэагуюць на палітыка-эканамічныя падзеі ў Расіі. Думаем, не павінны абысці аўтары "Лялек" і "единение", што адбылося 2 красавіка. Хоць, магчыма, якраз з палітычных (шавіністычных) меркаванняў гэты аспект яны чапаць не будуць. Аднак у любым выпадку лідэр ССР, як кіраўнік і Расіі, павінен у хуткім часе з'явіцца ў "Лялькях". І тады, думаецца, інсталяцыя з выставы "Пагоні" здасца нявінным жартам.

---

*Адгалоскі*

# БРАНЯПОЕЗД + ВАГОН = ІНТЭГРАЦЫЯ

З гэтым яднаннем штосьці не так. З аднаго боку — шырокая з-пад вусоў усмешка і шчыльныя абдымкі, запанібрацкае "Давайце не будзем дурыць народы", з другога — дыстанцыя, прыкметная стрыманасць (як у выпадку з Чарнамырдзіным) і ніякіх табе брацка-славянскіх сантыментаў. З аднаго — касмічныя планы адносна "звышінтэграцыі", агульнага парламента і бюджэту, з другога — карэктныя ўдакладненні прэс-сакратара: і тое, аказваецца, не так, і гэта не так, і не пра агульную дзяржаву ідзе гаворка. Ці бачыў калі свет, каб у падобных пытаннях прэс-сакратар адной дзяржавы папраўляў прэзідэнта другой! Б. Ельцын выказаўся пазней і папросту: "Кто-то чего-то напутал".

Хапіла двух дзён, каб наш гаваркі "галава" разабраўся ў сутнасці справы і скарэкціраваў змест сваіх дэкларацый са зместам беларуска-расійскай дамовы.

Расійскія сродкі масавай інфармацыі (а з імі і нашыя) тлумачаць мітынг пратэсту ў Мінску недахопам той самай інфармацыі. Нібыта чагосьці нам недарастлумачылі наконт магчымых перспектыў суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Наадварот, усё прамаўлялася недвухсэнсоўна, з пралетарскай праматой, без усялякага апасення, што наш народ, крый божа, штосьці не так зразумее. Праўда, усё гэта ўжо пасля дамоўленасці з расійскім бокам, калі ў прынцыпе пытанне было вырашана.

Ад памылак не застрахаваны нават людзі, надзеленыя вышэйшай дзяржаўнай уладай. Але звычайна яны бываюць крайне асцярожнымі ва ўсім, што тычыцца знешняй палітыкі і ўсемагчымых саюзаў. Адзін непрадуманы крок можа не туды завесці. А тут — якая размашыстасць і самаўпэўненасць, якая "молодецкая удаль!" Мы каторы раз пераконваемся, што сапраўды займелі ў кіраўніку унікальную, адзіную ў сваім родзе асобу. Асобу, якая можа з аднолькавай страснасцю ўчора гаварыць адно, а сёння — другое, не адчуваючы цяжару гістарычнай адказнасці.

...Не ад дабра ён паставіў на тое "яднанне", не ад харошай жыткі. Паравозік патрабуецца, паравозік! Каб Беларусь, як абшарпаны вагон, можна было прычапіць і тым даць рух нашай спаралізаванай эканоміцы. На прэзідэнта ціснуць 30-працэнтнае скрытае беспрацоўе і дасюль не запушчаныя заводы. Яны маглі б атрымаць заказы, у тым ліку і ад ваенна-прамысловага комплексу РФ (бо многія пад яго ў свой час і стваараліся); ажылі б апусцелыя вайсковыя базы і аэрадромы, закіпела б жыццё, адным словам.

Падобным чынам адзін злавесны персанаж навейшай гісторыі, пра якога неяк А. Лукашэнка неабдумана згадаў у сваім інтэрв'ю нямецкаму карэспандэнту, вырашыў эканамічныя і іншыя праблемы дзяржавы за кошт развіцця ваеннай прамысловасці. Што вылілася, як вядома, у другую сусветную вайну.

У што выльецца сумнеўная ідэя "яднання" бранепоезда з патрымным вагонам?

Наш бок з гэтай ідэяй насіўся даўно, а вось суседзяў падштурхнуць маглі дзве акалічнасці. прэзідэнцкія выбары — непрыгожае шоу з ахайваннем усіх, акрамя... і перспектыва пасоўвання НАТА на ўсход. Не будзем гадаць на кававай гушчы, што тут заважыла болей. Ясна адно: паспешлівасць і нейкая сутаргавасць адчуваюцца ў скараспелым "яднанні чатырох", вельмі падобным на прынцып "супроць каго вы дружыце?" Невыпадкова прэзідэнт Кыргызстана пры абмене афіцыйнымі прамовамі меў агаломшаны выгляд. Невыпадкова Н. Назарбаеў выступіў з заявою і абверг чуткі аб далучэнні Казахстана да "ядра", а прэзідэнт Беларусі не паспеў узгадніць асноўныя пазіцыі, перш чым пахваліцца свету пра вялікі поспех сваёй дыпламатыі.

І яшчэ: мы больш даверылі б гэтай акцыі, калі б яе не так горача падтрымлівалі ўсе былыя партакраты. Гэта не проста людзі ідэалістычных перакананняў. Працяглая звычка самаўпраўнічаць на месцах, падпарадкоўваючыся цэнтру, сфарміравала зусім асаблівы тып чалавека — двурушны, сервільны і жорсткі, з прарасійскай пазіцыяй і непавагай да свайго народа, з рашучасцю не спыняцца ні перад чым дзеля дасягнення мэты.

Ці звярнулі вы ўвагу, як С. Калякін на старонках "Звязды" адхрышчваўся ад беларускай мовы? (Хаця менавіта камуністычная фракцыя ініцыіравала разгляд пытання пра яе стан на камісіі па культуры). Журналістка, ці бачыце, не так інтэпрэтавала іхнія намеры! Падумала пра іх лепей, чым яны таго вартыя... А паглядзіце, як ён жа каменціруе А. Лукашэнку ў сувязі з дагаворам, як падтрымліваюць прэзідэнта ўсе парламентарыі адпаведнай накіраванасці. Поўнае адабрэнне. Згодна, як той казаў. Аднолькавая туга па СССР. Такое супадзенне поглядаў павінна было б насцярожыць і кожнага нармальнага грамадзяніна РБ, і самога апалагета супольнасці.

І дарма сп. Шарэцкі з глыбакадумнасцю Папанава ў ролі Кісы Вараб'янінава казаў пры дыскусіі ў Вярхоўным Савеце, што "няма незалежных дзяржаў, усе адна ад адной залежаць". Ёсць незалежнасць дэ юрэ, а ёсць — дэ факта. Дасюль мы мелі першую з іх, ды з ласкі такіх "гігантаў думкі" можна страціць і яе...

**Г. К.**

---

*З нагоды*

# АЛЕСЬ ПУШКІН — ЧЫННІК НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Калі сп. Лукашэнка распавядаў па тэлевізары пра сцэнарый маючага адбыцца падпісання расійска-беларускай дамовы (у вялікай зале альбо на плошчы "в присутствии народов" і патрыярха Алексія) мне падумалася, што такую карцінку я калісьці бачыў. І сапраўды, у падручніку "Гісторыя СССР" для нейкага там класа, па якім я вучыўся ў школе, была на каляровай укле́йцы рэпрадукцыя карціны "Навеки с Москвой! Навеки с русским народом!" (Пераяслаўская рада 1654 г.). Няйначай мы са спадаром Лукашэнкам вучыліся па адных падручніках...

Але спадар прэзідэнт павінен быў бы ведаць, што на Украіне рашэнні Пераяслаўскай рады ніколі не лічыліся канчатковымі, што сам ініцыятар "воссоединения" Багдан Хмяльніцкі вельмі хутка зразумеў, што зрабіў памылку і, расчараваўшыся ў Маскве, пачаў шукаць саюзнікаў на Захадзе, каб пазбавіцца "братніх абдымкаў". Скончылася справа тым, што Кацярына II ліквідавала Запарожскую Сеч як палітычны суб'ект, гвалтам выселіўшы казакоў на Кубань. І потым было шмат спроб, то знішчыць украінскую "самастийнасць", то падкупіць (М. Хрушчоў, каб прывязаць Украіну да Расіі, нават падарыў ёй Крым). Але закрылася "Украінскае пытанне" толькі са сконам Расійскай імперыі ў Віскулях у снежні 1991 года. Каб выправіць памылку Багдана Хмяльніцкага, спатрэбілася больш як тры стагоддзі.

У нас столькі часу няма, ды і ўсе сацыяльныя працэсы ў XX стагоддзі ідуць у параўнанні з мінулымі вякамі з ліхаманкавай хуткасцю. Мяркую, што ўжо летам, пасля прэзідэнцкіх выбараў у Расіі, ніхто нават не ўзгадае, што 2 красавіка мела месца падзея, "якая адкрыла новую эпоху ў гісторыі славянства" (як сёння сцвярджае афіцыйная прапаганда ў Беларусі).

Не дзіва, што беларускія камуністы адразу ж падтрымалі ідэю "воссоединения". Адна загана, аднак, ёсць у дакументах, падпісаных у Маскве: занадта многа, на камуністычную думку, захоўвае Беларусь суверэнітэту. Трэба ўвогуле яго скасаваць, паставіўшы над нашай Канстытуцыяй як мага больш "наднацыянальных органаў". Камуністаў зразумець няцяжка. Больш як семдзесят год будавалі яны "светлую будучыню", ігнаруючы пры гэтым злабадзённыя праблемы, датычныя бальшасці насельніцтва — нізкі жыццёвы ўзровень, занепад эканомікі і культуры, экалагічныя драмы і трагедыі (апафеоз — Чарнобыль). Гэта пра іх сказаў герой аповесці Булгакава "Сабачае сэрца" прафесар Прэабражэнскі: "Калі яны вылупяць з сябе ўсялякія галюцынацыі,зоймуцца чысткай хлявоў — прамой сваёй справай, — разруха знікне сама па сабе. Двум багам служыць нельга! Немагчыма ў адзін і той жа час падмятаць трамвайныя пуці і ўстройваць лёсы нейкіх іспанскіх абарванцаў... Вы кажаце — разруха. Я вам скажу, што нішто не зменіцца да лепшага ў нашым доме, ды і ў кожным іншым доме, да таго часу, пакуль не ўціхамірыць гэтых спевакоў. Як толькі яны спыняць свае канцэрты, становішча само па сабе зменіцца да лепшага". Сёння яны зацягнулі песню пра "аднаўленне СССР" і спадзяюцца такім чынам акупаваць палітычную сцэну яшчэ не адно дзесяцігоддзе. Замест таго, каб "чысціць хлявы".

У тым, што мэтай сп. Лукашэнкі з'яўляецца крэсла, на якім сядзіць Ельцын, сёння, здаецца, не сумняваецца ніхто. Але ягоныя амбіцыі аплачвае ўся Беларусь. Гэта і "нулявы варыянт" на карысць Масквы, і пераўтварэнне нашай нейтральнай краіны ў расійскі вайсковы фарпост і адведзена ў мішэнь ядзернага ўдару ў выпадку вайны. Не так даўно газета "Свабода" перадрукавала публікацыю з польскай прэсы, дзе сцвярджаецца, што ў абмен на "калідор" ад беларуска-польскай мяжы да Калінінграда палякам Масква прапанавала горад... Гродна. Няхай сабе гэта было ўсяго першакрасавіцкі жарт. Толькі ж вельмі горкі, гэты жарт. Бо мы памятаем, што калісьці Масква перадала Латвіі і Жамойці кавалкі беларускай тэрыторыі, каб ім было не так крыўдна губляць незалежнасць і становіцца часткай СССР. Калісьці Польшчы дзеля добрых стасункаў з СССР быў падораны Беласток. Калісьці Ленін прапаноўваў Пілсудскаму Беларусь аж да Барысава.

А чаму ж не дарыць! "Братняе" — не сваё! З моманту страты незалежнасці, з моманту падпарадкавання Расійскай імперыі Беларусь была разменнай манетай у палітычных гульнях "старэйшага брата".

Пераяслаўская рада 1654 года была палітычным шоу. Усё было вырашана значна раней, падчас перамоў самнасам паміж Хмяльніцкім і царом Аляксеем Міхайлавічам. Пампезнасць, з якой было абстаўлена "воссоединение" Беларусі з Расіяй, таксама разлічана на прапагандысцкі эфект. Значна цікавей, якія перамовы вяліся паміж галоўнымі чыноўнікамі Расіі і Беларусі за зачыненымі дзвярыма.

Другога красавіка дыктар "Навін" Беларускага тэлебачання, паведамі́ўшы, пра маючую адбыцца расійска-беларускую імпрэзу ў Крамлі, сказаў: "А цяпер каб падняць вам настрой (у сэнсе — "хопіць пра сумнае"?) — навіны культуры". Далей было пра культурніцкую акцыю "Арт-прагноз", якую наладзіў у Віцебску мастак Алесь Пушкін. Дальбог, дыктар меў рацыю: пакуль ёсць у Беларусі незалежнае, еўрапейскага кшталту, мастацтва — Беларусь жыве!

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# МОЛАДЗЬ — ЗА БЕЛАРУСЬ!

Падзеі ў Мінску 2 красавіка рэзка кантраставалі з эйфарыяй, якая ў дзень падпісання расійска-беларускай дамовы панавала ў Маскве. прыблізна трыццаць тысяч мінчукоў прыйшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі да плошчы Незалежнасці, каб выказаць пратэст супраць дзеянняў выканаўчай улады, якія пагражаюць суверэнітэту нашай краіны. Афіцыйна гэтая акцыя называлася "сустрэча з народнымі дэпутатамі". Міліцыя людзей на плошчу не пусціла, кардоны перакрылі праспект Скарыны ўжо каля будынка КДБ. Людзям было прапанавана ісці на вуліцу Варвашэні. Там, на пляцоўцы каля "Вольнай сцэны" і рэстарана "Канстанцін", улады дазволілі мітынгаваць. Каб не абвастраць сітуацыю, грамада рушыла ў той бок. На праездзкай частцы праспекта, вуліцы Купалы, вуліцы Багдановіча выйшлі на вуліцу Варвашэні. Там высветлілася, што пляцоўка абсалютна непрыдатная. Тады рушылі далей, да ўзбярэжнай Свіслачы, потым па вуліцы Багдановіча на праспект Машэрава. Сустрэча з дэпутатамі адбылася перад Палацам спорту. Былі выступленні ў абарону Канстытуцыі і суверэнітэту краіны. Была прынята рэзалюцыя. Людзі скандзіравалі "Жыве Беларусь!", "Незалежнасць!" і іншыя адпавядаючыя палітычнаму моманту лозунгі. У адрозненне ад падзей 24 сакавіка гэтым разам АМАП у бойку не лез.

У акцыі 2 красавіка брала ўдзел шмат маладых людзей. Магчыма, што святкаванне 78-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР і пратэст супраць "маскоўскіх пратаколаў" 2 красавіка — гэта прэзентацыя палітычнай сілы, якая раней аб сабе гучна не заяўляла, знаходзілася, так бы мовіць, у ценю прэзідэнцкага электарату — савецкіх ветэранаў і люмпенаў. Гэта сіла — моладзь. Тыя, хто на пачатку ўжо пазабытай "перабудовы" хадзілі ў першыя класы школы. Тыя, хто на наступных выбарах можа вырашыць лёс краіны. 2 красавіка яны скандзіравалі: "Моладзь — за незалежнасць!"

**Наш. кар.**

Надзённае

# СУПРАЦЬ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ НАШАЙ МОВЫ

30 сакавіка ў Доме літаратара адбылася навуковая канферэнцыя па тэме: "Дыскрымінацыя беларускай мовы на Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты". Ладзілі яе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны супольна з 52 арганізацыямі, установамі, таварыствамі, партыямі сярод якіх такія, як Беларускі фонд культуры, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Польскае культурна-асветнае таварыства "Палонія", Хельсінкскі камітэт, Беларускі народны фронт "Адраджэнне" і інш.

На адкрыцці канферэнцыі выступіў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч. Прагучалі пленарныя даклады доктара гіст. навук Л. Лыча, "Беларуская мова як аб'ект дзяржаўнай дыскрымінацыі (гіст. аспект)", доктара філ. навук Г. Цыхуна "Дэфармацыі ў сістэме беларускай літаратурнай мовы ў гады таталітарызму", кандыдата філ. навук Лявона Баршчэўскага, "Беларуская мова на палітычнай арэне Беларусі канца 80-х сярэдзіны 90-х гадоў". З дакладамі выступілі навукоўцы А. Грыцкевіч, С. Рудовіч, М. Крукоўскі, А. Саламонаў, І. Нямкевіч (Гомель), М. Савіцкі, А. Мальдзіс, С. Законнікаў, І. Шаблоўская, В. Мазец, Т. Сухая, І. Крэнь, В. Жыдц (Бабруйск), В. Юфераў, Н. Блінкоўскі (Баранавічы), Н. Аксёнчык (Мазыр) і інш.

Выступоўцы закранулі тэму дыскрымінацыі беларускай мовы ў самых розных сферах ужытку: вайсковай, адукацыйнай, бытавой, духоўнай мастацкай, навуковай, медыцынскай, літаратурнай і інш. У зале прысутнічалі руплівцы беларускага слова з Менску, Гародні, Мазыра, Светлагорска, Баранавіч, Бабруйска, Гомеля, Наваполацка, Полацка, Дзятлава, Кайданава, Стоўбцаў, в. Чэхі Мядзельскага р-на.

Прысутныя прынялі выніковыя дакументы: "Аб стане беларускамоўнай адукацыі", "Зварот да вернікаў хрысціянскіх канфесіяў у Беларусі", "Аб стане беларускай мовы", "Зварот да Старшыні і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Урада Рэспублікі Беларусь", былі падпісаны звароты грамадскасці "Аб стане беларускамоўных класаў і школ" да У. В. Ярмошына, С. Г. Шарэцкага, М. М. Чыгіра.

# ЗВАРОТ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА І ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаныя спадары! Мы, удзельнікі канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты", праведзенай па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы і амаль 50 грамадскіх арганізацый і палітычных партый, глыбока занепакоеныя дыскрымінацыяй беларускай мовы і яе носьбітаў у нашай краіне антынацыянальнай палітыкай дзяржаўных органаў у дачыненні да беларускай адукацыі і культуры, абразлівымі выказваннямі прэзідэнта Лукашэнкі пра беларускую мову.

Мы спадзяёмся, што вы ўважліва прачытаеце прынятыя канферэнцыяй рэзалюцыі і не застаняцеся абыякавымі да ўзнятых у іх праблемаў. Ад вас, у значнай ступені, залежыць далейшы лёс беларускай мовы і культуры і вы здольныя спыніць працэс дэнацыяналізацыі і грубай знявагі правоў карэннага насельніцтва нашай краіны. Валодаючы, паводле Канстытуцыі, усёй паўнатою ўлады, вы можаце ўмацаваць духоўны падмурак нашай незалежнасці і будучага эканамічнага росквіту.

Фестывалі

# "ВЯСНА" — УСУР'ЁЗ?

Добра, што канцэрты "зоркі" фартэпіяннага выканальніцтва Мікалая Пятрова не прыпалі на 1 красавіка. Таму што дзень розыгрышаў паказаў свой жартаўлівы нораў нават падчас такой сур'ёзнай падзеі, як адкрыццё Міжнароднага музычнага фестывалю "Мінская вясна-96".

У праграме значыліся два калектывы: хор аддзялення дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі ды Акадэмічны хор Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, — паяднаныя імем знанага маэстра, мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора прафесара Віктара Роўды. Публіка пакутавала ў пошуку незаняты́х крэслаў (аншлаг!), а ўладкаваўшыся, атрымала кампенсацыю за сякі-такі дыскамфорт. Выступленне студэнтаў было адмысловым узорам жыцця ў творчасці: змяняючы адно аднаго, дырыжоры выходзілі проста... з хору, каб пасля выканання зноў заняць сваё месца сярод сапрана або барытонаў... Пасля антракта чакалі з'яўлення Акадэмічнага хору на чале з самім Маэстра, але выйшаў У. Шаліхін ды абвясціў, што народны артыст СССР Віктар Уладзіміравіч Роўда — па дарозе ў Маскву, у складзе дэлегацыі, якая паехала на цырымонію падпісання, таму дырыжыраваць будзе ягоны вучань...

А ўвогуле, без жартаў, сёлетняя "Мінская вясна" абяцае нямала сустрэч з мастацтвам сур'ёзным, глыбокім, дасціпным і радасным. На гэта настроілі публіку і абедзве праграмы М. Пятрова (сольная і з аркестрам), і канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра ды камернага хору Беларусі з расійскім дырыжорам Д. Зубавым. На гэта настройвае і анонс сённяшняга філарманічнага вечара, афішу якога ўпрыгожвае нязвыклае спалучэнне імёнаў — М. Казінец ды М. Фінберг — і калектываў, якімі кіруюць гэтыя музыканты.

Варункі

# НАШЫЯ КЛАСІКІ

**Пачалі ўрэшце выходзіць поўныя зборы твораў нашых класікаў. Гэткія вышэчэзныя вяршыні розуму, пачуцця й прыгажосці. Летась убачыў свет апошні том з трохтомніка Максіма Багдановіча.**

**Чаго вартыя нашчадкі, якія не вывучаюць спадчыну сваіх геніяў, прызнаных нацыяй людзей? На тое і існуе гістарычны вопыт, каб імкнуцца не рабіць адных і тых памылак. Цікава з гэтага гледзішча пагартаць публіцыстыку нашага "паэта чыстай красы".**

**Пішучы пра "братоў-чэхаў", Максім Багдановіч заўважае, што незалежнасць — гэта "запаветная мара цэлага шэрагу славянскіх народаў". На прыкладзе чэхаў ён паказвае, як у барацьбе за сваю мову, адукацыю, нацыянальнае і грамадскае жыццё яны спынілі "нямецкі напор": "Праўда, немцы, якія жывуць у Багеміі і Маравіі, усімі сіламі імкнуліся ўтрымаць у руках панаванне, прыбягаючы дзеля гэтага да цэлага раду несправядлівасцяў. Але чэхі ўсё ж дабіліся свайго! Упарта змагаючыся, крок за крокам заваёўваючы новыя і новыя правы і саступкі, яны пераўтварылі сваю вобласць у краіну сапраўды чэшскую".**

**А што ж беларусы ў дачыненні да "расійскага напору", падумаем мы?**

**Беларусь у гістарычным еўрапейскім кантэксце бачылася Максіму Багдановічу "перадавым фарпостам Заходняй Еўропы". Ужо на пачатку нашага стагоддзя ён разглядаў Вялікае княства Літоўскае як беларускую дзяржаву, у якой "беларускае жыццё" павінна было праяўляцца ў беларускіх нацыянальных формах". Максім Багдановіч мянуе гэты час "залатым векам" у гісторыі беларускай культуры, без ваганняў звязваючы яе росквіт з дзяржаўнай незалежнасцю. Ён адзначае, што "ўсё гэтае, узятае разам, вылучала Беларусь на адно з першых месцаў паміж культурнага славянства, ставячы яе далёка наперадзе Маскоўшчыны — тагачаснае славянскае глухмені, якая жывілася, як чужаедная расліна, духоўнымі сокамі Белай Русі".**

**У 1915 годзе Максім Багдановіч біў у званы, бачачы смяротную пагрозу для беларушчыны: "Агляніцеся: усё наша роднае, беларускае марнуецца, нішчыцца, знікае, бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе,, пышаецца, мае сабе пашану і павагу". Хто вінаваты? Тады, у 1915 годзе ён дакладна адказаў: "Жывём мы паміж палякаў і велікарусаў, народаў моцных, і маем шмат крыўдаў ад іх".**

**"Крыўды" ад палякаў, можна лічыць, скончыліся, калі мы адгарадзіліся ад іх паўстагоддзя таму іншай дзяржаўнасцю і мяжою. Ад "велікарусаў" зрабіць гэта доўгі час не ўдавалася. Хаця, хто яго ведае, калі прыгледзецца да ўсіх тых авантур, у якія паслядоўна ўцягваў нас усходні сусед, можа, і варта было б аддзяліцца ад яго бетонным плотам? Як кажуць, ад граху падалей.**

**Праўда, і такая якая яна ёсць сёння, нябачная, празрысценькая мяжа, яна ўжо ўратавала нашых хлопцаў ад чачэнскае бойні.**

**Ды не слухаемся мы сваіх класікаў, не чытаем, не маем сваіх арыенціраў і светачаў і якi ўжо раз жорстка расплачваемся за гэта. "Беларусы! Мы — вялікі народ, нас дванаццаць мільёнаў, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут", — пісаў Максім Багдановіч восемдзесят гадоў таму. Колькі ж яшчэ нам трэба перажыць, каб мы ўрэшце ўсвядомілі і напоўніцу скарысталі з гэтага?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# СВЯТА Ў... СВЯТА

У дзень 78-х угодкаў з дня ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі Беларускі ПЭН-цэнтр запрасіў ва ўтульную залу Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі вядомых пісьменнікаў, журналістаў, прадстаўнікоў іншых творчых прафесій. Паэт і перакладчык, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Карлас Шэрман, адкрываючы імпрэзу, адзначыў, што гэты святочны дзень сабраў усіх для таго, каб упершыню назваць лаўрэатаў Літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча, а таксама прэзентаваць дзве кнігі, якія выйшлі апошнім часам.

Як вядома, у пачатку верасня мінулага года ў Доме творчасці пісьменнікаў "Іслач" праходзіў Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць", які праводзіў Беларускі ПЭН-цэнтр. На гэтым кангрэсе і была ўхвалена прапанова заснаваць пры ПЭН-цэнтры спецыяльны Фонд Ф. Багушэвіча, сродкі ад якога будуць выдаткоўвацца для прысуджэння штогадовых прэмій за творы, якія служаць справе аднаўлення гістарычнай памяці беларускага народа, спрыяюць далейшаму адраджэнню Беларусі.

Да прысутных звярнуўся народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Васіль Быкаў. Ён павіншаваў удзельнікаў мерапрыемства з 78-мі ўгодкамі ўтварэння БНР. Васіль Уладзіміравіч адзначыў, што гэтае свята своеасаблівае — гэта дзень Волі. Але, працягваў В. Быкаў, наша воля да гэтага часу па-сапраўднаму не выбілася на... волю з-за спрадвечных кайданоў. Аднак яна ніколі не глухла. Найбольш свядомая частка беларускага грамадства рабіла ўсё дзеля наблізкення сапраўднай волі. А слынныя сыны Бацькаўшчыны рупіліся, каб абудзіць народ. У шэрагу гэтых выдатных прадстаўнікоў асаблівае месца належыць Ф. Багушэвічу, ідэі якога суправаджаюць нас і сёння. І невыпадкова, што Беларускі ПЭН-цэнтр вырашыў, каб прэміі за творы гістарычнай тэматыкі насілі яго імя.

Дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс, народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі па чарзе ўскрываюць канверты, у кожным з якіх — рашэнне журы (яго ўзначальваў В. Быкаў) аб прысуджэнні прэміі імя Ф. Багушэвіча па адной намінацыі.

Першым стаць лаўрэатам яе выпаў гонар Уладзіміру Арлову. І не толькі з-за таго, што яго прозвішча пачынаецца на першую літаратуру алфавіта. Менавіта У. Арлоў апошнім часам робіць вельмі шмат, каб менела "белых плям" у нацыянальнай гісторыі і ўсебольш-менш значныя падзеі сталі набыткам масавага чытача. Асаблівы інтарэс праяўляе ён да гісторыі Полаччыны, сваёй радзімы. Пацвярджэнне таму і кніга "Таямніцы полацкай гісторыі", адзначаная прэміяй. Пазалетась кніга выйшла ў выдавецтве "Беларусь", а нядаўна — у перакладзе на рускую мову.

Нямала гаворыць чытачу, небыякаваму да нацыянальнай гісторыі, і імя Генадзя Сагановіча. Яго артыкулы часта змяшчаюцца ў рэспубліканскай перыёдыцы. "Свой" чалавек ён і сярод папулярнай серыі "Нашы славутыя землякі". Найбольшы рэзананс мела кніга Г. Сагановіча "Невядомая вайна". За гэтую кнігу ён таксама стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Ф. Багушэвіча.

Кастусь Акула, які, як вядома, жыве ў Канадзе, быў ініцыятарам стварэння Фонду Ф. Багушэвіча і стаў адным з яго фундатараў. Але найперш К. Акула — пісьменнік, аўтар рамана "Змагарныя дарогі", які пабачыў свет і ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". У творы асабліва адчувальны нацыянальна-вызваленчы аспект. Таму журы і вырашыла прысудзіць К. Акулу за раман "Змагарныя дарогі" прэмію імя Ф. Багушэвіча.

Спадару Акулу паслана віншавальная тэлеграма, а У. Арлоў і Г. Сагановіч выступілі перад прысутнымі з невялікімі прамовамі. Яны выказалі ўдзячнасць за высокую адзнаку іх творчасці, гаварылі аб тым, як важна сёння праўдзіва прачытаць нашу багатую нацыянальную гісторыю.

Лаўрэатам былі ўручаны дыпломы з партрэтам Мацея Бурачка і медалі з яго выявай, зробленыя ў Празе. Аўтар медаля — мастак Леў Талбузін.

Затым прайшлі прэзентацыі. Першая звязана з выхадам у Незалежнай выдавецкай кампаніі "Тэхналогія" кнігі "Другі Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць", што ўключае ўсябе матэрыялы згаданага форума, пададзеныя па-беларуску і па-англійску. Том атрымаўся аб'ёмным, амаль 50 ўлікова-выдавецкіх аркушаў. Пра выданне расказаў прэзідэнт "Тэхналогіі" Вацлаў Багдановіч.

Другая кніга — проста унікальная: "Збудавецце" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, да выхаду якой спрычынілася выдавецтва "Поліфакт", якое ўзначальвае пісьменнік і прадпрымальнік Яўген Будзінас. На жаль, сам Рыгор Іванавіч не змог прысутнічаць на вечарыне — захварэў. "Новая ж яго кніга, — як сказана ў анатацыі, — стаіць панадворку народнага гумару, адлюстроўвае пачутае сярод людзей роднай яму Вушаччыны". Каб мець уяўленне аб зборніку, дастаткова згадаць яго раздзелы "Рагацце", "Прывабунькі" і інш. Прыемна кнігу і ўрукахпатрымаць: цудоўная папера, выкананне на высокім паліграфічным узроўні, да ўсяго сярод ілюстратараў — дачка паэта мастачка Ілона Барадуліна і яго ўнучка Дамінічка.

**Н. К.**

## БУДУЦЬ "БЕЛАРУСКІЯ ФАНФАРЫ"

**Не паспеем азірнуцца, як праміне красавік, а там — а там абвесцяць пачатак музычнага свята звонкія галасы аматарскіх духавых аркестраў. Лепшыя з такіх калектываў збяруцца з усяе рэспублікі ў Баранавічах на фестываль "Беларускія фанфары-96". Пройдзе ён 17—19 мая, і за гэты час адбудзецца не толькі праслухоўванне абавязковых праграм членамі журы (старшыня — народны артыст Беларусі прафесар Б. Пянчук), а і канцэрты ўдзельнікаў фэсту на сцэнічных пляцоўках горада і раёна, і занятк і творчай лабараторыі кіраўнікоў калектываў, і выступленне зводнага духавога аркестра.**

**Ладзяць фестываль "Беларускія фанфары" Міністэрства культуры, упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкома, Баранавіцкія гарадскі і раённы выканкомы. Мэтаю ставіцца актывізацыя творчай дзейнасці самадзейных духавых аркестраў, павышэнне мастацкага ўзроўню іх рэпертуару, прапаганда і папулярызацыя на Беларусі духавой музыкі. У конкурснай праграме мусяць быць самыя розныя творы: класічны, эстрадны, для саліста з аркестрам, старадаўні марш або вальс і, вядома, п'еса беларускага аўтара. Праграма, абавязковая для выканання зводным аркестрам, уключае творы І. Лучанка ды Б. Пенчука.**

## ЗАСТАЕЦЦА І ВЯРЭДЗІЦЬ ДУШУ...

**Адкрыццё выставы жывапісу Славы Захарынскага, што днямі спрэзентавана была ў Нацыянальнай мастацкай галерэі мастацкім цэнтрам "Жылбел", сабрала прадстаўнічую суполку мінскага дыпламатычнага корпуса, мастацкага і вакол-мастацкага асяроддзя, ну і, натуральна, журналістаў. Зрэшты, і рэклама выставе была адпаведная — ад шыкоўна выдадзеных запрашэнняў, каляровых каталогаў і транспарантаў на праспекце да ўнушальнай аховы на ўваходзе.**

**Слава Захарынскі — афіцыйны прадстаўнік Еўрапейскай акадэміі мастацтваў Варшавы, яго работы знаходзяцца ў шматлікіх прыватных замежных зборах. Родам з Палесся, ён не быў дужа знаёмы беларускай публіцы. Але падобна, што гэты мастак знайшоў той псіхалагічны "ход", які дазволіў яму прыцягнуць увагу гледачоў, зрабіўшы свае палотны перавернутым люстэркам падсвядомага. Скрыўленыя твары святых, вочы жахлівых монстраў (цыклы "Фарысеі", "Грэшнікі"), жанчыны, якія нават сярод вясёлкавай квецені нібы скручаны нечалавечай пачварнасцю ("Ню") — усё гэта, трэба аддаць належнае, выпісана дасціпна і стылёва.**

**Але застаецца і вярэдзіць душу пытанне — чаму так заварожвае нас сузіранне чалавечага звыродства?**

**Н. К.**

## ПАМЯЦІ БАРЫСА САЧАНКІ

**Адбылося пасяджэнне камісіі па творчай спадчыне Барыса Сачанкі, створанай Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Старшынёй яе выбраны вядомы крытык і літаратуразнаўца, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Серафім Андраюк. Вялася гаворка аб увекавечанні памяці Барыса Іванавіча — таленавітага пісьменніка і вядомага дзеяча нацыянальнага Адраджэння. Прынамсі, мяркуецца выйсці з прапановай у адпаведныя інстанцыі аб наданні імя Б. Сачанкі вуліцам у Мінску і Хойніках, Вялікаборскай сярэдняй школе Хойніцкага раёна, устанаўленні на яго магіле за кошт дзяржавы надмагільнага помніка... Прымаюцца захады, каб выдаць Збор твораў Б. Сачанкі ў 8 тамах, кнігу ўспамінаў пра яго, а таксама нарыс яго жыцця і творчасці.**

## НА ЎГОДКІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**Па ініцыятыве Беларускага Праваслаўнага Брацтва Святых Віленскіх Мучанікаў у Свята-Петра-Паўлаўскім саборы адбудзецца памінальная служба па Ларысе Антонаўне Геніюш — на ўгодкі яе спачыну, 7 красавіка а 14 гадзіне. Запрашаюцца ўсе, каму дарагая памяць пра слынную пясьнярку, хто жадае памаліцца за душу яе.**

# "ДУНДЭ" — ЗНАЧЫЦЬ "РАЗУМЕЦЬ"

***З нагоды 70-ай гадавіны з часу ўтварэння Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі карэспандэнт "ЛіМа" Алесь МАРЦІНОВІЧ гутарыць з членам прэзідыума БелТД, старшынёй таварыства "Беларусь—Кітай" Анатолем ВЯРЦІНСКІМ.***

**— Хацеў бы пачаць, Анатоль Ільіч, з такога ўспаміну. Помню, як вы ў вашу бытнасць рэдактарам "ЛіМа" вярнуліся з паездкі ў Кітай і, дзелячыся багатымі ўражаннямі, частавалі завараным тут жа ў рэдакцыі сапраўдным кітайскім чаем і нас, і нашых суседзяў з часопісаў "Беларусь" і "Полымя".**

— Так, было такое. Напрыканцы траўня 1988 года. Я ездзіў тады ў Кітай у складзе дэлегацыі рэдактараў літаратурных выданняў. Запрасілі і прымалі нас Саюз кітайскіх пісьменнікаў і яго друкаваныя органы. Потым, памятаеш, мы ў сваю чаргу прымалі ў верасні таго ж года вялікую групу кітайскіх паэтаў і празаікаў, змясцілі на старонках тыднёвіка некалькі публікацый, прысвечаных беларуска-кітайскім літаратурным сувязям.

**— А да гэтага, яшчэ раней, вы звярталіся да кітайскай тэмы ў сваёй паэзіі. Прыгадваюцца вершы "Хунвэйбіны", "Размова з Ду Фу..."**

— Ну так. Цікавіўся кітайскай філасофіяй, збіраў старажытную кітайскую паэзію (балазе, выдаваліся пераклады з яе), і вось пад уражаннем ад зборніка вершаў Ду Фу, паэта VIII стагоддзя, напісаў уласны верш у форме размовы з класікам. Не ўсе свае вершы помню, а гэты ведаю на памяць:

**— А як бы ты хацеў, Ду Фу, пражыць?**
**— Свайму народу я б хацеў служыць.**
**Хацеў бы, як мужчына, жыць без страху,**
**Хацеў бы акіянскага размаху...**
**Вось так размову мы з Ду Фу вялі.**
**Не падзялялі нас ні дзесяць тысяч лі,**
**ні сотні год, ні розніца між мовамі,**
**ні сцены (як старыя, так і новыя).**
**Быў мне Ду Фу — як самы блізкі друг.**
**Вітаў над намі чалавечы дух.**
**Як брат, са мною гаварыў Ду Фу...**
**Чытаў я кнігу, за страфой страфу.**

Дарэчы, знаёмства з вялікім кітайскім паэтам мела потым цікавы працяг. Падчас маёй другой паездкі ў Кітай, ужо ў якасці старшыні таварыства, мы наведалі горад Чэньду — сталіцу паўднёвай правінцыі Сычуань (гэта каля 3 тысяч кіламетраў ад Пекіна). І тут высветлілася, што мы знаходзімся на, так бы мовіць, малой радзіме Ду Фу і што на ўскраіне горада ёсць яго музей, які так і называецца "Хаціна Ду Фу". Знайшлі ў праграме "фортку" і паехалі паглядзець "хаціну". І тут я не вытрымаў у нейкі момант і стаў чытаць кітайскім сябрам сваю "Размову з Ду Фу". Уладзімір Гілеп потым расказваў: "Падышоў я, гляджу, слухаю і дзіву даюся: у хаціне Ду Фу, пад яго партрэтам гучыць па-беларуску верш, прысвечаны гаспадару хаціны. Фантастыка!" Папраўдзе кажучы, мне і самому той эпізод запомніўся на ўсё жыццё.

**— Я прысутнічаў на адкрыцці Тыдня кітайскай культуры, якое адбылося ў Доме дружбы ў сярэдзіне лютага. Было шмат людзей, прысутнічалі прадстаўнікі кітайскай амбасады на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Чжао Сідзі. Скажыце некалькі слоў пра ўтварэнне таварыства "Беларусь—Кітай", пра яго дзейнасць, яго справы.**

— Беларуска-кітайскія культурныя дачыненні маюць ужо даволі багатую традыцыю. Праўда, з 1960 па 1991 гг. Таварыства функцыянавала як рэспубліканскае аддзяленне таварыства савецка-кітайскай дружбы. Пасля таго, як мы сталі суверэннай дзяржавай, яно было пераўтворана ў нацыянальную грамадскую арганізацыю (у кастрычніку 1991 года). Новы адчувальны імпульс і новы маштаб дзейнасці таварыству надалі ўстанаўленне дыпламатычных адносін паміж КНР і Рэспублікай Беларусь, заключэнне шэрагу міжурадавых пагадненняў (апошняе падпісана нядаўна падчас візіту ў Беларусь намесніка міністра культуры Кітая). Заўважу, што большасць мерапрыемстваў таварыства праводзіць з удзелам ці пры самай актыўнай падтрымцы кітайскага пасольства. Яго прадстаўнікі — частыя госці ў Доме дружбы і культурнай сувязі.

На рахунку таварыства "Беларусь—Кітай" нямала цікавых ініцыятыў і добрых спраў. Тут — і прыём дэлегацый, і арганізацыі самых розных выставак і тэлеперадач, і спрыянне ўзаемаабмену ў галіне культуры, мастацкага перакладу, адукацыі і эканамічнага супрацоўніцтва, і правядзенне вечарын, прысвечаных нацыянальным святам КНР, у прыватнасці сустрэчы новага года па ўсходнім календары. Пераконваюся на вопыце дзейнасці таварыства ў важнасці і эфектыўнасці так званай грамадскай, народнай дыпламатыі.

Асобным радком хацеў бы адзначыць, што ў дзейнасці таварыства вялікае месца займала і, спадзяюся, будзе займаць надалей супрацоўніцтва ў галіне аховы здароўя, у прыватнасці выкарыстанне вопыту кітайскай народнай медыцыны для мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Таварыства садзейнічала прыезду ў Беларусь вялікай групы кітайскіх спецыялістаў па супрацьрадыяцыйнай медыцыне, якія на працягу 9-ці месяцаў старанна праводзілі абследаванне і лячэнне жыхароў тых раёнаў краіны, якія пацярпелі ад іанізуючай радыяцыі. З другога боку, група нашых урачоў выязджала ў г. Цяньцзінь і на працягу 6 месяцаў вывучала метады традыцыйнай кітайскай медыцыны.

**— Бачу, што таварыства "Беларусь—Кітай" сустракае 70-годдзе з дня ўтварэння БелТД рэальнымі дасягненнямі.**

— У пэўным сэнсе так. Але тут я хацеў бы аддаць належнае перш за ўсё кіраўнікам праўлення БелТД Арсеню Ваніцкаму і Ніне Івановай, яго супрацоўніцы, нязменнаму сакратару беларуска-кітайскага таварыства Алене Мілаванавай. Цяжка пераацаніць іх працу, нялёгкую, не пабаюся сказаць, самаахвярную працу ўсіх супрацоўнікаў Дома дружбы. І ў мяне нават з'явілася жаданне павіншаваць іх з надыходзячым юбілеем вершаванымі радкамі:

**На Захарава, дваццаць восем,**
**запрашаем, ласкава просім.**
**Запрашаем не ваяваць —**
**мірна гутарыць, сябраваць.**
**Запрашаем з мэтай адною —**
**быць сябрамі, быць раднёю,**
**быць сям'ёй людской, — незалежна,**
**ці ты свойскі, ці ты з замежжа.**
**Расчыняем гасцінна дзверы —**
**дзеля згоды, любові і веры.**
**Час трывожны, час напружаны?**
**Але ж ёсць такі дом — Дом дружбы.**
**Запрашаем, ласкава просім —**
**На Захарава, дваццаць восем!**

## ПЕРШЫЯ ПЕРАМОЖЦЫ

Наш штотыднёвік неаднойчы інфармаваў чытачоў аб адкрытым конкурсе на новыя гуманітарныя падручнікі і7 вучэбныя дапаможнікі для сярэдніх школ і ВНУ. Конкурс быў абвешчаны ў пачатку 1994 года Праграмай "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі ў Беларусі" Беларускага фонду Сораса сумесна з Міністэрствам адукацыі і навукі нашай краіны. На першы тур конкурсу было пададзена 344 заяўкі (разам з пробнымі главамі), на другі — 207 напалову гатовых кніг і, нарэшце, на трэці, апошні, тур — 130 завершаных рукапісаў.

Нарэшце, прыйшоў час ужо не папярэдніх вынікаў: на апошнім туры 56 рукапісаў атрымалі станоўчыя рэцэнзіі. 11 сакавіка Стратэгічны камітэт Праграмы "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі" рэкамендаваў да выдання першыя 20 дапрацаваных падручнікаў. Астатнія рукапісы будуць разгледжаны пасля дапрацоўкі.

Стратэгічны камітэт Праграмы працаваў у такім складзе: прадстаўнік Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, рэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта акадэмік Анатоль Міхайлаў, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік Радзім Гарэцкі, акадэмік РАН, замежны член Акадэміі навук Беларусі Вячаслаў Сцёпін, прэзідэнт Амерыканскага Савета выкладчыкаў рускай мовы прафесар Дэн Дэвідсан, выканаўчы дырэктар Беларускага фонду Сораса Пітэр Берн.

Першымі пераможцамі адкрытага конкурсу сталі (друкуем па алфавіту, з захаваннем мовы арыгінала):

**Адамовіч Г. Я.** З крыніц сусветнай літаратуры (Кніга для настаўнікаў); **Баршчэўскі Л. П.** Літаратура ад антычнасці да пачатку XIX стагоддзя (Дапаможнік для сярэдніх школ); **Барышаў Г. І.** Батлейка (Для ВНУ, ліцэяў, каледжаў); **Бондаренко В. В.** Князь Вяземский. Жизнеописание (Для вузов и школ); **Вовшин Я. М., Панова И. М.** Английский в шутку и всерьез (Для вузов и лицеев); **Евчик Н. С., Совкова С. В.** Понимай и говори по-французски (Для детей с дефектамислуха); **Іванова С.Ф., Іваноў Я. Я.** Слоўнік беларускіх афарызмаў (Для ВНУ, школ); **Крывіцкі А. А.** Дыялекталогія беларускай мовы (Для ВНУ); **Метлюк А.А., Евчик Н. С., Крылович М.Ю.** Практикум по интонации русской речи для учащихся с дефектами слуха (Для средней школы); **Метлюк А. А., Рудицкая Т.Н.** Английский язык для слабослышащих (Для средней школы); **Наумова С. А.** Что надо знать о политике (Для старших классов средней школы); **Нефагина Г. Л.** Русская проза 80-90-х годов XX века (Для вузов); **Салахаў А. В.** Займальна ад А да Я (Для вучняў пачатковай школы); **Синило Г. В.** Древние литературы Ближнего Востока и мир Танаха (Ветхого Завета)/(Для вузов); **Скоропанова И.С.** Русская постмодернистская литература (Для вузов); **Смагина Л.И., Бубен С.С., Леонова Г. М.** Права ребенка (Для средней школы); **Сямешка Л.І.** Беларуская мова: уводзіны ў навуку аб мове. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія (Для ліцэяў, каледжаў, сярэдніх школ); **Тычына М. А.** Беларуская літаратура XX стагоддзя (Для ліцэяў, каледжаў, сярэдніх школ); **Цвірка К.А., Цвірка Н. Р., Тычка Г. К., Хаўстовіч М. К.** Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Класіцызм. Сентыменталізм. Ра-мантызм. (Хрэстаматыя для ВНУ); **Шпакоўскі І. С., Васілевіч У. М., Казбярук У. М., Кісялёў Г. В., Мархель У.І .** Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: 2-ая палавіна (Хрэстаматыя для ВНУ).

Беларуская Асацыяцыя Чарнобыльскіх арганізацый «26 апреля»
Беларускі Фонд Сораса
Беларускі Саюз архітэктараў
Беларускі Саюз мастакоў
Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь
Мінгарвыканкам

**АБВЯШЧАЮЦЬ**

**адкрыты КОНКУРС**
**праектаў мемарыяльнага знака,**
**прысвечанага**
**10-годдзю Чарнобыльскай катастрофы,**
**- у памяць аб героях і ахвярах гэтай трагедыі.**

Конкурс праводзіцца ў перыяд
з ***25 сакавіка*** да ***15 чэрвеня 1996 года.***
Тэрмін прадстаўлення конкурсных прац -
да ***1 чэрвеня 1996 года.***

Для пераможцаў конкурсу ўстанаўліваюцца наступныя прэміі:
- адна першая прэмія ў памеры **1000 долараў ЗША** - з правам рэалізацыі праекту;
- дзве заахвочвальныя прэміі ў памеры **250 долараў ЗША** кожная.

***Прэміі пераможцам выплочвае Беларусі Фонд Сораса.***

Мэта стварэння такога праекту - распрацоўка аб'ёмна-планіровачнага і архітэктурна-мастацкага рашэння мемарыяльнага знака, які б адлюстраваў глабальны маштаб Чарнобыльскай катастрофы, мужнасць і гераізм удзельнікаў ліквідацыі яе вынікаў.
У праектных прапановах неабходна ўлічыць, што «сцяна памяці», якая ўшануе імёны загінуўшых у выніку Чарнобыльскай катастрофы, павінна скласці адзіны архітэктурна-мастацкі комплекс з памятным камянём і праектуемай каплічкай на абранай пляцоўцы (на скрыжаванні вуліц Арлоўская і Карастаянавай у г. Мінску).

*Дэманстрацыйныя матэрыялы выконваюцца ў адвольнай графіцы на падрамніках або картонках памерам 50 см.*

Конкурсныя праекты прадстаўляюцца на адрас
**Беларускага Саюза архітэктараў:**
***220050 г.Мінск, вул. К.Маркса, 14.***
***Даведкі па тэлефоне: 27-76-55***

# “ВОРАГІ НАРОДА”

## М. ЛЫНЬКОЎ, П. ПАНЧАНКА І ІНШЫЯ...

НА АДНЫМ з пасяджэнняў XVII з’езда КП(б)Б, які адбыўся ў чэрвені 1938 года, першаму сакратару ЦК А. Волкаву паведамілі, што ў Саюз пісьменнікаў БССР прынялі некалькіх маладых літаратараў, на якіх у НКУС рэспублікі заведзена агентурная справа. Інфармацыя была “вельмі дарэчы”, бо ў справаздачным дакладзе пра дзейнасць творчых саюзаў гаварылася мала, і гэты недагляд можна было выправіць у заключным слове. Атрымлівалася, што, пры патуранні кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў пасля праведзенай чысткі ў 1937 г., ворагі зноў пранікаюць у пісьменніцкі саюз. Таму першы сакратар адразу ж запатрабаваў тлумачэнняў у дэлегата з’езда, старшыні ССПБ М. Лынькова і пісьмовага пацвярджэння ў другога дэлегата, наркома НКУС БССР А. Наседкіна.

М. Лынькоў свае тлумачэнні перадаў 13 чэрвеня. Калі меркаваць па тым, як яны напісаны, то можна зрабіць выснову, што старшыня саюза рыхтаваў іх тут жа, у зале пасяджэнняў з’езда. М. Лынькоў даў станоўчую ацэнку як творчасці, так і грамадскай дзейнасці маладых пісьменнікаў, звестак пра якіх ад яго патрабавалі, аднёс іх да ліку здольнай, таленавітай творчай моладзі,якаяпішанасучасную тэму.

Тэкст тлумачэнняў выяўлены ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (фонды былога партыйнага архіва).

ЗВЕСТКІ
АБ ГРУПЕ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

1. Эдзі **Агняцвет**, 1914 года нараджэння, камсамолка, актыўная грамадская работніца, працуе прапагандыстам на выбарчым участку, выбрана ў давераныя.

Напісала паэму “Фелікс Дзяржынскі” і шэраг асобных вершаў.

З кандыдатаў пераведзена ў члены Саюза ў канцы 1937 года.

2. **Кандраценя** Уладзімір, 1917 года нар., камсамолец, з калгаснікаў. Вучыцца ва універсітэце.

Прыняты ў Саюз у 1937 годзе кандыдатам, у маі месяцы 1938 г. пераведзены ў члены Саюза.

Напісаў вельмі яркую, праўдзівую аповесць пра сучаснае калгаснае жыццё, пра зжыванне перажыткаў капіталізму ў свядомасці людзей.

Сам па сабе сціплы, працавіты хлопец.

3. **Дзяхцяр** Моня, нараджэння 1909 года, з рабочых, яўрэй, здольны празаік.

Напісаў цэлы шэраг добрых апавяданняў з сучаснага рабочага жыцця. У цяперашні час вучыцца.

Прыняты кандыдатам у члены Саюза ў канцы 1937 года. Ставіцца пытанне аб пераводзе яго ў члены Саюза.

4. **Панчанка** Пімен, нараджэння 1917 года, камсамолец, малады настаўнік Кіраўскага раёна.

Здольны малады паэт. Піша на сучасныя тэмы.

Прыняты ў Саюз у 1938 годзе.

5. **Жаўрук** Алесь, паходжаннем з інтэлігентнай сям’і. Напісаў хвалюючую паэму аб рэвалюцыйнай Іспаніі, вялікі верш, прысвечаны юнацкім гадам І. В. Сталіна, і шэраг асобных вершаў.

Вучыцца, пасланы намі на вучобу ў Маскву.

Прыняты ў Саюз у канцы 1937 года.

6. **Калачынскі** Міхаіл, 1917 года нараджэння, з калгаснікаў, камсамолец. Малады паэт. Даў шэраг някепскіх твораў. Напісаў кніжку для дзяцей “Косця-чэкіст”.

Прыняты ў Саюз у канцы 1937 года.

7. **Краўчанка** Усевалад, 1915 года нараджэння, з сям’і сельскага настаўніка. Піша шэраг апавяданняў з сучаснага калгаснага жыцця.

Прыняты ў Саюз у канцы 1937 года.

Налічваецца больш за 30 маладых, пачынаючых аўтараў, якія праяўляюць нядрэнныя здольнасці. За кошт іх будзе расці ў бліжэйшыя гады Саюз савецкіх пісьменнікаў.

Як правіла, маладыя таварышы пішуць на сучасную тэматыку. Усе гэта — здольныя, таленавітыя людзі, не сапсаваныя ні “славай”, ні іншымі парокамі, не зжытымі яшчэ ў літаратурным асяроддзі.

*13/VI-38 г.*

**Міхась Лынькоў**

Станоўчыя ацэнкі згаданых літаратараў старшыня саюза паўтарыў і ў сваёй прамове на з’ездзе, з якой выступіў 14 чэрвеня. У ёй ён гаварыў: “У Саюз савецкіх пісьменнікаў прыйшлі новыя кадры маладых, здольных, таленавітых таварышаў. Мы прынялі ў саюз таварышаў, што нарадзіліся ў большасці ў 1915—17 гг., якія пішуць выключна на нашу сучасную тэматыку”. Па правілах таго часу не былі абыдзены, зразумела, і пытанні барацьбы з ворагамі народа: “Ачышчэнне ад ворагаў, ад усялякай нечысці, якое праведзена нашымі слаўнымі органамі НКУС, аздаравіла літаратурную арганізацыю, стварыла ўсе магчымасці, усе перадумовы для творчай работы”. Архіў захаваў рэпліку А. Волкава на гэтую фразу: “Не зусім ачысціліся!”

Прамова была апублікавана на старонках рэспубліканскіх газет 17 чэрвеня.

У дзень выступлення на з’ездзе М. Лынькова першы сакратар ЦК атрымаў інфармацыю і з IV аддзела НКУС. Яе падпісаў начальнік VI аддзялення IV аддзела Фёдараў, які, як відаць, непасрэдна займаўся зборам агентурных матэрыялаў на маладых пісьменнікаў, западозраных у стварэнні групы “на антысавецкай аснове”. Агентурную справу назвалі “Арганізатары”.

Тэкст інфармацыі быў наступны:

**т. Волкаву**
толькі асабіста

**Даведка**
аб наяўных у IV аддзеле аг(ентурных) матэрыялах на групу маладых беларускіх пісьменнікаў

1. **Панчанка** Пімен — 1917 г. н., камсамолец, настаўнік Кіраўскага раёна.

Распрацоўваецца па аг(ентурнай) справе “Арганізатары”. Па аг(ентурных) дадзеных, ён разам з маці пражываў у Польшчы ў 1920—21 гг. У дом яго маці заходзілі польскія жаўнеры і папярэдзілі, што іх заўтра арыштуюць, няхай ноччу ўцякаюць. У сілу гэтых прычын ён з маці перайшоў на жыхарства ў СССР. Панчанка антысавецкі настроены. Звязаны з шэрагам распрацоўваемых намі ўдзельнікаў нацфашысцкай арганізацыі з асяроддзя бел(арускіх) пісьменнікаў (аг(ентурная) справа “фашысты”).

Панчанка абараняе аграрную палітыку Гітлера, заяўляючы: “Гітлер усё ж геніяльны і моцны чалавек. У яго прыёмнай сустракаюцца відныя дзеячы капіталістычнага свету. Ад яго цяпер залежыць лёс не толькі Еўропы, але і Азіі і Амерыкі”.

2. **Кандраценя** Уладзімір — 1917 г. н., з калгаснікаў, вучыцца ва універсітэце.

Распрацоўваецца па аг(ентурнай) справе “Арганізатары”. Звязаны з шэрагам удзельнікаў нацфашысцкай арганізацыі з асяроддзя пісьменнікаў.

Па ініцыятыве стар(шыні) Саюза пісьменнікаў Лынькова Кандраценя разам з Панчанкам на праходзячым у маі месяцы г. г. у Мінску пленуме Саюза пісьменнікаў, нягледзячы на тое, што яны творча сябе яшчэ не праявілі, былі пераведзены з кандыдатаў у члены Саюза пісьменнікаў БССР. На ўказаным пленуме выступаўшыя пісьменнікі, удзельнікі распрацоўкі “фашысты” Броўка і іншыя абаранялі Кандраценю і Панчанку, вылучаючы іх з асяроддзя іншых маладых пісьменнікаў.

3. **Краўчанка** Усевалад — 1915 г. нараджэння, член Саюза пісьменнікаў.

Звязаны з распрацоўваемай па аг(ентурнай) справе “Арганізатары” Панчанкам Піменам (блізкія сябры).

4. **Каган-Агняцвет** Эдзі — 1914 г. нараджэння, камсамолка.

5. **Дзяхцяр** Моня — 1909 г. н.

6. **Жаўрук** Алесь — член Саюза пісьменнікаў.

7. **Калачынскі** Міхаіл — 1917 г. н., камсамолец.

На апошніх 4-х кампраметуючых матэрыялаў няма.

Нач. VI аддз(ялення) IV аддзела УГБ НКУС сяржант дзяржбяспекі **Фёдараў**

*14 чэрвеня 1938 г.*

З-за таго, што “кампраметуючага матэрыяла” яўна не хапала, а на чатырох маладых літаратараў іх зусім не было, А. Волкаў вымушаны быў прызнаць, што “сенсацыі” з гэтай справы не атрымаецца і ўзнімаць пытанне аб ёй на з’ездзе падстаў няма. На старонцы даведкі насупраць прозвішчаў чатырох усё ж напісаў чырвоным алоўкам: “На іх ніякіх кампраметуючых звестак няма, але яны не аўтарытэтныя сярод маладых пісьменнікаў”.

Міхась Лынькоў, па сутнасці, сарваў сваімі “звесткамі” і выступленнем на з’ездзе чарговую правакацыю, якую рыхтаваў супраць пісьменніцкай арганізацыі IV аддзел НКУС БССР на чале з яго начальнікам В. Ермалаевым. Гэтага яму не даравалі, і 19 чэрвеня ў ЦК КП(б)Б паступіў новы “кампрамат” — цяпер ужо на самога старшыню ССПБ, кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР М. Лынькова:

<u>Зусім сакрэтна</u>

**Даведка**
на кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Суражскай выбарчай акрузе Лынькова Міхаіла Ціханавіча

Выкрыты намі ўдзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі (...) (прозвішча ў даведцы названа. — **Р. П.**) на следстве паказаў, што яму вядома пра тое, што Лынькоў Міхаіл Ціханавіч з 1925 года актыўна праводзіў контррэвалюцыйную нацдэмаўскую дзейнасць.

Лынькоў напісаў шэраг к(онтр)-р (эвалюцыйных) вершаў: “Васілёк”, у якім апяваецца беларуская самабытнасць, “Беларусь зажыве” — трактуецца, што беларускі народ пасапраўднаму свабодна зажыве толькі тады, калі БССР далучыцца да Заходняй Беларусі, верш “Пража” з махровай контррэвалюцыйнай трактоўкай. (...) пералічвае 9 удзельнікаў, якія ўваходзілі ў створаную Лыньковым Міхаілам контррэвалюцыйную групу ў г. Бабруйску, у якую ўваходзіў і сам (...).

У ліку гэтых блізкіх сувязей Лынькова Міхаіла называюцца выкрытыя намі, як




*Курапаты. Дзяды.*

удзельнікі контррэвалюцыйнай арганізацыі, Кляшторны Ф., Залуцкі В., Гарбуз І. П.

У 1926—31 гг. група Лынькова праводзіла шкодную работу. Засмечвалі беларускую мову, паланізавалі яе.

Дадзенымі агентуры таксама пацвярджаецца, што ў Мінску існуе К(контр)-р(рэвалюцыйная) група пісьменнікаў, у якую ўваходзіць і Лынькоў Міхаіл.

Шэраг твораў Лынькова друкаваўся ў фашысцкай прэсе за мяжой. Друкаваліся адно з яго апавяданняў і рэцэнзія на раман Лынькова “На чырвоных лядах”. Апавяданне “Воўчы лог” Лынькова, таксама як і яго раман нацдэмаўскага зместу.

Звяртае на сябе ўвагу такі факт: на праходзіўшым у маі г. г. пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў Лынькоў заклікаў у абарону маладых пісьменнікаў Кандраценi і Панчанкі, на якіх мы маем дадзеныя пра іх сувязі з нацыянал-фашыстамі, і тут жа ён пленуму прапанаваў перавесці абодвух з кандыдатаў у члены Саюза пісьменнікаў, хоць апошнія творча сябе не праявілі.

22 мая г. г. па дадзеных агентуры стала вядома, што на кватэры пісьменніка Крапівы пісьменнікі Глебка і Чорны (удзельнікі нацфашысцкай арганізацыі) у размове заявілі: “А калі Лынькоў абараняе Александровіча, трэба яго і іншых (гаворка ідзе пра групу пісьменнікаў былых “узвышанцаў”) запалохаць”.

Нац. IV аддзела УГБ НКУС БССР ст. лейтэнант дзяржбяспекі

**Ермалаеў**

*19 чэрвеня 1938 г.*
*г. Мінск.*

Але ў ЦК КП(б)Б пасля XVII з’езда з’явіліся новыя людзі (А. Волкава, які, як сказаў у прамове на з’ездзе сакратар ЦК ВКП(б) А. Андрэеў, “не спраўляецца са сваімі абавязкамі”, на пасадзе першага сакратара замяніў П. Панамарэнка), з імі прыходзілі і новыя парадкі. “Справу” на М. Лынькова заводзіць не сталі. На некаторы час страціла актуальнасць і агентурная распрацоўка “Арганізатары”. У НКУС жа, аднак, пра яе не забыліся і працягвалі паглыбляць і папаўняць паведамленнямі падключаных да яе агентаў і асведамляльнікаў. Прыйшоў час, калі новы нарком Унутраных спраў БССР Л. Цанава, які замяніў на гэтай пасадзе Наседкіна, палічыў патрэбным інфармаваць першага сакратара ЦК Панамарэнку аб ходзе і выніках праведзенай работы:

<u>Зусім сакрэтна</u>

Сакратару ЦК КП(б) Беларусі
таварышу Панамарэнку

**Дакладная запіска**
па аг(ентурнай) распрацоўцы па-антысавецку настроенай часткі студэнтаў Мінскага педінстытута і выкладчыкаў сярэдніх школ у раёнах Мінскай і Магілёўскай абласцей па стану на 28 лютага 1939 г.

**Агентурная справа “Арганізатары”**

У чэрвені месяцы 1938 года на падставе паступіўшых да нас агентурных матэрыялаў ад агента “Палонскага” і матэрыялаў следства.

Па агентурнай справе “Арганізатары” намі распрацоўваюцца як актыўныя ўдзельнікі антысавецкай групы шэсць чалавек, акрамя таго, па матэрыялах справы праходзіць шэраг асоб з ліку іх сувязей, распрацоўваемых па агентурнай справе “Фашысты”.

Найбольш актыўнымі ўдзельнікамі распрацоўкі з’яўляюцца маладыя пісьменнікі з ліку студэнтаў Мінскіх педагагічнага і настаўніцкага інстытутаў, а таксама тыя, хто закончыў у 1938 годзе Мінскі педінстытут і працуе ў цяперашні час на педагагічнай рабоце ў сярэдніх школах Мінскай і Магілёўскай абласцей.

1. **Няхай** Гаўрыла Іосіфавіч, 1915 г. н., урад(жэнец) вёскі Сяліба, Бярэзінскага раёна БССР, настаўнік беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе ў вёс(цы) Калодзішчы Мінскага раёна, пражывае ў вёс(цы) Калодзішчы. З’яўляецца завочнікам 2-х гадовага Мінскага настаўніцкага інстытута.

2. **Казека** Іван Дарафеевіч, 1915 г. нараджэння, урад(жэнец) вёс(кі) Кострычы, Любавіцкага сельсавета, Кіраўскага раёна БССР, пражывае ў м(ястэчку) Дукоры, Рудзенскага раёна, з сялян. Працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. У 1938 годзе закончыў Мінскі педагагічны інстытут.

3. **Кандраценя** Уладзімір Ігнатавіч, 1917 года нараджэння, урад(жэнец) вёс(кі) Смолічы, Краснаслабодскага раёна, БССР, пражы(вае) у гор. Мінск, інтэрнат педінстытута, беларус, член ЛКСМБ, з сялян, студэнт 4-га курса літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Член Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

4. **Грамовіч** Іван Іванавіч. 1918 г. нараджэння, урад(жэнец) Крупіцкага сельскага Савета, Мінскага раёна, БССР, беспартыйны, студэнт 4-га курса літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута.

5. **Бачыла** Аляксандр Мікалаевіч, 1918 г. нараджэння, ураджэнец вёскі Лошніца, Перашскага с(ельскага) Савета, Смілавіцкага раёна, БССР, пражывае ў вёс(цы) Сінега, Мінскага раёна, беларус, выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе ў вёс(цы) Сінега. З’яўляецца завочнікам 2-х гадовага настаўніцкага інстытута ў гор. Мінску.

6. **Панчанка** Пімен Емяльянавіч, 1917 г. нараджэння, член ЛКСМБ, настаўнік беларускай мовы і літаратуры адной з сярэдніх школ у Кіраўскім раёне, БССР, член Саюза савецкіх пісьменнікаў. Па аг(ентурных) дадзеных, у 1921 годзе маці яго разам з ім перайшла дзяржмяжу на бок СССР з Польшчы.

Агентурнымі дадзенымі ўстаноўлена, што распрацоўваемыя намі асобы раней былі звязаны з актыўнымі ўдзельнікамі контррэвалюцыйнага нацыянал-фашысцкага падполля Беларусі.

Казека раней быў звязаны з выкрытымі актыўнымі ўдзельнікамі контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі — Піятуховічам, Замоціным, Знаёмым, Мікулічам Барысом і выкрытымі намі ворагамі народа был(ымі) студэнтамі педінстытута — Шурпікам А. В. іВаладзько Д. П., якія паказалі, што Казека Іван з’яўляецца ўдзельнікам контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай групоўкі, па заданні якой вербавалі для антысавецкай работы студэнтаў Вышэйшага педагагічнага інстытута.

*(Працяг на стар.15)*

## "ТЫДНІ" ЯШЧЭ ЖЫВУЦЬ



Традыцыя "Тыдняў дзіцячай кнігі" засталася нам у спадчыну ад часоў савецкіх. Але хто скажа, што гэта благая традыцыя? Дзіцячая аўдыторыя Дома літаратара непасрэдна і жыва рэагавала на вершы, жарты, песні — на ўсё, што гучала са сцэны. А выступілі перад ёю У. Ліпскі, А. Вольскі, У. Ягоўдзік, бард Э. Акулін, старэйшы наш паэт А. Дзеружынскі.



Асобнай праграмай павінен быў прайсці творчы вечар паэткі Ніны Галіноўскай, але ён неяк згубіўся сярод астатняга. Тым не менш, нядаўнюю юбілярку цёпла павіншаваў мастацкі калектыў "Ліхтарык" сталічнага дзіцячага сада N 565. Яго выхаванцам пашанцавала: у іх ёсць "свой" кампазітар — музычны кіраўнік садка Святлана Галкіна. Прагучалі яе песні на словы Н. Галіноўскай. Артысты Вольнай сцэны прачыталі кампазіцыю па вершах юбіляркі, выступіў таксама кампазітар М. Чыркун.

**Г. З.**

*На здымках: на сцэне пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік; маленькія артысты з "Ліхтарыка".*

## "РОДНАЕ СЛОВА", № 3

**"Час вяртання даўгоў" — неюбілейныя нататкі П. Навуменкі з нагоды 100-гадовага юбілея К. Крапівы. У раздзеле "Філалогія" змешчаны таксама заканчэнне артыкулаў А. Лойкі "Ад Сярэднявечча да Адраджэння. Сацыяльна-гістарычныя абставіны развіцця беларускай літаратуры XIV—XVI стагоддзяў", Д. Бугаёва "Радасць і боль мастака. Роздум пра Івана Мележа з нагоды юбілею", працяг артыкула Л. Рублеўскай "Як мне далей любіць такі народ?". Беларускі міф у паэзіі маладых літаратараў 80—90-х гадоў, артыкулы П. Вашко "Аповед пра сатыру, альбо Адкуль да нас прыйшла сатыра", Е. Лявонавай "Прага духу. Генрых Ман і яго раман "Вернападданы", А. Шубадзёравай "Каламбуры ў п'есах Кандрата Крапівы і спосабы іх утварэння" і іншыя.**

**Пра вывучэнне твораў В. Ластоўскага ў сёмым класе разважае В. Ляшук ("Каб не забываліся людскія назовы сваёй". У полі зроку М. Жуковіча — аповесць М. Лынькова "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў" ("Сцежкамі маленства"). Л. Баршчэўскі працягвае знаёміць з літаратурай эпохі Адраджэння ("Франчэска Пятрарка. Сталае Адраджэнне").**

**"На беларускім экране — мінуўшчына" падзагаловак артыкула В. Нячай вызначае яго змест ("Гісторыя ў вобразах"). У "Анталогіі беларускага раманса" В. Скарабагатаў расказвае пра кампазітара В. Казлоўскага. У. Содаль ("У Мнішанах, побач з Люцінкай") знаёміць з мясцінай, дзе ў свой час працаваў К. Крапіва. Пра жонку Я. Коласа гаворка ў артыкуле В. Міцкевіч "...Мой добры друг, мая святыня..."**

# КАЛЯНДАР — ЖАНР СКЛАДАНЫ

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ

Той, хто думае, што скласці каляндар проста, глыбока памыляецца. У годзе 365 дзён, кожны год мае сваю лічбу. На кожны дзень трэба знайсці канкрэтны юбілей, гістарычны факт, нейкую значную дату (іх тысячы). А ў каляндар трапляюць персаналіі на "круглыя" даты: 50, 60, 70, 75, 80, 85, 90, 100, 110 і г.д. Не прынята ў практыцы выдання календароў адзначаць 55, 65, 95, 105 "годдзі", бо гэта не юбілеі для грамадскіх дзеячаў, працаўнікоў навукі, літаратуры, мастацтва і г.д. Гістарычныя факты, падзеі, праўда, могуць пад такія даты называцца. Таму падабраць матэрыял на кожны дзень — не лёгка. Трэба шмат і вельмі старанна, уважліва перагледзець мноства розных крыніц, даведнікаў, энцыклапедый. А ў кожным з іх, на жаль, бываюць фактычныя памылкі і памылкі друку, недакладнасці. Усё гэта трэба выверыць, пераправерыць. Не будзеш жа чытачу тлумачыць, што памылковая дата, калі яе заўважыць дасведчаны чытач, узята з неправеранай крыніцы. Трэба таксама пастаянна сачыць за датамі жыцця кожнай персаналіі, нават збіраць некралогі. Бо што ж гэта будзе за каляндар, калі чытач ведае, што, скажам, нейкага дзеяча ўжо даўно няма, а ён у календары падаецца як жывы?!

Шмат трэба працаваць, каб назваць у календары канкрэтную дату гістарычнай падзеі. У нашай навуковай, навукова-папулярнай літаратуры, падручніках многія гістарычныя падзеі, асабліва X—XIX стст., абазначаны пераважна толькі годам. А чытач хоча ведаць, у студзені гэта было ці ў красавіку, у чэрвені ці ў снежні, 8-га ці 10-га, 3-га ці 30-га. Хоча ведаць канкрэтную дату. І яе трэба шукаць разам з даследчыкамі-спецыялістамі, каб зада-воліць гэтае натуральнае жаданне чытача. Усё гэта патрабуе вялікіх высілкаў, ведаў, умення весці навуковы і бібліяграфічны росшук.

Што гэта сапраўды так, пацвярджае выдадзены нядаўна выдавецтвам "Полымя" перакідны каляндар на 1996 год (складальнік Г. Запартыка, рэдактар В. Пінчук). Каляндар гэты пераважна літаратурна-мастацкі. Такі каляндар сапраўды вельмі і вельмі патрэбны. Але ж патрэбны і іншыя, такія, якія прадаюцца ў нашых гарадах, але надрукаваныя ў Расіі. Патрэбны беларускія гістарычны і грамадска-палітычны календары, каляндар садоўніка і агародніка, для жанчын і для школьнікаў, для моладзі і для рукадзельніцаў, календары кулінарны, пчалярскі, гумарыстычны і многія іншыя.

Пакуль жа ў нас такіх календароў, на жаль, няма. Таму перакідны каляндар, які выдае "Полымя", павінен акумуляваць у сабе самую разнастайную тэматыку: гісторыю і розныя галіны навукі, культуру і спорт, асвету і друк, падзеі грамадскага і палітычнага жыцця і г.д.

Як жа названы каляндар адпавядае вышэйпералічаным патрабаванням? У ім як юбілеі ідуць і 55-, 65-, 95-, 105-гадовыя даты (гл. 2, 19, 23, 24, 29 студзеня, 12, 15, 23, 26 лютага, 1, 2, 6, 8 сакавіка, 10, 17, 18, 23 красавіка, 10, 12, 13, 22, 27 мая, 10, 13, 14, 16, 22, 28, 30 чэрвеня, 17 ліпеня і інш.). Затое не адлюстраваны, напрыклад, такія важныя для нашай беларускай гісторыі юбілеі, як 510 гадоў з дня нараджэння С. Верберштэйна (23.8.1486—1556), нямецкага дыпламата і падарожніка, які ў "Запісках аб маскоўскіх справах" (1549) апісаў беларускія крэпасці і гарады, побыт, абрады і вераванні беларусаў, заняткі сялян, падаў звесткі пра генеалогію вялікіх князёў ВКЛ і г.д.; 450 гадоў з дня нараджэння Ф. М. Еўлашоўскага (7.2.1546—пасля 1616), грамадскага дзеяча, навагрудскага падсудка (адваката), аўтара "Гістарычных запісак" — самага ранняга помніка мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры 16— пачатку 17 ст.; 255 гадоў з дня нараджэння Ж. Жылібера (21.6.1741—1814), французскага натураліста, які заснаваў у Гродне (1775) медыцынскую акадэмію, батанічны сад; 235 гадоў з дня нараджэння С. Юндзіла (6.5.1761—1847), беларускага пры-родазнаўца, аднаго з першых даследчыкаў расліннасці Беларусі; 220 гадоў з дня стварэння (4.9.1776) Полацкай губерні; 195 гадоў з дня стварэння Гродзенскай губерні (21.9.1801); 165 гадоў з дня нараджэння З. Чаховіча (19.8.1831—1907), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863-64 гг., бібліятэкай якога юны Я. Купала карыстаўся ў маёнтку Бясяды ў Лагойскім раёне; 165 гадоў з дня забароны (12.1.1831) царскім указам дзейнасці Статута ВКЛ 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губ.; 150 гадоў з дня нараджэння С. Каваліка (25.10.1846—1926), нарадавольца, ураджэнца Крычаўскага раёна; 140 гадоў з дня нараджэння Э. Вольтэра (18.3.1856—1941), гісторыка і этнографа, даследчыка балтыйскіх і славянскіх народаў, у т.л. беларускага; 115 гадоў з дня гібелі І. Грынявіцкага (жнівень 1855 — 13.3.1881), які кінутай бомбай забіў рускага цара Аляксандра II і смяротна параніў сябе; 110 гадоў з дня нараджэння М. Равенскага (2.12.1886—1953), беларускага кампазітара.

Не знойдзе чытач у календары 100-гадовыя юбілеі М. Шчаглова-Куліковіча (4.4.1896—1969), беларускага кампазітара; А. Антонава (27.9.1896—1962), генерала арміі, ураджэнца г. Гродна; Г. Жукава (1.12.1896—1974), маршала, чатыры разы Героя Савецкага Саюза, які з 1926 г. выкладаў ваенна-дапрызыўную падрыхтоўку ў БДУ на беларускай мове, з 1930 г. быў камандзіраваны 2-й кавалерыйскай брыгадай 7-й дывізіі (штаб у Мінску), 4-й кавалерыйскай дывізіі (база ў Слуцку), 3-га кавалерыйскага корпуса (штаб у Мінску), у 1938—39 гг. быў намеснікам камандуючага войскамі Беларускай ваеннай акругі; 90-гадовыя юбілеі І. Кавалёва (12.6.1906—1943), аднаго з кіраўнікоў Мінскага патрыятычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны; В. Дразда (16.9.1906—1943), віцэ-адмірала, ураджэнца Буда-Кашалёва; Ф. Гахава (19.2.1906—1980), матэматыка, акадэміка АН Беларусі.

Дарэчы, навукоўцы недаравальна мала прадстаўлены ў календары: няма там акадэміка АН Беларусі А. Красіна (21.5.1911—1981), вучонага ў галіне атамнай энергетыкі, М. Цапенкі (18.6.1911—1968), геолага, заснавальніка школы беларускіх геолагаў па вывучэнні антрапагену; Л. Барага (13.1.1911—1994), доктара гістарычных навук, даследчыка беларускай народнай казкі; У. Спрынджука (22.7.1936—1987), матэматыка, акадэміка АН Беларусі; П. Віцязя (нар. 6.8.1936), вучонага ў галіне машынабудавання, акадэміка АН Беларусі; Л. Гурскага (нар. 10.11.1936), фізіка, члена-карэспандэнта АН Беларусі; І. Гайшуна (нар. 29.9.1946), матэматыка, акадэміка АН Беларусі і г.д.

Не прадстаўлены ў календары і сучасныя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, чые імёны шырока вядомы грамадскасці: У. Каравая (нар. 10.5.1936), старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі; В. Кебіча (нар. 10.6.1936), дзяржаўнага дзеяча, акадэміка Міжнароднай інжынернай акадэміі; У. Сянько (нар. 5.8.1946), дзяржаўнага дзеяча, міністра замежных спраў нашай краіны; М. Дзямчука (нар. 28.5.1946), дзяржаўнага дзеяча, вучонага-фізіка, члена-карэспандэнта АН Беларусі, рэктара Беларускай політэхнічнай акадэміі і г.д.

Каляндар падпісаны да друку 22.6.1995 г. На гэтую дату павінны быць адлюстраваны ў календары гады смерці персаналій. На жаль, прайшлі як жывыя акцёр Р. Філіпаў (24.1.1936—1992); адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну І. Цяплінскі (27.1.1911—1987), паэт М. Рудкоўскі (17.4.1936—1991), мастак К. Касмачоў (7.5.1911—1992), паэт С.Гаўрусёў (10.5.1931—1988), пісьменнік М. Кругавых (12.5.1926—1994), мастацтвазнавец В. Царашчатава (24.7.1926—1992), літаратуразнавец П. Дзюбайла (5.8.1931—24.1.1995), паэт Я. Крупенька (20.8.1936—1990), публіцыст В. Праскураў (25.8.1926—1987), архітэктар Г. Парсаданаў (10.9.1911—1989), паэт П. Дабрыян (А. Сучок, 20.10.1916—1993), гісторык архітэктуры Ю. Якімовіч (13.10.1946—1994), фізік Б. Бокуць (27.10.1926—1993), гісторык мастацтва М. Кацар (7.11.1906—1995) і інш. А кампазітару і дырыжору А. Валынчыку, якому 18 ліпеня споўніцца 100 гадоў, дата смерці пазначана пытальнікам (памёр ён у 1985 г.). Відаць, чытач павінен шукаць гэту дату сам, бо выдавецтва са складальнікам не змаглі пацікавіцца ў Саюзе кампазітараў, ці жывы гэты старэйшы дзеяч музычнай культуры.

Не ўдакладнены даты многіх гістарычных падзей, хоць у спецыяльнай літаратуры яны адлюстраваны. Напрыклад, пад датай 3 лютага ідзе інфармацыя пра Брэсцкую царкоўную унію, якая была заключана 9 кастрычніка 1596 г. Пад 3 ліпеня пастаўлена 300-годдзе пастановы ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай пра забарону беларускай мовы ў дзяржаўным справаводстве ВКЛ, якая прынята 29.8.1696 г. На дзень 29 сакавіка пастаўлена "няпэўная дата" ("сёлета спаўняецца") нараджэння кампазітара Я. Голанда (17.3.1746—1827), аўтара беларускай оперы "Агатка", пастаўленай у 1784 г. у Нясвіжы. На лістку 16 красавіка паведамляецца, што ў "красавіку 1926 г." было заснавана Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, хоць вядома, што гэтае таварыства заснавана 7 красавіка 1926 г. Чамусьці на картку 30 мая трапіла інфармацыя пра суполку "Загляне сонца і ў наша аконца", хоць у многіх выданнях сказана, што суполка заснавана 5(18) мая 1906 г.

У гістарычнай літаратуры даецца канкрэтная дата заснавання Трыбунала ВКЛ — 1.3.1581 г., а ў календары даецца "няпэўнае" "сёлета спаўняецца" на лістку 9 ліпеня. Пра Клецкую бітву М. Глінскага з татарамі, якая адбылася 5 жніўня (гл. "Ілюстраваную храналогію гісторыі Беларусі". Мінск, 1995. С. 69), інфармацыя прайшла на лістку 19 ліпеня. Такія недакладнасці і ў такой колькасці (іх можна называць яшчэ) падрываюць давер да такога выдання, як каляндар.

Не выклікаюць даверу да выдання і пераблытаныя прозвішчы. Так, 24 верасня мемуарыст С. Незабітоўскі стаў Незабытоўскім, а 1 кастрычніка мастак Я. Іванешка стаў Івашкам.

Часта ўкладальніка падводзіць стары стыль. 10 чэрвеня падаецца 90-гадовы юбілей А. Брынскага, Героя Савецкага Саюза, але гэта стары стыль. Трэба было ставіць дату на 23 чэрвеня (гл. энцыклапедыю "Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне". Мінск, 1990. С.92). Пад 23 снежня падаецца 90-годдзе К. Губарэвіча. Але ж гэта стары стыль, юбілей пісьменніка будзе адзначацца 5 студзеня 1997 г.

Няўвязка атрымалася і з Э. Агняцвет, 80 гадоў якой споўнілася ў... 1993 г., а каляндар прапануе адзначыць яго сёлета 11 кастрычніка.

Механічнае перанясенне памылак з даведнікаў і энцыклапедый дае аб сабе знаць. Так, Р. Зямкевіч нарадзіўся 7 лютага, а не 7 ліпеня, як дае каляндар. 60-годдзе А. Кудраўца грамадскасць адзначыла 1 студзеня, а каляндар у адпаведнасці са старымі выданнямі прапануе адзначаць яго 26 сакавіка.

Недаравальна ўжо падаваць устарэлыя даты смерці М. Зарэцкага і М. Чарота, якія расстраляны ў Мінску 29.10.1937 г; П. Бузука, расстралянага ў 1937 г.; А. Салагуба, расстралянага ў 1934, а не ў 1937 г. Пра гэта ўжо шмат разоў пісалася.

Названыя і неназваныя недагляды, думаецца, пераканалі чытача, што каляндар — жанр складаны.

**Р. РАМАНАЎ**

Віншуем!

# "ЁСЦЬ НАДЗЕЯ І РОСПАЧ..."

## Валянціне КОЎТУН — 50

Згадваю снежаньскую цішу Каралішчавічаў недзе ў сярэдзіне сямідзесятых. Дом творчасці. Утульны дамок-катэдж, месца, нібыта і ўключанае ў вечны кругазварот быцця і адначасова нібыта адстароненае ад яго. Усе вызваленыя ад прозы побыту, кожны так ці інакш існуе ў духоўнай рэальнасці; у адных гэта рэальнасць мае сістэму каардынат, што меціць свае лініі перасячэння недзе ў космасе, у іншых — зазямлілася на паралелях звычаёвасці, нехта — шукае сваю творчую арбіту... Усе крочаць аднымі сцежкамі да Ласінага возера, але кожны выбірае свой напрамак, ідучы на лыжах, і ўжо зусім па-свойму меціць свае шляхі розум кожнага — на звілістых сцежках індывідуальнай свядомасці.

Тым снежнем была тут адна з літаратурных зборняў. І на ім сабраўся цэлы гурт, так бы мовіць, жаночага пісьменніцкага корпуса. І нейкім вечарам сабраліся на кубачак кавы ў маім пакоі. Тады кава, асабліва растваральная, была страшэнным дэфіцытам, і нейкім чынам я, разявяка і недарэка (і кватэра кааператыўная, і кніжка — за свой кошт, хаця грошай тых — як у касцельнай мышы), дык вось — разжылася я на той момант на слоічак кавы. І духмяная асалода напою цешыла ўсіх. А на гэты побытавы штрышок, што адбіўся ў маёй памяці, у мройлівай завесі ўспаміну накладваецца згадка імгнення "как бы двойного бытия" (Цютчаў).

Жанчыны... Таленавітыя...

Жэня Янішчыц... Парывістая, стромкая, нейкая нематэрыяльная нават... Напружана настаромленая з зямнога палону некуды ў вышыню, у імклівыя горнія далячыні... Таемная глыбіня ўваччу, прыроджаная трагедыйнасць пачуццяў...

Таіса Бондар... З яе графічна акрэсленым профілем, што так упадабалі скульптары і жывапісцы... Профілем, на якім — адбітак той энергіі і волі, што дасі багаты плён наступныя дваццаць год...

Раіса Баравікова... У якой лірычная мяккасць у абліччы і творчасці заўсёды неяк магла спалучацца з творчай дысцыплінай, а танальнасць споведзі — з разнастайнасцю жанраў.

Алена Папова... У яе замежныя прэміі — наперадзе, а пакуль яна звяртае на сябе ўвагу інфернальным бляскам вачэй.

Недзе ў Маскве адштурхоўваецца ад блізкіх перспектыў, шукаючы свой вобраз часу і свету, Вольга Іпатава, вядзе патаемную размову з сусветам Ніна Мацяш, паміж Нёманам і Гаўей назірае, што "выбегла сонейка, як дзяўчо", і пазначае кантрапункты гукабачання жыцця Данута Бічэль-Загнетава, піша свае "белыя пісьмы" Вера Вярба, заканчваюць універсітэцкія штудыі Хрысціна Лялько і Галіна Тычка, пачынаючы спасцігаць свае духоўна-мастацкія памкненні.

"Схіляецца над белаю старонкаю" Алена Васілевіч, толькі што атрымаўшы прэмію за адзін з самых чароўных у нашай літаратуры твораў — сваю тэтралогію.

А там, у Каралішчавічах... Там была яшчэ і яна, нечым падобная на шведскую кінаактрысу Іў Ульман, з ўсмешкай, у якой адначасова і злагада, і здзек, і разуменне, і спакуса, і нешта яшчэ: няўлоўнае, дзіўнае, што адначасова і прыцягвае, і азадачвае.

Валянціна Коўтун...

На тую пару — аўтарка дзвюх кніг, паэтэса, што ўмела выступіць і ў жанры эсэ, і праявіць сябе як крытык і літаратуразнаўца. Што ўжо тады звярнула на сябе ўвагу ўзрушанасцю, энергіяй думкі, адчуваннем першапачатковай драматычнасці існавання на зямлі, спробамі спазнаць дыстанцыю паміж марай і ведамі, пачуццём і рацыянальным усведамленнем свету.

Я нездарма прыпыніла ўвагу на тых каралішчавіцкіх днях, на тых постацях — кожная па-свойму працягвала свой творчы шлях, але была шмат у каго з іх прага да жаночага супольніцтва, што пазней выявілася ў жаночым згуртаванні ў межах Саюза пісьменнікаў, у Фондзе Ефрасінні Полацкай, прэзідэнтам якога сталася Валянціна Коўтун. Урэшце — у той працы, якой яна аддала больш за дзесяць гадоў жыцця, у цэнтры яе — жанчына, Алаіза Пашкевіч, Цётка, адна з самых яркіх і цікавых постацей Беларускага Адраджэння, паэтэса і аўтарка чытанак для



дзяцей, акторка і грамадская дзяячка, рэдактар першага часопіса для моладзі і самаахвярная лекарка...

Безумоўна, што раманы гэтыя (кніга няскончаная, Валянціна Коўтун працягвае працаваць над ёю) — творчая праграма і творчае крэда пісьменніцы, перш-наперш усё ж паэтэсы: на шмат якіх старонках адчуваеццца, што кніга пісана чалавекам, які спасцігае свет паводле are poetica: навукі паэзіі, мастацтва паэзіі. Як і гераіня яе раманаў. Гераіня, жыццёвы шлях якой дае магчымасць пра многае распавесці, пра многае меркаваць, пра многае давесці, падняўшыся над паўсядзённасцю, над мітуснёй сучаснага моманту.

Нездарма гэтае захапленне... хаця захапленне тут, мабыць, не тое слова, натхнёнасць і праца — хутчэй. Спачатку — праца руплівая і карпатлівая — вывучэнне навуковых даследаванняў, знаёмства з газетамі і часопісамі канца XIX—пачатку XX стагоддзя, даведнікамі, кнігамі-ўспамінамі; архіўныя росшукі — афіцыйныя цыркуляры, жандарскія данясенні, прыватныя дзённікі, лісты, сямейныя альбомы, копіі метрык... Урэшце — сістэматызацыя, асэнсаванне, паяднанне дакументальнага матэрыялу з мастацкімі доказамі, якія жывіць творчая фантазія. А матэрыял аграмадны, складаны, трэба вызначыць мастацкім словам не толькі лёс Алаізы Пашкевіч, а накрэсліць карціну грамадскага і культурнага жыцця канца XIX—пачатку XX ст., увесці творчыя і культуралагічныя памкненні Цёткі ў кантэкст еўрапейскай мастацкай свядомасці, пазначыць уменне паэтэсы сплаціць лёсу па строгім рахунку, але і ўменне прадставіць рахунак лёсу. Гэта тое, што блізка самой Валянціне Коўтун: яна таксама ўмее прад'явіць рахунак — сабе, сябрам, усім, хто побач.

**Гудуць, як сны, вячэрнія званы,**
**Надломяць вёрсты позірк, як галінку.**
**У сінтаксісе праўды і маны**
**Я адхварэю знакамі прыпынку.**

Не збіраюся атаясамліваць гэтыя дзве постаці, але менавіта ў гэтым рахунку — аўтарскі, пісьменніцкі водгук і перагук Валянціны Коўтун, гэтым блізкая ёй Алаіза Пашкевіч, яе жыццёвая пазіцыя. Таму — кніга, фільм, новыя творчыя пошукі...

Як так і бачу Валянціну Коўтун апошніх год: з вандзэлкам, з дарогі ў дарогу. У Вільню, Львоў, Варшаву... Па матэрыялы для галоўнай кнігі, кнігі жыцця. І ў гэтай кнізе ўсё: па максімалісцкай сістэме каштоўнасцяў, дзе мастацкае павінна сысціся з даследчыцкім, дакументальным, фактаграфічным, дзе строгая логіка думкі павінна спалучацца з натхнёнымі фарбамі і мелодыямі душы, увасобленымі ў канкрэтных радках і адчувальнымі ў водары часу, у сувязі галоўнага і нібыта нязначнага, што, аднак, меціць непадробнасць і вышыню жыцця. Жыцця ў розных яго праявах.

Вымавілася — галоўная кніга жыцця... А можа, яна — з усіх тых кніжак, што ўжо выслoвіліся, з тых, што яшчэ спеюць у галаве? Як пазначала некалі сама паэтэса, Валянціна Коўтун, яе "муза — вось. Утомна, басанога — бежанка з крыві і міражу". Гэтая муза не пакідае пісьменніцу, дае сілы словам.

"Ёсць надзея і роспач..." — так некалі пазначала ў вершы, прысвечаным Івану Мележу, Валянціна Коўтун. Ёсць. Мабыць, так яна паўторыць і сёння. У год ягонага і свайго юбілею. Калі зроблена шмат, але той крыж міласэрнасці, што цярпліва і ўзнёсла несла гераіня аднайменнага рамана Валянціны Коўтун, светлая і акрыленая Цётка, Алаіза Пашкевіч, ён нагадвае пра існы пачатак неўміручага і вечнага: дабра, справядлівасці, сумлення. Ёсць да чаго звярнуцца думкай і пачуццём... У творчасці, грамадскай і рэдактарскай працы... У жыцці...

**Ала СЯМЁНАВА**

# СВЕТЛЫ ТАЛЕНТ

## Генадзю ШУПЕНЬКУ — 60

Пра дарагога мне Генадзя Шупеньку можна было б сказаць толькі як пра выдатнага нашага крытыка (пачаў гартаць яго кнігі "Цеплыня чалавечнасці" і "Галоўнае — талент" і з асалодаю перачытаў зноў) і віртуоза-баяніста, наслухацца якога немажліва. Але ж хто раскажа пра яго пакутліва-цяжкую біяграфію?

Генадзеў дзед Антон (2 м 5 см ростам, заўсёды з гонарам падкрэслівае ўнук) родам з-пад Даўгінава, працаваў на Вілейшчыне лесніком. У вёсцы Падбярэззе (5 км ад Княгініна) купіў зямлю. Збудаваў такую хату, у якой пасля ладзілі сцэну і ставілі беларускія спектаклі.

Бацька, Серафім Антонавіч, меў чатыры класы царкоўнапрыходскай школы, быў самы пісьменны ў вёсцы (пра кожнага аднавяскоўца склаў вершык, пра некаторых — цэлыя паэмы). Двойчы сядзеў у Картуз-Бярозе, з 1939 г. працаваў у раённых установах. На пачатку 1942 г., маючы семярых дзяцей, уступіў у партыю і пайшоў у партызаны.

Каля хаты быў вялікі сад. Немцы ў першы ж дзень свайго прыходу пазаганялі пад дрэвы машыны. І палезлі ў свіран. Сястра Люба схапіла на рукі Геню і меншага Колю і кінулася прасіць, каб не рабавалі. Немец штурхануў так, што Геня моцна ўдарыўся спінаю. Праз год пачаўся туберкулёз пазваночніка.

У школу Генадзь пайшоў у 9 гадоў. У 8—10-ых класах ездзіў за 15 км. Жыў спачатку з бацькам у Куранцы, дзе той працаваў, пасля ў інтэрнаце. Куранецкую школу скончылі і павырасталі ў інтэрнаце пяцёра Шупенькаў: Геня (першы залаты медаліст, 6-ы выпуск), Коля, Валодзя, Ларыса, Міша.

У 1955 г. паступіў у БДУ на філфак. У інтэрнаце на Нямізе мы і сустрэліся. Ледзь не кожны вечар іграў нам Генадзь танцы (іграў з 3-га класа, "за цыбулю" — грошай не браў, пакуль не забілі бацьку — адыграў моладзі многіх навакольных вёсак). Калі ехаў з Нямігі па гармонік дахаты, нягоднікі скінулі з цягніка. Атрымаў моцнае абвастрэнне. Тады і даведаўся, што ў яго туберкулёз. Вясною мы скінуліся курсам і ў Гені з'явіўся баян. Яго ён добра асвоіў ужо лежачы ў гіпсе ў Рэчыцы: у палаце на 6—8 чалавек чытаў і іграў. З ложкам падымалі на сцэну і па 2 гадзіны акампанаваў хору і салістам. Колькі людзей замірала, слухаючы ў выкананні Шупенькі паланез Агінскага, чардаш Монці, класічныя вальсы, вогненныя полькі! А славуты "фірменны" яго "Ёксель-Моксель", які Генадзь не спявае, а творыць цуд, кожны раз па-новаму пад настрой імправізуючы. Дзякуй табе, братачка, за твой баян! Не раз трымцела душа, заходзілася сэрца ад яго чароўных гукаў. Дай табе, Божа, сіл пайграць нам яшчэ не адзін дзесятак гадоў!

На другім курсе, на Бабруйскай, Геню стала зусім блага. Назаўтра пасля выбараў, нашага першага галасавання, пайшоў я, помню, шукаць ратунку ў Дом урада, у Міністэрства аховы здароўя. Добры чыноўнік параіў настойліва прасіць курсам — аднаго не паслухаюць, а гурту памогуць, дзе дзенуцца. Заваліліся мы ў прыёмную самога міністра шумнаю студэнцкаю грамадою. Наперабой расказвалі, даказвалі, прасілі. Далі не толькі пуцёўку, але і санітарны самалёт, і машыну, каб на самалёт адвезці. Хлопцы правялі ў аэрапорт. Першы раз у жыцці, з прыгодамі (пакінулі, усхваляваныя разявакі, Генаў чамаданчык на аэрадроме), узняліся мы ў паветра. Упершыню бачылі з самалёта зямлю, правальваліся ў паветраныя "ямы".

Праляжаў Генадзь у Рэчыцкім санаторыі 8 месяцаў. Лекі нічога не далі. Вярнуўся. Здаў экзамены адразу за паўгоддзе, вясновую сесію і... зноў лёг у мінскую бальніцу (мы хадзілі туды курсам). Пасля — зноў Рэчыца, дзе праляжаў ажно 5 гадоў. Так і не вылечыўшыся (тройчы вучыўся хадзіць з дапамогаю людзей і мыліц), вярнуўся канчаць універсітэт. Жыў у пакоі на 6 чалавек у інтэрнаце на цяперашнім праспекце Машэрава. Хаваючыся, рабіў перавязкі на спіне і... на філфаку акампанаваў танцорам, хору, салістам. Нарэшце скончыў універсітэт з чырвоным дыпломам.

Паступіў у аспірантуру і стаў жыць у пакоі на 3 $м^2$ (былая гладзілка ў інтэрнаце на Свярдлова). Калі высокае універсітэцкае начальства заявіла М. Ларчанку: "Зачем вы его взяли в аспирантуру? Его давно надо в дом инвалидов"... Зрабіў са струны пятлю. Дзякуй Богу ці Лёсу, нешта спыніла, у тыя чорныя дні роспачы падказала: "Напішы Танку". Яўген Іванаіч "выбіў" земляку кватэрку ў новым доме на Сонечнай.

А страшная хвароба не адпускала. Апынуўся ў Маскве. Зрабілі восьмую(!) рызыкоўную (міліметр туды ці сюды — і поўная нерухомасць на ўсё жыццё) аперацыю. Тры месяцы без руху на жываце. Але — Удача!!!

1969-ы год — шчаслівы для Генадзя: адчуў сябе здаровым, прыехала Галя (мілая Галіна Міхайлаўна, якую мы, сябры Шупенькаў, вельмі паважаем і любім), пажаніліся, нарадзіўся Сяргейка і... у "Полымі" і "Народнай асвеце"



з'явіліся першыя публікацыі пра І. Мележа. Усе адчулі — у нашу крытыку прыйшла неардынарная асоба. Неўзабаве ў сям'і Шупенькаў з'явіўся і маленькі Міша, які сёлета проста ашаламіў мяне сваімі публікацыямі: таленавіты хлопец мае вельмі вострую назіральнасць, аналітычны розум, умее расказаць, мае свой стыль. Мо ў нашым красным пісьменстве пабольшае яшчэ на аднаго Шупеньку?! Дай Бог!

Не магу прамаўчаць і яшчэ пра адно. Калі трагічна загінуў Генаў брат Коля, Галя і Генадзь узялі, маючы двое сваіх малышоў, братавага сынка, нягледзячы на ўсе цяжкасці і клопаты, выгадавалі, аддаючы, як і сваім, усю цеплыню душы і бацькоўскую ласку.

Толькі дзве кнігі выдаў Г. Шупенька. Але ў нашай крытыцы па праву заняў і прыкметнае і адметнае месца. Яго голас вылучаецца сярод іншых сваім індывідуальным, самабытным эмацыянальна-аналітычным стылем, уменнем учытацца ў твор, вылучыць асаблівасці творчай манеры аўтара, тонка інтэрпрэтаваць, падкрэсліць галоўнае, калі неабходна, далікатна звярнуць увагу на недахопы, пралікі і прафесійна паказаць гэта ўсё чытачу. Таму чытач і верыць крытыку, што яго прачытанне твора заўсёды глыбокае, шчырае, аб'ектыўнае і непрадузятае, аргументы лагічныя, грунтоўныя, важкія.

Для Г. Шупенькі галоўны крытэрый пры ацэнцы літаратурнага твора — яго мастацкасць, эстэтычная вартаснасць. Ён заўсёды шукае ў аўтара ўменне выявіць, паказаць праўду і прыгажосць — у чалавеку, характары, руху яго душы, у памкненнях герояў, іх думках і пачуццях. Крытык строга і настойліва патрабуе ад пісьменніка пісаць так, каб твор хваляваў, узрушваў, кранаў душу і сэрца чытача, узвышаў яго, ачышчаў. І каб аўтар рабіў гэта як мастак — арыгінальна, цікава, з дапамогаю разнастайна-мастацкіх сродкаў і прыёмаў: сюжэтных і фабульных хадоў, кампазіцыйных хітрыкаў, мастацкіх дэталяў, дакладных, свежых слоў, багатай сінанімікі, вымоўнай фразеалогіі, гнуткіх сінтаксічных канструкцый, адпаведных задуме інтанацыі, рытму аповяду, тону выказвання.

Г. Шупенька любіць шмат цытаваць аўтараў. Гэтым вельмі грунтоўна і паказвае і даказвае. Яго і самога можна разбіраць на цытаты. У іх — пазіцыя крытыка, яго крэда, перакананні, крытэрыі. Умее ён пісаць і аналітычна-крытычна, і лірычна, задушэўна. Такі лад гаворкі вельмі прываблівае ў яго артыкулах пра любімых ім Я. Брыля, І. Мележа, Я. Скрыгана, І. Пташнікава. Умее ён нават адным словам і перадаць сэнс, і нават уразіць. Так, свежым народным "сухарэбрыца", па-мойму, вельмі трапна назваў дрэнную мову празаіка.

Г. Шупенька зайздросна начытаны, эрудзіраваны крытык. Таму часта падмацоўвае свае назіранні і высновы думкамі з прац вядомых крытыкаў і пісьменнікаў сусветнай літаратуры. Чытач бачыць яго духоўна багатую асобу, яго душэўнае гарэнне, абвостранае пачуццё праўдзівасці, выключную сумленнасць, таму смела ідзе за яго думкаю, яго словам. Вельмі горнуць да сябе ў працах гэтага мужнага, ламанага жыццём чалавека ўлюбёнасць у жыццё, разуменне няпростых глыбіняў чалавечага духу,чуйнае ўспрыманне праўды і харараства, пазіцыі жыццястойкасці, мужнасці, чалавечнасці. А тое, што крытык шчыра прызнаецца ў сваіх ваганнях, сумненнях, нават памылках, выклікае давер і сімпатыю да яго ўдвайне.

Крытык — жывы чалавек. І Шупенька часам бывае распалена-задзірастым, з'едлівым, саркастычным. Але ў гэтым якраз прыцягальная сіла яго артыкулаў і рэцэнзій.

Дык пра што ж яго кніжкі? Пра літаратуру? Так. Але, думаецца, найперш пра жыццё, яго складанасці і хараство, пра тое, што чалавеку вельмі патрэбны не толькі хлеб надзённы, свежае паветра і чыстая вада, але і добрыя сябры, прыгажосць жанчыны, слязінка расы на лісточку, зялёная травінка і кветка, і дабрыня, міласэрнасць, любоў да людзей і да ўсяго жывога на зямлі. І пра гэта ён нястомна, горача заклікае пісаць мастакоў слова, толькі пісаць з душэўным трымценнем, робячы чытача саўдзельнікам вельмі блізкай аўтару трывогі, каб узрушаць, хваляваць, катурхаць розум і сэрца таго, хто будзе чытаць, даваць чытачу, кажучы высокімі словамі, эстэтычную насалоду.

Дык здароўя табе, дружа, спору і плёну ў працы, а нам, тваім сябрам, яшчэ многа-многа радасці ад сустрэч з табою і тваім гарачым словам!

**Янка САЛАМЕВІЧ**

# "ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ..."



**Пад такім назовам прайшла 19 сакавіка чарговая вечарына пад дахам "Беларускай хаткі". Дарэчы, на пачатку вясны "Беларуская хатка" святкавала своеасаблівы юбілей — 80-годдзе. Роўна столькі год мінула з тых часоў, калі ў Мінску пачаў сваю дзейнасць клуб нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі з гэткай назвай.**

**Але будынак той самай "хаткі", які месціўся на былой вуліцы Захараўскай, 18, на вялікі жаль, не захаваўся. Затое ацалеў дом Савы Рэдзькі па адрасе — Малагеоргіеўская, 14, дзе восенню і зімой 1916-17 гадоў жыў Максім Багдановіч. Суседні пакой кватэры займаў Змітрок Бядуля, які, між іншым, і прывеціў паэта на радзіннай зямлі. Тут, на ціхай прывакзальнай вуліцы, у апошнім прытулку Страціма беларускай паэзіі у свой час пабывалі многія вядомыя дзеячы нашага Адраджэння, якіх згуртавала вакол сябе "Беларуская хатка". На гарбату да Максіма часта завітвалі Аркадзь Смоліч, Лявон Заяц, Зоська Верас, Уладзіслаў Галубок, Усевалад Фальскі ды іншыя слынныя адраджэнцы.**

**Зараз у доміку, дзе жыў Паэт, — ягоны музей. А супрацоўнікі "хаткі", пазычыўшы назву, з годнасцю працягваюць традыцыі колішняга клуба. За пяць гадоў існавання музея тут прайшло больш 30-ці літаратурна-музычных вечарын. Сённяшнімі гасцямі Максіма сталі паэты: М. Скобла, Г. Булыка, Л. Дранько-Майсюк, А. Сыс; навукоўцы: М. Ткачоў, А. Мальдзіс, Г. Сурмач; барды: А. Камоцкі, У. Палупанаў, Г. Смоляк, В. Пазнякевіч; гурты: "Ліцвіны" і "Унія".**



**Пра гісторыю "Беларускай хаткі" і лёс яе дзеячаў распавёў прысутны на вечарыне пісьменнік Арсень Ліс. Сапраўды цяжкі шлях да свабоды выпаў на долю беларусаў, а, як паказваюць апошнія палітычныя падзеі ў нашай краіне, гэты шлях для нас будзе яшчэ й неймаверна доўгім. І дай Бог усім нам сілы з годнасцю гэты шлях прайсці.**

**А. КУЛІН**

*На здымках: "Беларуская хатка" сёння; выступае А. Ліс.*

# ТАМ НАТХНЕННІ, ДЗЕ ..."МАР'ІЧКА"

**"Мар'ічка" — такую мілагучную назву мае літаратурнае аб'яднанне, што працуе пры рэдакцыі раённай газеты "Пухавіцкія навіны" ў Мар'інай Горцы.**

**"Мар'ічка" сабрала вакол сябе паэтаў і празаікаў. Кіруе аб'яднаннем Вольга Савасцюк (яна піша для дзяцей, выступала з цікавай падборкай у калектыўным зборніку). Яна і стала ініцыятарам правядзення чарговага пасяджэння літаб'яднання з запрашэннем на яго пісьменнікаў. На запрашэнне адгукнуліся сакратар праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў і паэт-парадыст Анатоль Зэкаў. Прайшла сустрэча не ў рэдакцыі, як звычайна, а ў раённым Доме культуры, якая сталася святам нашай літаратуры, няхай сабе і ў раённым маштабе.**

Паэзія

Аляксей РУСЕЦКІ



# ПАД НЯБЁСАМІ БАЦЬКІ-БОГА

## СТЫРНАВЫ

**На хвалях дрыжыць сухагруз "Ліберці",
салдаты ў трумах — упокат,
дадому пад Новы год дайсці б,
дадому ж яшчэ далёка.**

**На палубу выскачыш бегчы ў гальюн
па пільнай сваёй патрэбе —
б'е хваля праз борт чарней за чыгун,
а цемра наўкола і ў небе.**

**Па мачце ляскае моцна канат,
дзе крыжам навісла рэя;
няўжо давядзецца ў вадзе канаць,
а гэта ж нязвыкла неяк.**

**Разгойдаўся Ціхі чамусь акіян,
раве ад бязмежнага гневу...
Ды верыцца, што ля стырна капітан
не хлюст і не цёмны невук.**

**Нічым не паслабіцца пільнасць яго
у рэйсе тут першым, мірным,
не ўспыхне пад кілем грымотны агонь
плывучай вандроўнай міны...**

**У згадках пахілы стаіць чалавек
на ўскрайку свайго балкона,
а вецер сцюдзёны ў бетонных раве
у ветразях мікрараёна.**

**Калматым ашмоццем хмары ляцяць
і месік ныпцуе ў цемры;
за сценкай мо з голаду плача дзіця,
куды ж мы плывём, дзе ж мы?**

**Здаецца, раптоўна пойдзем на дно
пад сонцам ці ўпрыцемку шэрым,
калі рукам, што трымаюць стырно,
ніколі няма даверу.**

## БОЛЬ І КЛОПАТ

**Майго былога, быццам, не было —
руіны думак, спадзяванняў тло.
Быў часу ўздрыг мацней за землятрус;
шныпараць крамаў, базаў пацукі,
валтузяцца грашовыя мяшкі.
А мой боль і клопат — Беларусь
з пакутамі адвечнымі Хрыста;
шляхі старыя, за вярстой — вярста —
драўляныя счарнелыя крыжы,
глумлення знакі, ляманту душы.
З натурай колькі ж ёсць хрыстапрадаўцаў
дык быць каму ж тут ад бядотаў збаўцам?**

## ЗГАДКІ ТАГО ЧАСУ

*Памяці Алеся БАЧЫЛЫ*

*Ёсць мёртвае мора, ёсць мёртвая мова,
застылыя фарбы, забытыя скарбы;
шуміць, жывая, ласкава, сурова,
як мора, шырока шуміць мая мова.*

З паэмы "Яго вялікасць", 1964 г.

**Нам да скону гэты матчын дар,
і калі, за парты сеўшы ўранні,
мы чыталі ўголас лемантар,
гукі й словы нам — нібы дыханне.**

**Прыгадалі гэта мы пасля,
як паўсюль, паціху наша школа
рупнасцю імперскага Крамля
роднай мове пераціяла горла.**

**Крыўды й гневу вымушаў напал
з хлопцамі ў рэдакцыі дачасна
запасаць гаручы "матэр'ял",
каб надзеі "Полымя" не згасла.**

**Нас тады цэкоўскі сакратар
бэсціў, ушчуваў на "партактыве"
за трактат пра вечны матчын дар,
за ўхваленне плёну "Нашай Нівы".**

**Маладым няўцяміць той пары
клопатаў, трывогаў нашых зразу...
Нейк у парку моваю іўрыт
Звонкі верш чытаў Заір нам Азгур.**

**Дзе даўно змярцвелую чуў ён,
што калісь гула ў біблейскім краі?
Зрэшты, пэўна, гулкая, бы звон,
Захлынала ўжо увесь Ізраіль.**

**Пра яго казаў узнёсла ты:
"От паўстаў з нябыту ён, з няволі"...
Вельмі смела гаварыў тады
і пра лёс апошняй мітраполіі.**

**Новы лад жыцця й да нас прыйшоў,
ды зрабілі ліхадзеі гэтак,
каб у школе заглушаўся зноў
голас Беларусі ў душах дзетак.**

**Крыўдна, сумна, дружа мой Алесь,
у тваім застоллі пасядзелі б,
але выпіў свой нарзан ты ўвесь,
і самотна мой пустуе келіх.**

**Не ўладарна над усімі смерць,
расквітнеў той край над Мёртвым морам;
веру я, шырока зноў шумець
па-марскому будзе наша мова.**
*1995*

●

**Быў славутым і я мастаком,
жывапісцам з уявай паэта,
для мяне, як жадаў, палатном
рассцілаўся ўзараны палетак.**

**На зачатак яго хараства
я з сяўні кідаў жменяй насенне,
неўзабаве мой твор прарастаў
вострым ворсам насустрач праменям.**

**І блішчэў ён ярчэй за кілім
сярод шэрага роўнага поля,
праступаў паступова з зямлі
белы, сіні, малінавы колер.**

**О, я ведаў, скуль цёмны падзол
бярэ гэткія звонкія фарбы,
дух мядовы, прынаду для пчол,
залатыя глыбінныя скарбы.**

**Чарадзейна у сонечны дзень
вабіў вока пейзаж мой стракаты,
канюшына, лён, грэчка цвіце —
паглядзець прыбягалі дзяўчаты...**

**З хмарнай думкаю смутны стаю
у чужым я аголеным полі,
і туманяць уяву маю
на вачах кроплі восеньскай золі.**

●

**Хтось бедаваў, што ў дваццаць тры гады
для вечнасці ні справы, ані слова.
Я прагна жыў без гэткае бяды —
быў конь, быў плуг і кнігі ды аловак...
А вечнага ж нідзе няма нічога
у вечнасці,
апроч нябёсаў зорных
Бацькі-Бога.**

●

**Бывае, часам, з даўняй даўнасці
дыхнуць вясновыя вятры
пары трывожнай закаханасці,
спякотнай, хмельнае пары.**

**Крынічна чыстай і зіхоткаю
красою зноўку вабіш ты
і той хвілінаю кароткаю
сустрэча блюзніцца заўжды.**

**Ты пройдзеш міма, нечаканая,
не затрымаю твой пагляд
у масцы часу, непазнаны я;
о, вечны, сумны маскарад!..**

## СПАДАРЫНЯ ЭН

**Як хадзіла паўз возера ў прыцемку вечара
тут спадарыня Эн —
вольны час, мерны крок,
дык, здавалася, ёю была прасвечана
навісь ліпаў над сцежкаю ў жоўты змрок.**

**І няможна было ўслед глядзець абыякава
ганарыстай хадзе —
зграбны рух, лёгкі стан;
а цяпер ужо следу яе ніякага,
аблачынкаю прывід яе растаў.**

**Навісаюць нябёсы наўкол нахмарана,
і край возера шэры зацяў лядок;
Мімаволі ўзгадалася тая спадарыня...
Вецер гоніць па лёдзе лёгкі лісток,
шаргаціць і на сэрцы ў кагосьці лісток.**

Проза

## ЖУЛІК

Яно, можа, і праўда, што сабака заўсёды застаецца верны гаспадару, а кот — дому. Нават калі гаспадары пераязджаюць на іншую кватэру.

На маёй памяці, магчыма, рэдкі выпадак. І запісаць яго трэба было болей сарака год таму назад, бо вельмі ж часта, бывала, успамінала яго і любіла расказваць Воля. А цяпер вось і сам штодня прыгадваючы любую дробязь, якая мела дачыненне да нябожчыцы, успамінаю і гэты, для яснасці пачаўшы трохі здалёк, калі напрыканцы вайны сабраліся мы вяртацца ў Мінск, і яна з дзецьмі прыехала ў Маскву з Кургана (тады Чэлябінская вобласць). І неўзабаве выправіліся мы дадому, хоць ніякага дому ў Мінск у нас не было. Першыя нямецкія бомбы рваліся ў Беластоку, адкуль і выгнала нас вайна, разлучыўшы мяне з сям'ёю аж на чатыры гады. І вось едзем мы ў зруйнаваны Мінск. А дзе там прыхілім галовы?

Падахвоціў, вечная яму памяць, дабрэйшай душы чалавек Мікола Лупсякоў: "Спыніцеся ў нас з Надзейкай. У нас хата вялікая". Тая хата, і праўда, як абозня, нейкім цудам уцалела ў самым цэнтры, на задворках Дома афіцэраў, побач з вядомым "юбілейным" дамком на горцы, прытуліла і нас. У Лупсяковых быў адзіны ложак, дый той гаспадары былі гатовы саступіць нам. Удзячныя за прыпынак, мы рады былі нанач уладжвацца ўсёй сям'ёй доле, на падлозе, на ўсіх прывезеных з сабою лахманах.

Неўзабаве нам пашчасціла пасяліцца ў катушку пры ўваходзе ў двухпавярховы драўляны дамок, дзе размясціўся Саюз пісьменнікаў. (Завулак Берсана, побач з чырвоным касцёлам). На другім паверсе па адным пакойчыку занялі Міхась Лынькоў і Ларыса Александроўская. Унізе — сама канцылярыя Саюза, а перад ёю — катушок, толькі як стаць аднаму ложку, дзе пасяліўся Кузьма Чорны з сям'ёй. Нарэшце, атрымаўшы два пакоі ва ўцалелай мураванцы цераз вуліцу, ён саступіў катушок мне. Тут мы і туліліся, пакуль не пераехалі ў хату па вуліцы Крапоткіна, побліз вядомай інфекцыйнай бальніцы. А адтуль ужо на вуліцу Маладзечанскую, у палавіну дамка, якую займаў Кандрат Крапіва, каторы ў сваю чаргу атрымаў кватэру ў так званым Доме саветаў па вул. Горкага.

Пасля такога доўгага ўступу, вальней і весялей уздыхнуўшы, нарэшце, вярнуўся да таго, з чаго пачаў гэты запіс — з сабакі і ката.

Добрыя жывыя істоты, яны ў сям'і Крапівы былі ўлюбёнцамі і ўцехай для малой тады Людачкі і для маці, самой Алены Канстанцінаўны. Навасялец кот адразу ж асвойтаўся і палюбіў новую кватэру, а сабака не ўпадабаў. Сюд-туд, дый вяртаўся на старую. Магчыма, там яму не собіла па лесвіцы з-за кожнай патрэбы збягаць і падымацца на трэці паверх. А можа яны там чаго не падзялілі на новай тэрыторыі з катом, і ён, добры і верны рыжы дворны вартаўнік, хоць па вясёлым сваім імю Жулік, раз-пораз прыбягаючы і прылашчваючыся да нас, жывучы, як некалі ў нас казалі, "на два сэдасы", аднаго дня так і зусім не вярнуўся на новае паселішча. Застаўся ў нас.

Зноў мушу адступіцца ўбок, дапускаючы і такое меркаванне: будучы ўлюбёнцам гаспадыняў, Жулік, магчыма, адчуваў да сябе пэўную абыякавасць гаспадара.

Чалавек строгага характару, той не звяртаў на яго асаблівай увагі — не любіў сантыментаў. І наўрад ці назваў бы калі сабаку "Дружком". Друг ты, то друг, але ж не дармаед і не забаўка. І, мабыць, толькі аднойчы самому Кандрату Кандратавічу спатрэбіўся сабака. Гэта ў 1939 годзе, калі пісаў сваю вядомую камедыю і людзі паспелі пабачыць яе на сцэне яшчэ перад вайной.

Там, як вядома, сабака хоць і па-за сцэнай, а сыграў адну з важнейшых, самых рашаючых роляў: ён прывалок костку, пры дапамозе якой палеантолаг Гарлахвацкі ў сваёй навуцы зрабіў сенсацыю, адкрыўшы дагістарычнага "Свінтуса грандыёзуса". Той сабака зваўся Цюлік. А гэты, магчыма, у памяць папярэдніка, ці нават у памяць самога незабыўнага Гарлахвацкага — Жулік.

Праўда, ад гэтага новая гаспадыня мела толькі той адзіны прыкры небыт, што мусіла часта быць яго заступніцай і адкупніцай за яго свавольствы — Жулік не цярпеў суседскіх курэй.

Жулік любіў двор, зямлю, роднае яму наваколле, хоць аднойчы, пры нас ужо, мусіў перажыць, можа, адно з найгоршых сваіх выпрабаванняў.

Нічога пра гэта не ведаючы, куды знік Жулік, упэўненыя, што, можа, ён у водведах у законных сваіх гаспадароў, а дазнавацца нам, незаконным, было няёмка, пакуль не пазваніла сама Алена Канстанцінаўна:

— Як там наш Жулічак?

Не маючы чаго адказаць, не на жарт занепакоіліся і мы. Будзем ужо разам

Васіль ВІТКА

# ДВА АПАВЯДАННІ



чакаць і спадзявацца на лепшае. Куды ён мог прапасці?

І толькі нешта праз тыдзень прапажа-такі знайшлася. Сыскаўся Жулік. Неўцерп было яму хутчэй укінуцца ў хату — так задрапаў кіпцямі ў дзверы. А калі падаў голас, тут мы і пазналі.

Ускочыўшы ў хату, стаў з усімі абдымацца і нейк вінавата і жаласна ўсхліпваць. Акравак вераўчанага злыгача мы, адразу ж зрэзаўшы, скінулі з яго шыі, вакол якой поўсць была ўся склычана і камякамі спаўзала долу. І тут, нарэшце, усё праяснілася. Па ўскраінах Мінска тады яшчэ час ад часу раз'язджалі са сваімі будкамі гіцлі. Трапіў у іх пятлю і наш Жулік. Пэўна ж, ці не з парога жывадзёрні вырваўся і ўратаваўся.

Вользе Рыгораўне не цярпелася адразу ж пазваніць Алене Канстанцінаўне:

— Жулік знайшоўся!

— Жулічак! — пачулі мы радасны ўсклік з тэлефона. Дый сам Жулік пачуў і, пазнаўшы голас, завіляў хвастом.

— Дзе ж ён?

— А вось побач. Пазнаў вас.

— Ой, то дайце, ой, што я кажу, — паднясіце яму трубачку.

Жулік доўга і ўважна слухаў ласкавыя і пяшчотныя словы сваёй першай гаспадыні і яе запрашэнне хутчэй убачыцца. Уцешна памахваючы пушыстым хвастом, ён нават злёгку падвываў у адказ. Перакусіўшы на скорую руку, ці дакладней сказаўшы, на скорую лапу ў нас, неўзабаве выправіўся і на другую гасціну. І як пасля расказвала Крапівіха, і там была яму вялікая чэсць і пачостка. Кот ні разу не сыкнуў на яго, а ён не гыркнуў на ката. Годна і да канца вытрымалі яны той сумесны шчодры абед. Так што, можа, яно дарма, бывае, і пра людзей гавораць: жывуць, як кот з сабакам.

У сакавіку 1953 г. Саюз пісьменнікаў вызначыў нам новую кватэру ў цэнтры горада. Наш добры друг, прыбегшы следам у розведы і дазнаўшыся, што жыць і мы мусім на трэцім паверсе, вярнуўся назад,



застаўшыся верным старому сэдасу і ўжо новым, трэцім гаспадарам.

За ўсё жыццё Жулік быў адзіным маім сабакам, дый той не маім уласным.

Некалі ў вясковым маленстве, памятаю, упрошваў маму: "Вазьмем, мамачко, шчанятко і будам гадаваць сабаку..." Ад майго звягання мама заўсёды адмахвалася: "Начорта ён нам, людзі аббрэшуць і без сабакі..."

*1993*

## ЗАГАВАЙЛА

**I**

Гэтага слова ў беларускіх слоўніках я не знайшоў. Падобнае занатаванае ў Бялькевіча з усходняй Магілёўшчыны — "Загавальня" і азначае — прызба, каля якой па вечарах любяць збірацца мужчыны, пасядзець, пагаманіць.

Але ж маё не аб прызбе і не аб цэлым гурце мужчын, пра аднаго. Мабыць, наша, мясцовае, слуцкае. А то, можа, нават еўліцкае, вядомае толькі маім землякам. Калі хто і прыдумаў, дык не адступіўся ад першаасновы, а дакладна патрапіў у цэль, як у капеечку.

— Загавайла! — пацяшаючыся і падумаць не мог, што на сыходзе веку назавуся гэтак і сам. З-за таго, як па-дзіцячы, а хутчэй пастарэчы, па абязлюдзеласці сваёй адразу гэтак узрадаваўся такой жа адкрытасці, прастадушнасці і наіўнасці аж трох жанчын, што неспадзеў, знянацку заявіліся да мяне.

Пазваніўшы, першай увайшла старэйшая і адразу ж спыталася пра Янкелевіча. Дзе ён тут можа быць у вашым двары? Янкелевіча я не ведаў. А ён, якраз толькі ён конча і патрэбен ім, каб памагчы даць рады тавару, які яны, бухарскія яўрэі, прывезлі ў Мінск, і, галоўным чынам, садавіну і грэчку.

За старэйшай па той бок парога стаялі маладзейшая і другая — дзяўчынка, амаль падлетак, абедзве, як я зразумеў, яе дочкі. Маці адразу ж загадала меншай пабегаць па нашым двары і па суседніх, пашукаць Янкелевіча.

Старэйшая дачка ўвайшла ўслед за маці. Стомленая, сасмаглая. Нядзіва, з такое далёкай дарогі, і папрасіла папіць. Я пайшоў на кухню, следам яна. Без пярэдыху выпіўшы шклянку, на маё здзіўленне, тут жа, у вузкім калідорчыку, неспадзеўкі гэцнула азадкам долу. І, шануючы вас, прыпадняўшы спадніцу, пачала адкасваць панчоху і ўслед скруткам бінту ўвязваць левае калена.

— Што вы робіце? — занепакоіўся я. — Вось жа табурэтка. Вам жа будзе зручней.

— Не, не, — катэгарычна запярэчыла старэйшая. — Нам нямножна. Па нашаму закону, толькі доле.

— Дык гэта ж там, у вас, на бухарскіх кілімах... — не прамінуў і я засведчыць, што бываў у Бухары. І гэтая падрабязнасць як бы яшчэ больш падкрэсліла нашае ўзаемаразуменне.

Тым часам бінт у руках дачкі аказаўся ўпартым неслухам. Круцячыся вакол калена, сюд-туд спаўзаў зноў. Толькі цяпер ужо маці растлумачыла мне неабходнасць гэтай перавязкі. Калі згружалі скрыні з садавіной, адна ўпала і моцна выцяла дачушцы калена. Мабыць, зрушылася чашачка.

— Зірніце, во як ходзіць з боку ў бок. — І ацаніўшы маю спагаду, яшчэ і даверліва шапнула амаль на вуха і пра такую трывожную для іх падрабязнасць:

— Яна ж у нас уцяжку. Як вы думаеце, ці не зашкодзіць гэта?

І я шчыра параіў абавязкова паказацца доктару, дый на рэнтгене праверыць.

— А дзе ў вас бліжэйшая бальніца?

Бальніца была недалёка. Я назваў і вуліцу, і адрас. І як бліжэй дайсці, праўда, трохі сумеўшыся, што на тым часе трывога іх як бы адразу і забылася. Затое градам пасыпаліся іншыя, самыя розныя пытанні:

— А ці далёка адсюль Камароўка? А што па чым? — і заўважыўшы на кухні паўмяшка бульбы, сталі ўдакладняць: — Ці можна мех грэчкі, якую яны прывезлі, абмяняць на мех бульбы?

Ледзь не спакусіўшыся такім выгадным абменам, я сам ужо гатоў быў аддаць свайго паўмяшка за іх паўмяшок.

— Знайшла Янкелевіча! — пачуўся радасны вокліч. І ў калідорчыку перад кухняй, у якой быў я, гаспадар, з'явілася самая маладая, вясёлая і амаль шчаслівая. А мне, як вінаватаму, адно толькі мільгнула думка: "Гэта ж мы дзвярэй за сабой, мабыць, не зачынілі". А няўрымслівай дзяўчынцы ўжо не цярпелася:

— Ну, пайшлі. Ён тут цераз вуліцу... Ды канчай ты ўжо бінтаваць! — кінула яна як бы з дакорам сястры.

Па-праўдзе сказаўшы, мне і самому паспеў ужо надакучыць гэты бабскі гармідар і рупліва як бы толькі далікатней выбавіць гаваркіх гасцей. Але вось яшчэ толькі адно пытанне, па важнасці тону, самае сур'ёзнае:

— А ці праўда, што хутка пачнецца вайна?

— А яна ўжо ідзе, — паведаміў я.

— Дзе? — устрывожыліся мае бухарскія дэхканкі.

— А Маскве. Ёсць ужо забітыя і параненыя...

Чытачу не цяжка здагадацца, што падзеі, якія адбываліся ў мяне на кухні — трэба ж такому здарыцца, — якраз жа супалі з тымі, болей страшнымі, што пачаліся ў Маскве, дзе знізу стралялі па верхніх, а зверху ў адказ — па ніжніх.

— Ой, ой! — заспяшаліся, нарэшце, мае лапатухі. — Хутчэй аддаць усё ў кааператыў, а грэчку — кілаграм за кілаграм бульбы...

А маладзіца, што ўвесь час кешкалася з бінтом, так і не ўправілася абкруціць калена.

**II**

Неўзабаве, праз якое паўгадзіны, прыйшла з работы дачка. І я, яшчэ поўны ўражанняў ад неспадзяваных бухарскіх дэхканак і знаемства, якое ў мяне адбылося, ужо не жартам, а нават і пашкадаваўшы, прызнаўся, што ўпусціў такую рэдкую рахубу — мог абмяняць паўмяшка нашае бульбы на паўмяшка грэчкі.

Пасмяяўшыся з маёй недасведчанасці, Наташа ўдакладніла: па сучасных цэнах яна за мяшок грэчкі не пашкадавала б і пяці мяшкоў бульбы.

Так і для мяне, і для дачкі гэтая прыгода ў нашай хаце адразу і забылася б, каб праз тыдзень з такой недарэчна вясёлай не паўстала ў іншай выяве — болей сумнай.

Сюжэт апавядання выстраіўся сам сабой і нават з эпілогам. Адпаведна дню, калі мілая Валянціна Аркадзьеўна прыносіць пенсію, сустрэўшы яе, як заўсёды, весела спытаў:

— На колькі ў гэты месяц я пабагацеў?

Аказалася, яшчэ ажно на трыццаць тысяч. Катастрафічна расце капітал! І куды толькі яго дзяваць?

Звычайна, у верхнім прыскрынку майго стала яшчэ трохі заставалася і ад мінулага месяца. Наташа так ашчаджае ў штодзённым абыходку, што я нават крыўджуся і мушу пытацца: — Чаму ты адсюль не бярэш? А яна адказвае: — А я мела свае. Так і на гэты раз. Далучыўшы да рэштак вераснёўскай пенсіі яшчэ і кастрычніцкую, а тыя, на якія пабагацеў, давай, думаю, дадам у запаснік, што ў двух старых канвертах ляжаць напашэве, на "ўсякі выпадак" на самым сподзе кніжнай шафы паміж усякай папяровай непатрэбшчыны. На адным лічба 100. Гэта з папярэдніх "зэканомленых", на другім — 85. А гэта ўжо тыя даляры, на якія мне пералічылі ўсе зберажэнні, што амаль паўвека захоўваліся ў ашчадкасе з усімі іх працэнтамі, кампенсацыямі, індэксацыямі, разам складзенымі за ўсе апошнія гады — нешта болей, чым дзвесце тысяч, а ў доларах усяго-наўсяго 85, дый тыя дапамог мне набыць, дзякуй яму, мой, як я яго жартам заву "ўнучаты зяць" — муж маёй старшай унучкі, чалавек болей сучасны і практычны, чым я. Не паслухаўшыся яго раней, але ўбачыўшы, нарэшце, як долар падае, а "заяц" плодзіцца так, што ўжо не ўгнацца за нулямі. Тады я сам папрасіў Юру памагчы мне пазбавіцца ад нулёў, бо я ўжо не магу і ўцяміць, якая іх вартасць.

Калі нулі адпалі, тады толькі я і ўбачыў, якая мне цана ў валюце. Праслужыўшы казне шэсцьдзесят год, жыву, на дзевяты дзесятак пайшло. Госпадзі, дык жа за год ледзьве па долару прыпадае.

Ну але. Дык на чым я прыпыніўся? Ага, як я, атрымаўшы новую пенсію і пабагацеўшы яшчэ на трыццаць тысяч, ужо меўся пакласці іх у той канверт, дзе напашэве 100.

Чакайце, чакайце, то дзе ж яны? Мацмац. Пашарыў. А той канверт, з лічбаю 85? Абодва ёсць, але адзін і другі — пустыя.

Сумеўся, разгубіўся. Розумам не ўцямлю. Чакаю Наташу. Адна надзея, можа яна знайшла больш надзейнае месца? Прыходзіць дачка. Цярпліва вытрымліваю паўзу — доўгую. Толькі пасля абеду рашаюся спытацца. Цяпер мы абое ў здзіўленні і разгубленасці. "Хоць ты да якой бабкі-варажбіткі ідзі!" — гаворыць яна.

А надвечар, вяртаючыся з работы і яшчэ толькі пераступіўшы парог, раптам пытаецца:

— А ты яшчэ так і не ўцяміў, хто нас абчысціў?

Праўду сказаўшы, у мяне нават і на думцы не мільганула і не звязалася з наведаннем нашай кватэры нядаўнімі бухарскімі лапатухамі. Дзве, трымаючы мяне на кухні ў засадзе, так затлумілі мне галаву, што трэцяя, мілы, няўрымслівы падлетак, шустрая і зіркатая, дзіва што ўправілася — часу хапала — абшнырыць увесь мой пакойчык. Не зважаючы на дзіцячасць, яна ж у іх — галоўны спецыяліст на кашачых лапках, каб анідзе не шамархнуць, не бразнуць, не груканць і з сабачым носікам, каб у самым нізе шафы ўнюхаць тыя злашчасныя два канверты.

Маці стаяла на стрэмі, трымаючы на воку ўвесь калідор да ўваходных дзвярэй. Дурачы гаспадара бясконцымі пытаннямі, не надта ўжо і зацікаўленая адказамі, яна тым часам ходам і кодам нашай гаворкі надавала яшчэ большай упэўненасці сваёй "меньшанькай". І як я цяпер ужо здагадваюся, аднаго разу "ляпнула" пытанне, мабыць, зусім не па сцэнарыі:

— Вы — пісьменнік? — пэўна ж, падумаўшы: грабе лапатаю. Ну і мы — грабанём. Але і пытанне і адказ для абоіх нейк непрыкметна стушаваліся, не набыўшы значэння. І гэта была ў самай старэйшай яе, мабыць, адзіная прамашка.

Затое малодшанькая ў іх — сапраўдны віртуоз. Дакладна справілася. Аніякі Янкелевіч не спатрэбіўся, дый нікому ён не быў патрэбны, і яны ніякія не бухарскія дэхкане, а нашы — цыганкі. Але ўжо без аніводнай прыкметкі спецыфічнай экзотыкі: ні без пяці-сямі рознага колеру расфальбованых спадніц на сабе, ні блiскучых завушніц, ні ў некалькі столак пацерак і караляў на шыях!

— Куды ты паклаў мамін гадзіннік? — на другі ўжо дзень спыталася ў мяне Наташа.

— У круглую каробачку ў серванце.

Пайшлі мы абое ў сталовую. Адкрылі каробачку. Маленькага мамінага гадзінічка сярод іншай драбязы няма. Ён быў залаты. І цяпер на маім сумленні цяжкі грэх — не ўбярог памятку аб нябожчыцы. Хоць усе гэтыя гады ён разам з маім ляжаў на століку ў маім пакоі. Штораніцы я іх заводзіў абодва. Як была нядаўна Машанька і ад'язджала, прасіў: — Вазьмі бабчыну памятку, некалі Ксюшы перадасі, каб памятала прабабку.

— Ой, дзядуля, няхай паляжаць. Мы хутка зноў прыедзем.

А што для мяне дзіва з дзіваў — мой большы залаты, падараваны сябрамі ў дзень пяцідзесяцігоддзя, па-ранейшаму застаўся ляжаць адкрыта на тым жа століку перад самым носікам юнай цыганачкі. Што ўтрымала яе ад спакусы — ці не імянная манаграма: каму і кім падараваны. Хутчэй за ўсё, што адразу б было заўважана знікненне, і лішні рэчавы доказ. Дый, мабыць жа, і ў іх таксама ёсць і свая стратэгія, і свая тактыка, а, магчыма, нават этыкет і этыка.

Яшчэ праз дзень-два ўспомніў, што ў адным з прыскрынкаў у мяне ж каля дзесятка розных узнагарод, дзе таксама ж нешта блішчыць. Праведаў: здаецца, усе на месцы. Ці то зусім упалі ў цане, ці то рызыкоўна збываць.

Госпадзі міласэрны, дый што гэта я ўсё на іх, на цыганоў! Першай жа адкрыта нас усіх абрабавала родная дзяржава, а патайныя зладзеі мусяць, як груганы, падбіраць толькі рэшткі, што кожны ашчаджае, самі ведаеце, на які выпадак.

Спраўдзіўся мой верш "Пясочны гадзіннік", які канчаецца вядомай прымаўкай: гол, як сакол.

**Такі яго час і лёс Васіля**
**І жыццё, пражытае Васілём,**
**Што распачаў калісьці з нуля**
**І завяршыў нулём.**

А што да слова "загавайла", не знойдзенага ў нашых тлумачальных даведніках, дык пасля апісаных тут прыгодаў, спадзяюся, няма патрэбы і шукаць. Вы ўжо і самі здагадаліся, што я-такі яго знайшоў.

Пацешцеся разам са мною!

*1995*

*На здымку: хата на вуліцы Маладзечанскай, якая згадваецца ў апавяданні.*

Фота Ул. КРУКА

## ЗА ПРАВА ЗАСТАВАЦЦА БЕЛАРУСАМІ

**Мінскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына" арганізаваў у касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), што ў сталіцы на плошчы Незалежнасці, мастацкую выстаўку партрэтаў "Дзеячы нацыянальнага Адраджэння Беларусі". У экспазіцыі прадстаўлена 90 партрэтаў з калекцыі старшыні праўлення клуба А. Белага, аўтарамі якіх з'яўляюцца А. Крывенка, С. Герус, М. Басалыга, М. Рыжы і іншыя беларускія мастакі.**

**Знаёмячыся з творамі, па сутнасці можна ў нечым прасачыць той шлях, які прайшлі беларусы, пачынаючы з мінулага стагоддзя, дзеля таго, каб "людзьмі звацца". Адкрываюць экспазіцыю выявы слаўных сыноў Бацькаўшчыны В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, затым размешчаны партрэты нацыянальных дзеячаў, што групаваліся вакол рэдакцыі газеты "Наша Ніва", а гэта, як вядома, браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Алесь Бурбіс, Цётка, Янка Купала, Аляксандр Уласаў... Не абыдзены ўвагай і грамадоўцы П. Бадунова, Ф. Шантыр... Прадстаўлены партрэты дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Згаданы і нацыянальна свядомыя беларускія святары, якія таксама разумелі, што беларускі народ зможа дасягнуць сапраўднага шчасця, толькі жывучы ў сваёй свабоднай, незалежнай дзяржаве — Я. Германовіч, А. Станкевіч, К. Сваяк і іншыя. І, нарэшце, дзень сённяшні. Тут таксама цэлая галерэя нястомных руплівцаў на ніве нацыянальнага Адраджэння: В. Быкаў, Р. Барадулін, Я. Юхо, М. Ермаловіч, Л. Лыч, Г. Штыхаў...**

**На адкрыцці выстаўкі выступілі А. Грыцкевіч, Л. Лыч, М. Ермаловіч, мастак М. Несцярэўскі... Усе яны адзначалі, што падобныя выстаўкі вельмі патрэбны, паколькі яны дазваляюць лепш зразумець і ўсвядоміць, як у розныя часы беларусы змагаліся за права заставацца беларусамі.**

## ІМЁНЫ МАЛАДЫХ

**Аўтарскія канцэрты нашых юных кампазітараў — гэта новая і радасная з'ява ў музычным жыцці Гродзеншчыны. Тыя, каму давялося пабываць на іх, не змогуць забыць святочнай атмасферы, якая пануе ў зале: увачавідкі нараджаецца будучы кампазітар, адбываецца цудоўнае пераўвасабленне звычайнага дзіцяці ў Творцу! Больш таго: вы, як добразычлівы слухач, як сведка чараўніцтва, міжволі робіцеся далучаным да далейшага лёсу таленавітага чалавека. Усё гэта вельмі хвалюе!**

**Бясспрэчна, пальма першынства ў правядзенні такіх канцэртаў належыць Гродзеншчыне. З вялікім поспехам прайшоў аўтарскі канцэрт 10-гадовай Дзінары Мазітавай у Лідскім Доме культуры. Выконвалася оперная, балетная, інструментальная і вакальная музыка таленавітай дзяўчынкі. Двойчы выступала з уласнымі творамі 12-гадовая Валерыя Янкоўская ў Ваўкавыску: першы раз — у музычнай школе, другі — у раённым Доме культуры. Са сваімі вершамі і песнямі пазнаёміў наведвальнікаў Лідскай карціннай галерэі 14-гадовы Дзяніс Латуноўскі.**

**А вось яшчэ адно імя. Нядаўна мяне запрасілі на творчую сустрэчу з Сяргеем Калабухіным. Яму — 12 гадоў. Жыве ў вёсцы Бердаўка. Кожны тыдзень прыязджае на ўрокі ў Лідскую музычную школу. Па фартэпіяна займаецца ў Веранікі Швец, пра творчасць якой "ЛіМ" у свой час пісаў. На сваім канцэрце Сяргей сыграў 16 рознахарактарных п'ес. Сярод іх і жанравыя — Полька, Вальс, "Вясёлая песенька", і ў старадаўнім стылі — Прэлюдыя, Пастараль, Экспромт, і вострахарактарныя абразкі — "Кот", "Мышынае шэсце", "Кураняты", "Кікімара", "Гном" і іншыя. Бердаўскія дзеці цёпла прынялі музыку свайго таварыша і пажадалі яму ўдала выступіць на Міжнародным конкурсе маладых кампазітараў "Надзея-96", які пройдзе ў Гродне.**

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

***Зазвычай я не пішу пра фільмы. Хіба толькі каб выявіць у самых нялепшых штучную, здранцвелую прыроду... Перад тэатральным відовішчам. З фільмамі рэжысёра Віктара ШАВЯЛЕВІЧА выпадак асаблівы.***

# АКТ СТВАРЭННЯ

## ФІЛЬМЫ "ПРЫЙДЗІ І ВІЖДЗЬ", "ПАСТКА ДЛЯ ЗУБРА. ЯГАЙЛА", "ПАСТКА ДЛЯ ЗУБРА. ВІТАЎТ"

Такой непрыхаванай раскутай тэатральнасці (не тэатралізаванасці), такому вольнаму лунанню духу "патроенага Пірандэла" і тэатр мусіць навучацца... Адгукнуцца на трылогію (дарэчы, у строгім сэнсе першы фільм розніцца ад двух наступных нават паводле сваёй эстэтыкі) карцела. Але пісаць звычайную рэцэнзію — ці не патрапляць у становішча булгакаўскага Левія Мацвея? Было б ідэальна і мне рабіць гэты артыкул у духу фільмаў, спавядаючы іхнюю вытанчаную празрыстасць, фільмаў, чыя адметная этыка ў самым дакладным сэнсе падначалена эстэтыцы (фармулёўка Бродскага), але... Рэжысёр падымае ліштву, задае тон, хуткасць і рытм неспазнаны, так што я, задумваючы свой акт стварэння як адказ на факт стварэння, пачувалася духоўным недаросткам. Гаворка ж сціпла ішла пра тое, каб "разгледзець сябе проста як месца, дзе мусіць выявіцца нейкая Існасць", і таму "трэба быць адцягненым ад самога сябе, каб напраўду зрабіцца такім месцам: у гэтым і ёсць сэнс смірэння..."

Сутыкаюцца, сыходзяцца стагоддзі. У нашым выпадку змена тысячагоддзяў, эры, эпохі вымагае новай якасці ад мастацтва. Найлепшыя з лепшых, творцы й стваральнікі, выломваюцца з рамак, парушаюць межы, грэбуюць так званымі мастацкімі нішамі. Якасная сутнасць мастацтва наўпрост вымагае дасканаласці душы. І ці не самая страшная пастка, Стваральнікам (а кім яшчэ?) дадзеная — душэўная нязменнасць. Нават пры тым, што і дасканаласці не палягае мяжа. "...Завершанасць ёсць мэта. Каму яна патрэбна?" — паводле тэкстаў сцэнарыста карцін Сяргея Тарасава. "Мо... нікому," — завершанасць як першая прыступка здранцвення?

Сутыкаюцца, сыходзяцца стагоддзі, і выбітныя творы мастацтва, што з'яўляюцца паміж гэтымі Сімплягадамі, бальшыня гледачоў называе эклектычнымі. Іх няможна ў строгім сэнсе класіфікаваць паводле жанравай пэўнасці, эстэтычнай вытрыманасці, — а з раздробу ды раскіданасці ўжо ўзіраецца ў сваіх спараджальнікаў новая якасць створанага... У рытмах ды хуткасцях будучыні існуюць гэтыя творы ўжо цяпер. "Час вымагае пераменаў..." — абарву я пушкінскую цытату, каб назваць гэтыя рытмы ды хуткасці пушкінскімі, паэтычнымі ў вышэйшым сэнсе слова. Не паэтызаванне, але вышэйшы градус душэўнага напалу. Напалу на сённяшні акт стварэння самае будучыні, — а яе, акрамя той, што абмалёўвае мастацтва, у чалавека няма. І, наследуючы Іосіфу Бродскаму, працягну: ці не выпрацоўка алфавіта ды правілаў чытання апанавала тых, хто даводзіць акт стварэння да факта? Адметна, што на фільмы рэжысёра Шавялевіча ўжо прыходзяць тыя, хто, нарэшце, разумее... Разумее і гэта.

Першая карціна, бадай, абсалютна зразумелая... з пункту гледжання гісторыі, храналогіі (адметна пададзеныя валадары ды кіроўцы Вялікага княства запамінаюцца нават партрэтна!) — у вобразах ды эмоцыях. "Пасткі для зубра" вымагаюць "віджання". Бачання. Зрокавая плынь фільмаў, выяўленчая мова, музычныя тэмы (о, якое магутнае паяднанне Шавялевіча-Васінеўскага-Балаш-Сімаковіч, рэжысёра-аператара-мастачкі-кампазітара!) гавораць куды больш за тэксты, укладзеныя ў вусны персанажаў. Не для эліты. Не для вузкага кола тых, хто прафесійна займаецца перакладам. А, паўтараюся з Жары, для тых, хто прыйшоў нарэшце, каб зразумець.

Адметны вобраз фільма ўтварае разбураны Ружанскі замак-палац. Самі ж "Пасткі..." (глядацкай абазнанасці) расстаўляюцца ўжо выявамі архітэктуры: Сафійскі сабор ды будынкі Полацка. Крэва, потым — згаданыя ўжо Ружаны. Дакладная суаднесенасць архітэктурных помнікаў з часам з'яўлення ды існавання гістарычных персанажаў, аказваецца, не мае аніякага істотнага значэння. Гісторыя — залаты фон, залатое тло, заднік для выявы на срэбным экране (мяркую, уважлівы чытач пазнае гэты вобраз з паэзіі Віславы Шымборскай). Час сціскаецца: Пушкін з ягонымі паэтычнымі хуткасцямі выдае ўжо на сучасніка Вітаўта (гэта я да слова), зрэшты — усе мы сучаснікі ў чалавечай гісторыі... Там, у двух апошніх фільмах, наша, пэўна беларуская гісторыя бярэ пачатак... з сутарэнняў пад Сафійскім саборам. Там пачынаецца вялікі сход персанажаў — ужо па-тэатральнаму... патроеных, спрацыраваных на існаванне па-за часам. І. паколькі першы фільм — як спраўны ключ да двух наступных, я паспрабую пакорпацца ў іх замковых адтулінках. На сцэне (месца алтара) Сафійкі Блазен з Вялікім Магістрам, як тое зло, што ёсць дабро, або тое дабро, што ёсць зло (а што, напраўду, ёсць спазнанне для нязменнае душы?) цытуюць... З пластычных вобразаў Шэкспіра (увасобленага калісь гэтымі акцёрамі, яшчэ студэнтамі). Дуэт Паплёўкі-Фаміна, акрамя філасофкай сутнасці спазнавання-сузірання-вытлумачэння, воляю рэжысёра набывае Воландаву пазначку. Заяўленая пастка для зубра — ці ж толькі ўлада для чалавека з сумленнем? Або пастка — сумленне для ўладара? Або пастка ўсё-такі (бо рэжысёр дае ўсе падставы так меркаваць) — няскратнасць душы? Ці — пастка — у гістарычных паўторах ды супадзеннях, пастка для роздуму як бяда ад сэрца? Не розумам адзіным жыве чалавек, "хоць і падказвае мне сэрца, што нельга да ўсяго даўмецца".

Фільмы нібыта пра дачыненні ўладароў са сваёю ўладаю. Пра рацыю або не-рацыю Ягайлы, Вітаўта, Кейстута ў сваіх звадах ды разбіраннях. Нібыта. Пра тое, якімі вачыма яны ўзіраюцца ў акты сваіх стварэнняў — дзяржаў, княстваў, каралеўстваў...

**Адкрытымі вачыма цэлы свет стварэнне бачыць. Вочы ў нас наадварот, на ўсе бакі расстаўлены, нібыта пасткі навокал выхадаў на волю...**

І гэта не адзінае, пра што застаецца пашкадаваць. Як і пра тое, што гэта, восьмая з "Дуінейскіх элегій" Рыльке, у фільмах не гучала. А яна б здолела сцісла й трапна стацца тэкставым вобразам карцін. "Не мае смерці свет, Бо толькі мы смерць бачым. А свабодны звер сваю пагібель мае за сабою, наперадзе ж ён бачыць Бога. Хай ідзе ў вечнасць тое, што ідзе..."

Уладар — свабодны? Уладар — звер? Альбо пастка — усведамленне чалавекам свае часовасці з усімі заганамі, якія з гэтага



ўсведамлення вынікаюць? І з усімі вартасцямі, — настойвае рэжысёр. Бо — толькі мы смерць бачым. І таму — спяшаемся. Таксама і на волю. А волі не бывае без закона. А закон — ён і над пасткаю для зубра, і над зубрам. "У нас нідзе няма такога дня, дзе б адкрываў на чыстую прастору..." "Заўсёды свет такі: у ім нідзе нічога няма — каб без нічога..." Такім чынам Рыльке трапней ды сцісЛей пераняў мае нягеглыя намаганні патлумачыць...

**А мы, узіраючыся ў акт стварэння, мы толькі бачым гэты свет заўжды бязмежнасці адбіткам, на які смуга дыхання нашага асела...**

І фільмы — ці не зафіксаваны акт... стварэння? З бясконцай зменаю чалавечых і прыродных станаў, настрояў, глыбінных і несвядомых матывовак... Ёсць жа ў Шэкспіра, чый апавядальны лад пераймаюць Шавялевіч з Тарасавым: "Душа мая, зямлі ўсёй асяродак..." Сярэдзінны, глыбінны свет большы за знадворны. Змена бязважкай матэрыі станаў, перацяканне выявы ў метафары, сімвалы, пазначкі... Гронка вінаграду ў руках Пракуратара (паралельна — Магістра) з "Прыйдзі і віждзь" праз фільм ператвараецца ў вінаградзінку ля вуснаў Ягайлавай жонкі: гадуецца й цвеліцца здрада... Ява ў свеце фільмаў мацуецца трызненнем або вешчым сном, ці прадчуваннем, або прадбачаннем, як працягам явы. Фільмы — нейкі ўяўны (паслухаюся спецыялістаў, рызыкну назваць яго астральным) свет, дзе засяроджаная на сваіх якасных зменах душа мусіць вяртацца ў бязладдзе нязменнасці, у няпэўнасць зямных пошукаў ды асягання ў... Узіраючыся ўжо ў факт стварэння, у фільмы, я адчувала дух Язэпа Драздовіча, ягоныя навасветы з іхнімі апекунамі, насельнікамі, краявідамі... З такімі знаёмымі паўторамі зямнога прыцягнення... "Сусвет. Над ім ніхто не ўладарыць. Бадай што, толькі... мы", — мы, Блазен ды Магістр у пошуках гармоніі — ці то для ўлады, ці то для душы. Увогуле, акт стварэння ў фільмах — найдасціпнае перайманне кшталту сярэднявечных хронік, кожная з якіх "...уяўляе сабой развагі пра сусветную гісторыю" (Жак Ле Ґоф). Дарэчы, аператарская і кампазітарская работа ў фільме — сама сабе сусвет у спалучэнні з дакладнымі рэжысёрскімі задачамі: уявіце, як здрадліва й непахісна цягнецца чырвоная мантыя ўслед за Ягайлам, а Кейстут і Вітаўт толькі прадчуваюць палон; віно, якое чашнік Прокша (М. Пятроў), небам прызначаны ў адвечныя здраднікі, падае — не, не гасцям, а свайму ўладару Ягайлу; або змрочнаю часінаю балявання той самы Прокша цягне ўладара спаць, той губляе карону, і чашнік па-свойску напінае яе сабе на галаву дагары... Напэўна, сапраўдны геній творцаў фільмаў — у адметнай камернасці выяўленага чалавечага свету перад прыродным светам. Падзеі, што скаланалі розумы таго часу, несувымерныя з адным нашым Чарнобылем. Змаганні, шлюбы, здрады пераймалі адно аднаго: гэткая эпоха жорсткага позняга (запозненага?) карнавалу, дзе пара Магістр-Блазен — то праява лёсу, то ягонае ўвасабленне. Яны то падарожнічаюць, то сноўдаюць, то бадзяюцца: выспы, хвалі, напамін пра Іерусалім зямны й нябесны, матыль на беражку пасудзіны з астралагічнаю выявай, мураш, яшчарка ў адтулінцы, разбітае каменьчыкам яйка, кроў... Рыбіна — сімвал жыцця ў славян, выцягнутая Ягайлам са збана, пясок, што капрызліва-падступліва ён, Ягайла, насыпае ёй у рот, паводка, якая змывае бяседныя прасцірадлы, гэткі апошні баль Вітаўта, які курчыцца пад цяжарам кароны-мроіва... Адзінства і тоеснасць супрацьлегласцяў, яшчэ не збэшчаных нашай эпохай памерлага Бога. Спаміж разбуранымі сценамі Ружанскага замка (на гістарычнай, між іншым, сцэне) знаходзіць Вітаўт карону-клетку, карону-пачвару, карону-пастку, ірве з яе покрывы, — каронай-надмагіллем паўстаюць рыштаванні ў фінале... Паганскім вогнішчам палае пастка над хрысціянінам Вітаўтам (Я.Жураўкін). Таксама хавалі Кейстута, і Ягайла (М. Кірычэнка) крычаў, што ён гэтага не хацеў... То Вітаўт, то Ягайла "на вятры сваёй віны" (Ф. Вэрфель). Геній творцаў фільма — адкаснуцца ад спакусы захаплення маляўнічаю прыгодніцкаю стракатасцю падзей ды ўчынкаў.

Геній — у сузіранні.

**"І мы: заўсёды, ўсюды — гледачы,**
**усё бачым, выйсця ж нам нідзе няма!**
**Мы поўныя праз край! Мы робім лад.**
**Лад рушыцца! Мы ладзім зноў яго**
**І распадаемся паволі самі"**

*(Рыльке)*

Ганна з хрысціянскім словам на вуснах моліцца дубу. Цягне долу карона, якой ніколі не дачакаўся Вітаўт. Нізаюцца пярсцёнкі на суровую нітку і саслізгваюць з яе. Радкі Апакаліпсіса гучаць за кадрам. Мы, вы, яны прыйшлі ды пойдзем, а сутнасць Сусвету застанецца пры ім. Хто ведае, мо пастка для зубра, у чыім вобразе лёгка чытаецца Уладар — перадусім Волі ды Закону ў самім сабе, — якраз бясконцае спасціжэнне неспасціжнасці сваёй уласнай сутнасці? Ці ж не вартае жыццё таго, каб быць пражытым?!

Эпілог карцін (пасля эфектнага спалення кароны-пахавальні Вітаўта ) — краявіды, адноўлены свет.

**"Хто павярнуў нас так, што мы**
**заўжды супроць таго, хто выйсце мае?**
**А ён выходзіць на апошні свой курган,**
**адкуль відзён былы абсяг жыцця,**
**ён спыніцца ў задуме, азірнецца..."**

*(Рыльке)*

Выявы нябёсаў, нябёсаў, нябёсаў... Новых?

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках фільма "Прыйдзі і віждзь" Анатоль Голуб, Юры Паплёўка і Віктар Шавялевіч.*

***Пра мастацтва першых гадоў пасля рэвалюцыі, калі яшчэ бурліла жыццё і па-сапраўднаму верылася ў новаўтварэнне грамадства, гаварыць можна бясконца. Асабліва, калі з'яўляецца новы матэрыял, які патрабуе і ўвядзення ў кантэкст мастацтвазнаўства, і навуковага асэнсавання. І вось вам прыклад: малюнак-гравюра, выдрукаваная на першай старонцы "Савецкай Беларусі" да 8-й гадавіны кастрычніка. З якой нагоды, хто мог намаляваць штучны спадарожнік у 1925 годзе? З гэтага пытання і пачалася наша гаворка з мастацтвазнаўцам, даследчыкам мастацкага жыцця Беларусі 20-х гадоў Людмілай НАЛІВАЙКАЙ.***

# ВЯЛІКІ УТАПІСТ,

## альбо ПЕРШЫ ШТУЧНЫ СПАДАРОЖНІК 1925 ГОДА

— Гэтую гравюру рэзаў Алесь Ахола-Вало. То былі часы, калі "героямі" карцін станавіліся маторы і вагоны — як лагічны працяг рамантычнага паравоза. Мастацкія метафары чэрпаліся з вытворчасці: дакладныя лініі, буйныя лічбы, геаметрычныя абрысы. Стваралася, пасля чарговага (20-я гады) бачання будучай эры камунізму, новая эра эстэтыкі рэальнага ўзамен адкінутых каштоўнасцей былога.

**— Тры месяцы, якія вы правялі ў Фінляндыі ў творчай камандзіроўцы па запрашэнні Інстытута Расіі і Усходняй Еўропы, без усякага сумнення, далі матэрыял для запаўнення так званых "белых плям" у гісторыі мастацтва Беларусі?**

— Так, знайшліся матэрыялы, якія засведчылі, што ў агульным ланцугу мастацкіх плыняў паміж крытычным рэалізмам, прадстаўніком якога быў Ю. Пэн (найбольш буйная фігура), авангардам 20-х гадоў (футурысты Віцебскай школы, у прыватнасці — майстэрня УНОВІСа К. Малевіча і яго паплечнікаў), мы можам зараз доказна паставіць канструктывізм. Яго прадстаўляла мастацкая суполка мінскіх мастакоў "Прамень", стваральнікам і яскравым прадстаўніком якой быў Аляксандр Пятровіч Ахола-Вало. У лютым гэтага года яму споўнілася 96 год. І я рада павіншаваць яго з гэтай датай праз штотыднёвік "Літаратура і мастацтва"...

**— Давайце вернемся да пачатку пачаткаў...**

— Пазнаёмілася я з Ахола-Вало ў 1991 годзе, пасля таго, як наш аддзел выяўленчага мастацтва Акадэміі навук выдаў 4-ы том "Гісторыі беларускага мастацтва". У раздзелах па плакаце, часопісна-газетнай, станковай, кніжнай графіцы прагучала прозвішча А. П. Ахола-Вало. Але хто мог прадбачыць, што гэты мастак дасюль жыве і, галоўнае, працуе?! Пераглядаючы "выразкі" газет і часопісаў, якія мы атрымлівалі штомесяц, я сустрэла прозвішча А. Ахола-Вало ў невялікім артыкуле пра адну выставу ў Адэсе. Узрадавалася, бо ведала, што другую частку свайго прозвішча — "Вало" — Аляксандр Пятровіч узяў тут, у Мінску. Азначае яна "Прамень", бо ён быў арганізатарам таварыства прафесійных мастакоў пад такой назвай (1928 г.). Напісала ліст дырэктару мастацкага музея Адэсы. Ён адказаў мне, прыклаўшы адрас. Адаслала ліст у Фінляндыю, а ўжо праз некалькі дзён Аляксандр Пятровіч узрадавана тэлефанаваў у наш аддзел. І праз некаторы час, па яго запрашэнні, гасцявала ў мастака ў горадзе Хяменлінэ. Мяне сустрэў стройны, сівы, з бародкай і доўгімі валасамі чалавек. А найбольш уразілі вочы, што свяціліся цікавасцю да суразмоўцы. Пытаўся, дзе М. Шчакаціхін, М. Каспяровіч, Я. Дыла? Ён і не ведаў, што іх рэпрасавалі ў 1930-х гадах, а ў 1960—70-х — рэабілітавалі. Зараз выдаюцца іх працы, біяграфіі, кнігі. Стары плакаў, як дзіця...

За чатыры гады даследаванняў я сабрала, здаецца, большасць твораў Аляксандра Пятровіча, якія былі надрукаваны на старонках газет, часопісаў, кніг, брашур, што выходзілі на Беларусі. Гэта больш за 200 малюнкаў, ілюстрацый, вокладак кніг, карыкатур і г. д. Перагарнула такія выданні, аб якіх і не ведала раней. Прыйшлося ехаць у санкт-пецярбургскія і маскоўскія архівы, бо ў нас адсутнічалі пэўныя выданні альбо часткі іх. Гэта і "Витебские известия" 1921—1922 гадоў, "Красный пограничник" (Мінск, 1926), многія старонкі "Чырвонай змены", "Звязды". Дарэчы, больш дакладна даведалася, што ёсць і чаго няма на паліцах нашых архіваў. У прыватнасці, была здзіўлена, што ў бібліятэцы імя М. Горкага ёсць унікальная газета "Окна РОСТА", якая выдавалася ў Віцебску ў 1919—20 гадах.

**— Знаёмства з творчай біяграфіяй Аляксандра Ахола-Вало таксама дало вам новыя звесткі?**

— Так, адны толькі канкрэтныя дадзеныя аб прычынах з'яўлення мастака ў Віцебску ў 1920 годзе далі магчымасць паставіць, як кажуць, усе кропкі. Справа ў тым, што ў савецкай гісторыі заўсёды пісалі аб "барацьбе з левымі, якія занялі кіруючыя пасады ў мастацтве". На самай справе ўсе мастацкія падзеі ў Віцебску перыяду грамадзянскай вайны былі звязаны менавіта з вайной і так званай "сусветнай рэвалюцыяй". Так, у Віцебску стаяла некалькі дывізій, якія накіроўваліся на Варшаву. Камплектаваліся ў Пецяргофе, потым ішлі на Віцебск, Гродна, Ліду, Беласток. Аляксандр Пятровіч удзельнічаў у гэтым паходзе як чырвонаармеец-добраахвотнік. Захаваліся малюнкі з паходу, дзе можна ўбачыць партрэты чырвонаармейцаў, замалёўкі асобных мясцін (інтэр'ераў беларускай хаты, дарогі з шыльдай "Ліда—Беласток" і г. д.). Мастак памятае, як летам 1920 года польскія сяляне на чале з ксяндзом гналі іх палкамі, як ён сам цудам застаўся жывы. Не дайшлі толькі 15 кіламетраў да Варшавы (справа была ля маёнтка Крэнгі). Ваенныя начальнікі А. Корк і А. Ягораў яшчэ доўга "не будуць" памятаць пра гэты паход — да самага 1937 года, да рэпрэсій. Няма з чаго здзіўляцца, што "гісторыя" таксама забудзе, як уцякалі многія ўдзельнікі "паходу на Варшаву" на Захад, у Літву. А тых, хто вернецца, — расстраляюць, як дызерціраў і марадзёраў: паставяць два бронепаязды адзін насупраць другога, выйдзе з загадам у руках усесаюзны стараста М. Калінін, махне ручкай — змоўкнуць назаўсёды. Мастак быў паранены, але цудам застаўся жывы: мясцовы ксёндз з Крэнгаў ведаў вынаходніка-мастака і адпусціў яго.

Але ідэя сусветнага сацыялізму яшчэ лунала над мастацкім Віцебскам. Эксперыментатары-супрэматысты выдалі праграму сваёй арганізацыі пад назвай "Сцвярджальнікі новага рэвалюцыйнага мастацтва", тэарэтычныя распрацоўкі, практычныя працы. Кіраваў гэтымі распрацоўкамі Казімір Малевіч. Утопія сацыялізму находзіла сваё адлюстраванне ў ідэях стварэння новага супрэматычнага адзення, мэблі, побытавых рэчаў. Мэта — знайсці аднолькавыя для ўсіх пралетарыяў свету адзенне, формы дамоў, вуліц, плошчаў, каб пралетарый усюды адчуваў сябе "як дома" — вось адзін з неабходных вынікаў эксперыменту. Другі — звязацца з Космасам праз супрэматычныя формы. Без усялякага сумнення, гэтыя распрацоўкі для будучага сацыялістычнага жыцця аказвалі ўплыў на моладзь. Аляксандр Пятровіч узяўся за задачу распрацаваць праграму для стварэння новага чалавека сацыялістычнага жыцця. Назваў яе "Эвахамалогія" (гома — чалавек). Памятаеце тыя "рацыяналізатары", якія прапаноўваў Эмануіл Энчмен? Гэта сістэма спецыяльных "тойсаў", "тэстаў" (пытанняў) для вызначэння здольнасцей чалавека. Яна была складзена ў 20-х гадах. Гэта сістэма была неабходна для ўвядзення ў жыццё так званых "фізіялагічных пашпартоў", своеасаблівых "картак" на хлеб. Можаце ўявіць, якія неверагодныя утапічныя праекты ствараліся для савецкага чалавека: аднолькавыя дамы, людзі, душы! Дарэчы, утопія не заставалася толькі ў праектах. Пагляздзіце, у якіх мікрараёнах мы жывём? Якая ў нас аднолькавая мэбля?

Аляксандр Пятровіч працягвае працаваць над сваім праектам "Эвахамалогія", у аснове якога ляжыць ідэя дапамагчы чалавеку больш эканомна выкарыстаць свой час. Дзеля гэтага трэба дні, тыдні, гады весці падлік затрат свайго часу на працу, адпачынак, сяброўства і г. д. А потым падлічыць, як выкарыстоўвае сваё жыццё кожны з нас. На працугу больш як 60 год Аляксандр Пятровіч робіць такія падлікі. У яго ёсць спецыяльныя графікі з дзесяткамі, сотнямі сімвалаў. А пачаў ён гэтым займацца ў Віцебску, у 1920-я гады, у часы вялікіх эксперыментаў мастакоў-сацыялістаў, якія ігралі свой апошні футурыстычна-сімвалічны акорд.

**— Гледзячы на графіку Ахола, не скажаш, што ён быў авангардыстам-кубістам. У якім напрамку ён працаваў у беларускі перыяд творчасці?**

— Так, кубістам не быў. А вось экспрэсіянізм ёсць у яго творчасці, рэалізм, натуралізм, нават рысы прымітыву, калі браўся за асваенне канонаў. Гэта і вобраз Божай Маці, і Хрыстос. Жыццё — 96 год — дало магчымасць паспрабаваць усе віды і жанры мастацтва.

**— Значыць, у "Гісторыі мастацтва Беларусі" Ахола-Вало — звяно ў ланцугу ад футурыстаў да канструктывістаў? Сацыялістычны рэалізм ён не паспеў засвоіць?**

— Сапраўды, Аляксандр Пятровіч, як мастак — фігура сімвалічная. У беларускім мастацтве ён прадстаўляе крытычны рэалізм, канструктывізм і мастацтва, якое было накіравана на засваенне традыцый беларускага народнага мастацтва. Аб гэтым сведчаць яго ілюстрацыі, карыкатуры на старонках газет, часопісаў, вокладкі кніг, сярод якіх "Новая зямля" Я. Коласа і інш. Але перш-наперш яго неабходна лічыць канструктывістам 30-х гадоў, бо менавіта перыяд 1926—1930 гадоў у яго творчасці запоўнены малюнкамі, праектамі, лістамі-чарцяжамі з прапановамі праектаваць новае жыццё. "Героямі" гэтых твораў былі інтэр'еры, праекты творчых майстэрняў павільёна МОПР для першай сельскагаспадарчай выставы ў Мінску (1930 г.), эскізы афармлення сталіцы. Да гэтага перыяду адносіцца дзейнасць мастацкай суполкі "Прамень" (1928 г.), у задачы якой уваходзіла стварэнне новай эстэтыкі рэальнага ўзамен адкінутых каштоўнасцей былога. Вядома ж, гэта было не першае бачанне будучай эры камунізму, але менавіта канструктывісты былі ўпэўнены ў тым, што яны ствараюць мастацтва для чалавека-будаўніка новага свету. І шмат у чым яны заглядвалі наперад. Вось, напрыклад, які прарочым быў плакат-гравюра на першай старонцы "Савецкай Беларусі" да свята Кастрычніка 1926 года. Цікава, што гэты праект не стаў чарговай тэхнічнай утопіяй, якіх было шмат. Гэта быў той шчаслівы выпадак прадбачання тэхнічнага прагрэсу ў галіне Космасу! У 1926 годзе ён намаляваў дэталі-шасцерні, якія рухаюцца вакол Зямлі як штучны спадарожнік яе! Бязбожнік, атэіст, Ахола-Вало не мог прадбачыць і таго, што ў 1963 годзе ў Швецыі ў залатой зале Стакгольмскай ратушы ён перадасць гэтую гравюру "Кастрычнік у Космасе" ў рукі самога Юрыя Гагарына. І зараз гэта гравюра знаходзіцца ў Музеі касманаўтаў. Другім такім жа прарочым можа служыць праект павільёна МОПР. Упершыню прапанаваў і выканаў, разам з В. Волкавым, Г. Шульцам і студэнтамі Віцебскага мастацкага тэхнікума, манументальныя роспісы на тэму "Сусветнага бандытызму" з сюжэтамі фізічных катаванняў людзей. Як на палотнах і дыяграмах музеяў Вялікай Айчыннай вайны, Бухенвальдаў і інш.






"*Кастрычнік у космасе*" *(фрагмент).*



*Павільён МОПР.*

**— Як вы мяркуеце далей распараджацца сабраным матэрыялам? Маеце на ўвазе выдаць кнігу, альбом па мастацтве 20-х гадоў?**

— У маіх планах — выданне на тэму "Мастацкае жыццё Беларусі 20-х гадоў".

**— Вы былі ў Фінляндыі два разы. І што найперш кідаецца ў вочы ў гэтай краіне?**

— Добразычлівасць, ветлівасць фінаў. Напрыклад, у іх няма праблемы адказаць на пытанні іншаземца — кожны фін ведае некалькі моў. У іх двухмоўе: шведская і фінская. Шмат помнікаў: расійскаму цару Аляксандру II у гонар вызвалення ад прыгоннага права, помнік генералу-прэзідэнту Манергейму, кампазітару Сібеліусу і інш. У Нацыянальным музеі "Атэнэуме" заўсёды многа гледачоў, працуе кафэ. Там я бачыла выставу авангарда XX ст. з Нью-Йоркскага музея Саламога Гугенхейма, у прыватнасці, творы М. Шагала, К. Малевіча. Артмузей Хельсінкі выдаў цудоўную кніжку са зборам Георгія Кастакі, дзе змешчаны таксама творы Віцебскай мастацкай школы пад назвай "Віцебскі УНОВІС". Так што на Захадзе ведаюць пра Віцебск 20-х гадоў. Але зараз мы ведаем, што Віцебская мастацкая школа не прайшла бясследна для мастацтва Беларусі, як гэта ў свой час сцвярджалі некаторыя ідэолагі. Такая з'ява, як канструктывізм 30-х, "маладнякоўская графіка" — доказ гэтаму. Мастакі П. Гуткоўскі, Г. Змудзінскі, М. Філіповіч зведалі ўплыў фарматворчасці, пра што сведчаць не толькі назвы палотнаў і аркушаў, але і кампазіцыйныя прыёмы, геаметрычныя фігуры (трохкутнік) у кампазіцыях вокладак часопісаў, кніг. Напрыклад, П. Гуткоўскі ў партрэце "Ф. Скарына" ("Работніца і сялянка", 1925, N 14) фон партрэта, у аснове якога быў белы квадрат, зрабіў сімвалам новых часоў, новых адкрыццяў, белага аркуша, на якім будуць напісаны новыя імёны, падобныя першадрукару. І гэтыя белыя аркушы будуць запаўняцца мастацтвазнаўцамі.

**Гутарыла Н. ШАРАНГОВІЧ**

***Імя гарадзенца барда Віктара Шалкевіча я пачуў у той час, калі ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь ішлі, здавалася, незваротныя змены да лепшага. Адраджэнне. Рэфармацыя старой сістэмы. І агульная эйфарыя сярод палітыкаў — нацыяналаў, інтэлігенцыі ды часткі "простага народу".***

***А Шалкевіч спяваў тады песню, назва якой рэзала мне вуха — "Жлобская нацыя". Песня гэтая ніяк не стасавалася з усім, што адбывалася навокал, і з тым, пра што спявалі тады шмат якія беларускія барды (пра мову, бел-чырвона-белы сцяг, Пагоню, харугвы, шыхты вояў і ланцугі, якія горда разрывае беларус). За такое стаўленне да свайго народа гарадзенца не любілі й да гэтага часу не любяць, не ўспрымаюць нават некаторыя "свядомыя беларусы". Але ён усё роўна займаецца сваёй справай — піша, спявае і, акрамя гэтага, праводзіць аўкцыёны ў Гродне й Мінску — на карысць сабе і, мабыць, "жлобскай нацыі".***

# "МАЯ МЭТА — САМАВЫКАЗАЦЦА..."

**— Як здарылася, што вы сталі бардам?**

— Калісьці я быў маладым пісьменнікам. І аднойчы мяне вельмі расчаравала тое, што часопіс з маімі апавяданнямі, якія былі прызнаны лепшым дэбютам года, я ўбачыў у шапіку мінскага аўтавакзала ўцэненым. Тады я зразумеў: нягледзячы на тое, што крытыкі крытыкуюць, а пісьменнікі пішуць, народу глыбока "да фені", што адбываецца ў літаратуры. Ён заняты зусім іншымі справамі і крышку больш прыземлены, чым мы пра яго думаем.

Таму я вырашыў дайсці да людскіх сэрцаў найбольш простым і кароткім шляхам — узяць у рукі гітару, напісаць кідкую мелодыю й харошы тэкст, і праз пяць хвілін гэта будзе ўласнасцю простага народа... А калі сур'ёзна, то існуе нейкая патрэбнасць пісаць...

Ўласна беларускі перыяд творчасці пачаўся 6—7 год таму, бо спачатку я пісаў па-расійску, потым па-польску. Цяпер — па-беларуску, і думаю, што гэта ўжо да канца жыцця.

**— А чаму адбывалася такое развіццё?**

— Нягледзячы на тое, што я выхоўваўся ў мястэчку на заходняй мяжы Беларусі, там асабліва ніхто беларушчынай не займаўся. Толькі потым я ўжо дазнаўся, што недалёка ад нас, у Шурычах, нарадзіўся вядомы беларускі дзеяч ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. У маім родным мястэчку Поразава нарадзіўся доктар Глякоўскі. Увогуле, у нас даволі цікавы рэгіён — Ваўкавыск, Ружаны, Беласток. У Карэлічах працаваў ксёндз Зязюля. Шмат хто з адраджэнцаў знаходзіўся ў тым глухім кутку каля Белавежскай пушчы.

Мае далейшае жыццё й сутыкненні з вельмі цікавымі людзьмі расплюшчылі мне вочы, і я зразумеў, што іншага шляху няма — за расійцаў мы не можам сябе ўважаць, бо мы не расійцы, на палякаў мы таксама "не цягнем", а нашае сапраўднае гаспадарства — былое Вялікае княства Літоўскае.

А наконт еўрапейцаў... Мы хочам імі быць, але нам не даюць.

**— Калі вы пачалі пісаць беларускія песні, то ўжо чулі таго ж Сокалава-Воюша ці іншых нашых бардаў?**

— Для мяне былі аўтарытэтам не Воюш, а такія барды, як Пётр Канстанціневіч Лешчанка, альбо Аляксандр Вярцінскі — расійцы, якія жылі і стваралі за межамі былога Савецкага Саюза.

Да таго ж я ўсё жыццё на заходняй музыцы, на лепшых яе творах — я маю на ўвазе Боба Дылана, барда, які стаў мільянерам. Была таксама цэлая плеяда польскіх бардаў: Марэк Грахоўта, Тадэвуш Возняк, Севярын Краеўскі — Польшча ў 80-я гады мела выразную структуру поп-музыкі, і не апошнее месца ў ейнай іерархіі займалі рок-барды, спяваючыя барды. І я слухаў іх, глядзеў на іх. Таму што ў нас у той час спяваліся песні накшталт:

**Закончился день трудовой,**
**Наполнились улицы гомоном.**
**Шагают с работы домой**
**Хозяева нашего города і г.д.**

У тых песнях не было месца на інтым, на шчаслівае пачуццё, у нас усё было: "В колхоз, в колхоз!"

**— Аднойчы давялося бачыць ваш выступ, калі вы спявалі прыгожыя польскія лірычныя песні, а пасля іх — беларускія, і тут ужо загучала "Жлобская нацыя"...**

— Тады я быў даволі малады і ў мяне былі іншыя погляды на жыццё. Проста польскі народ, дзякуючы выдатным дзеячам культуры, такім, як Сянкевіч, Рэймант, прайшоў стадыю "людзьмі звацца" і чакаў толькі моманту, каб адрадзіць Польшчу, якую разабралі па кавалках тры драпежнікі. І ён гэтага дачакаўся. А нашаму зноў чамусьці даводзіцца пачынаць з самага пачатку. Нават тое, што быў сцяг, і...

У нас зусім іншыя праблемы, чым у Еўропе. Тамужо даўно вырашылі, з кім, куды, за што, як, дзе й за якія грошы. Проста крыўдна, калі на парозе XXI стагоддзя мы вырашаем гэтыя пытанні.

Мэта мая — самавыказацца, выказаць свае адносіны да ўсяго таго, што навокал цябе, да таго, што дзеецца з табой і іншымі людзьмі.

**— Чаму вас нешта не чуваць апошнім часам?**

— Дык сітуацыя ж змянілася грамадска-палітычная. Да мяне падыходзяць карэспандэнты радыё й кажуць: "Ну, Шалкевіч, ты разумееш, што ў сённяшняй сітуацыі мы даваць цябе проста не можам". Я зараз заняўся "малой прыватызацыяй" і таму часцей мяне чуваць на мінскіх і гарадзенскіх аўкцыёнах, чым па радыё й тэлевізіі.

**— Між тым, беларускія барды шчыруюць, выпускаюць касеты. Ці аўкцыёны важнейшыя?**

— Не, я цяпер запісаў альбом, які будзе называцца "Смутны беларускі блюз". Гэта мае быць кампакт-дыск. Разумееце, у нас няма нацыянальнай поп-музыкі, і гэта вельмі балюча. Што можна назваць нармальнага з беларускіх выканаўцаў? "Краму", "Палац" — і ўсё. Хіба гэта нармальны музычны рынак?

Я мог бы, канешне, запісвацца дзесьці на кухні, але я проста хачу нармальнай якасці. Калісьці я выйграў гран-пры і атрымаў права бясплатнага запісу альбома ў студыі польскага радыё ў Беластоку. Аказалася, што ў правінцыйным польскім горадзе ёсць такая тэхніка, апаратура, якой увогуле няма ў сталіцы нашай радзімы горадзе-героі Мінску...

Дарэчы, я ніколі не думаў, што песні, якія пісаліся сем гадоў назад, напрыклад, "Дзякуй, вялікае дзякуй", ці "Ёлачка блюз" — пра трыумфуючы білінгвізм, ваенны патрыятызм і рэальны сацыялізм — будуць актуальнымі й сёння.

**— Тыя людзі, з якімі вы пісалі альбом, супрацоўнічаюць з вамі стала?**

— Гэта была такая адна з найлепшых інструментальных груп у Беларусі "Тэатр": клавішнік Толя Кандыба, гітарыст Віця Грышук і спявачка Наташа Трухан, яны былі вельмі класным ансамблем. Але ўся бяда ў тым, што калі такіх гуртоў было многа, наш родны камсамол не звяртаў на іх аніякае ўвагі, бо яны не спявалі песні пра "светлае заўтра", а спрабавалі звярнуцца да ўнутранага свету чалавека. І гэта нікога не цікавіла. Былі добрыя гурты, як "Дэбют" у Росі, і ў Ваўкавыску нешта было, і ў Мінску "Зарціпо" (яно, праўда, і цяпер іграе).

**— Такім чынам, вы збіраецеся ратаваць беларускую поп-музыку?**

— Не, я проста не ведаю, да якога стылю мяне прылічаць. У мяне вялікая фанатэка — каля 2000 плытак, я магу паставіць вам аднаго ангельскага барда, другога, трэцяга, і вы ўбачыце, што, аказваецца, можна зрабіць гэта прыгожа не з адной толькі гітарай. Гітара, канешне, вельмі зручная рэч, але мы расцём, сталеем, і павінны развівацца. Я не збіраюся рабіцца поп-зоркай, я хачу сябе проста самарэалізаваць, а самы кароткі шлях да людзей — запісаць нармальную касету. Нармальную. На гэта трэба "пагарбаціцца" і зарабіць, ці недзе адшукаць грошы, сесці ў студыі і нікуды не спяшацца. Але тады атрымліваеш вялікае задавальненне.



**— Вы атрымалі гран-пры на фестывалі ў Польшчы?**

— Так, гэта было на "Басовішчы". Гран-пры было вельмі дарагое й заключалася ў праве бясплатнага запісу на студыі. А гадзіна запісу каштуе дваццаць даляраў... На бардаўскім фестывалі ў Бельску я таксама ўзяў гран-пры.

Для мяне Беласточчына стала бліжэйшай і даражэйшай за Беларусь. Там жывуць людзі, якія мяне разумеюць, добра ведаюць і сапраўды неяк цэняць.

А тут мне не падабаецца зацятасць, заангажаванасць людзей у нацыянальнай справе. Яны не могуць зразумець аднаго: пакуль эканоміка стаіць, нічога не будзе — ні грошай, ні кніжак на беларускай мове, ні сцяга, ні герба.

**— Можа, у нас народ "сапсаваўся"? Што, калі параўнаць, да прыкладу, беларусаў беластоцкіх і "нашых" — адну нацыю, якая пэўны час жыла пры "камунізме", але ў розных краінах?**

— Беластоцкія беларусы выхаваны на дзвюх культурах — беларускай і польскай. У Польшчы брыдка быць нявыхаваным, хамам, і ўсе гэта разумеюць. Там людзі з пашанай ставяцца да таго, што робіш. У 80-я гады хлопцы ўтварылі там Беларускае аб'яднанне студэнтаў (БАС) — цяпер нехта з іх стаў мільянерам, нехта — віцэ-прэзідэнтам макароннай фабрыкі, журналістам у "Ніве", проста бізнесменам — і гэта нармальны ход рэчаў. Адна справа — трэсці бел-чырвона-белым сцягам і крычаць: "Жыве Беларусь! Ура!", а потым : "Дай закурыць!", а іншая — і трэсці, і мець нешта закурыць. Канешне, там таксама ёсць свае праблемы: некаторыя людзі саромеюцца прызнацца, што яны беларусы...

А "сапсавала" нас падвойная мараль. Гаварылі, што красці няможна, а кралі; казалі, што падманваць нельга, і падманвалі.

Увогуле, мы прысутнічаем пры развале апошняй ласкутовай імперыі ў свеце — Расійскай. Людзі павінны гэта разумець і адпаведным чынам сябе паводзіць. Я не прашу ў Бога, бо ведаю, што Бог да гэтага ніякага дачынення не мае. Ён зрабіў, кінуў гэта ўсё, і мы развіваемся паводле сваіх законаў. Трэба не прасіць, а рабіць так, каб бяда нас абмінула, як абмінула паўночных і заходніх суседзяў. Цяпер у Польшчы справы ідуць такім чынам, што там ужо не важна, хто будзе: Валенса, Квасьнеўскі, Алекса. Польшча ідзе наперад і нічога я не спыніць. А мы рухаемся назад. І дрэнна, калі ўся Еўропа будзе хадзіць у глянцавых ботах, а мы з'явімся ў лапцях, з гармонікам і скажам: "Вось мы, Беларусы!"

Існуюць такія легенды: "Хлопцы, на Захадзе лапці нашыя —бяруць!" Мы аднойчы з лялечным тэатрам прыехалі ў Германію, пахадзілі па крамах, і нам брыдка стала — там такія адмысловыя вырабы з дрэва, усё прыгожае, а мы прывезлі з Беларусі такую рэч: стаіць конь, каля яго — баба, паклаўшы каню рукі на круп, і подпіс: "Коня на скаку остановит, в горящую избу войдет".

Я, канешне, магу маліцца, каб народ наш ачуняў, але я не магу ўставіць кожнаму свае вочы й свой розум. Мы думаем, што ўсе зроблены на наш капыл, але насамрэч усе настолькі розныя людзі. Ты можаш з адным чалавекам скончыць дзесяць класаў і праз дваццаць год ты будзеш з ім у адным аўтобусе, ён будзе пляваць табе на ногі семкамі. Сапраўды, народ калісьці быў крыху больш выхаваны. Але я вельмі вялікі аптыміст і веру, што хто быў п'яны, той працявярэзіцца — і народ, і, магчыма, начальства.

**— Вы ўзяліся весці аўкцыёны дзеля магчымасці зарабіць грошы?**

— Рэч у тым, што праграма "Малая прыватызацыя" — гэта крок да нармальнае дзяржавы. Самае галоўнае, каб у нас з'явіўся ўласнік і сярэдні клас. У нас ніколі не было беларускай буржуазіі, тых людзей, у якіх было б дастаткова шмат грошай, і якія зразумелі б, што, акрамя гэтых грошай, трэба яшчэ нешта мець.

**— Вы прынцыпова ведзяце аўкцыёны па-беларуску?**

— Канешне.

**— Акрамя ўсяго астатняга, вы яшчэ й акцёр...**

— Так, я працую ў Гарадзенскім лялечным тэатры. Але ад нас адышло вельмі шмат акцёраў, і цяпер сітуацыя склалася не на нашу карысць. А раней мы ігралі вельмі цікавыя спектаклі для дарослых, як, напрыклад, "Тутэйшыя" Купалы — што было першаю спробаю перакласці класіку на лялечную сцэну. Гэта нам удалося, было шмат станоўчых рэцэнзій, але з-за нейкага элітарна-кустарнага становішча спектакль не стаў здабыткам грамадскасці.

Раней мы ездзілі ў Германію, паказвалі спектакль на нямецкай мове, даволі часта ездзім у Польшчу. Але цяпер пачаліся новыя часы, экспансія відэа, у тэатр надта ніхто не ходзіць...

Калісьці нас у тэатральным інстытуце выхоўвалі так: "Вы — артысты, "властители душ", а шэры натоўп вас не будзе разумець, гэта "рабочий от станка". І мы былі салдатамі ідэалогіі (у Маскве хоць нейкія спектаклі зачынялі, а ў Мінску нічога й не было). А з іншага боку народу гаварылася: "Ну что там эти ничего не значащие артисты? А вы же рабочий класс!" Была штучна створана такая дзіўная сітуацыя, у якой мы згубілі давер адзін да аднаго. Напрыклад, гавораць: "Васька тры рублі ў суседа скраў — ну і арціст!", ці: "Ну, ты, інцілігент", а ў адказ абразліва: "Крэс, калгаснік!" Гэта не тая сітуацыя, якая існуе ў нармальных краінах, дзе інтэлігентаў шануюць. Але так яно ў нас і павінна было быць, бо кожны заслугоўвае таго, што заслугоўвае.

**— Вы нядаўна здымаліся ў фільмах?**

— Так, першы фільм — "Слёзы блуднага сына" атрымаў узнагароду — у Мінску й Кіеве. А восенню мінулага года я здымаўся ў народнага артыста РБ Віктара Дашука. Фільм умоўна называўся "Чорная дама". Мы паспрабавалі ўваскрасіць адносіны Жыгімонта Аўгуста II; апошняга з дынастыі Ягелонаў, і Барбары Радзівіл. Дзея ў ім разгортваецца ў двух вымярэннях — сёння і ў XVI ст. Здымалі мы ў найпрыгажэйшых замках — Мірскім і Нясвіжскім. Гэта павінен быць вельмі прыгожы й цікавы фільм.

**— Зычу вам поспехаў!**

**Гутарыў Аляксей ШЭІН**

## “ДЗЕ-Я?” У КАНТЭКСЦЕ ЭДЫНБУРГА

**“Наш тэатр сам шукае свайго гледача”, — сказаў рэжысёр Мікола Трухан перад спектаклем па п’есе Ф. Аляхновіча “Круці — не круці, а трэба памярці”. У афішы спектакль называецца коратка — “Круці...”, а паказаны ён быў у Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, г. зн. для дыпламатычнага корпуса рэспублікі.**

**Паказу папярэднічала выступленне фізіка Флаўэрса, ураджэнца г. Эдынбурга. Ён павітаў прысутных ад імя Рычарда Дэмарка, аднаго з арганізатараў сусветна вядомага тэатральнага фестывалю, у якім летась пашчасціла ўдзельнічаць і тэатру “Дзе-я?”**

**Паколькі М. Трухан наракаў на няўвагу крытыкаў, што ніяк не выберуцца на прыпынак Катоўскага ў раён аўтазавода, то мушу сказаць колькі слоў пра свае ўражанні.**

**Таленавіты рэжысёр не здрадзіў сваёй адметнай творчай манеры. Больш таго, падобна, што ён наважыўся давесці яе да крайнасці, да самапародыі. З абрыўкаў фраз, думак, сюжэтных паваротаў п’есы на гэты раз, па-мойму, не складваецца адзінага мастацкага цэлага. (Для параўнання ўспомнім “Здань” па тым жа Ф. Аляхновічу). Становіцца самамэтай снаванне акцёраў па сцэнічнай прасторы, паўторы тэксту і мізансцэн, маскарадныя пераапрананні. Адзінае, што хоць неяк знітоўвае ўвесь гэты стракаты, кідкі і, як ні дзіўна, густоўны калейдаскоп — вобраз героя-рэжысёра, які час ад часу ўмешваецца ў дзею і патрабуе імправізаваць і дзейнічаць.**

**Што ж да першаасновы — самой п’есы, — то ад яе засталося гэтак жа мала, як і ад назвы. Можна зразумець толькі тое, што ў ёй хтосьці памёр (атруціўся гарэлкай?) і што там дзейнічаюць Смерць і Люцыпар. Выканаўца апошняга, выдатная артыстка Міронава, “трымала” сабой усю другую палову спектакля.**

**У гэтым эстэцкім балагане і свяце фантазіі падаюцца недарэчнымі згадкі пра Беларусь і нашыя нацыянальныя праблемы тыпу “О Беларусь, пачаўся рэнесанс...” Куды арганічней выглядаюць тут гульні з кропельніцамі і іншыя бальнічныя алюзіі, пераўвасабленні герояў, рытмічныя танцавальныя ўстаўкі.**

**Цікавым момантам у “Круці...” з’яўляюцца шматмоўе — прыём не новы, але нязменна выйгрышны. Англійская мова, трэба разумець, разлічана на Эдынбург. Як і рэмінісцэнцыі, нават цытаты з Шэкспіра.**

**Нягледзячы на знешні дынамізм і маляўнічасць, відовішча здаецца зацягнутым. Эпізоды маглі б ісці ў любой паслядоўнасці — без усялякай страты для глядацкага ўспрымання. Мо таму, што сам рэжысёр “не памятае тэмы”, мо таму, што на самай справе “даімправізаваліся”...**

**І нельга сказаць, што крытыка зусім няўважлівая да Муніцыпальнага тэатра “Дзе-я?”. У хуткім часе “ЛіМ” змесціць грунтоўную рэцэнзію на памянёны спектакль і гутарку з яго мастацкім кіраўніком М. Труханам.**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## “СВЕТ, У ЯКІМ ТЫ ЖЫВЕШ”



**— так называецца выстава жывапісу, якая прайшла ў выставачнай зале Саюза мастакоў. Яе арганізавалі прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь, Беларускі Саюз мастакоў і цэнтр “БелАРТ”. Выстава была прысвечана другой сусветнай канферэнцыі ААН па населеных пунктах (Хабітат-ІІ), якая адбудзецца ў Турцыі, у Стамбуле летам гэтага года. Работы сямідзесяці беларускіх мастакоў былі ўключаны ў экспазіцыю.**

**Конкурс на лепшую работу выставы вызначыў пераможцаў. Імі сталі вядомыя мастакі Я. Батальёнак, У. Тоўсцік, Л. Шчамялёў і Л. Дударэнка.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

# І БЛЯСК ДЫЯМЕНТА, І ПОЛЫМЯ ЛУЧЫНЫ

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАЙСЕЯ КУЛЬБАКА

ПРА ПІСЬМЕННІКА, які даўно пайшоў з жыцця, безумоўна, найлепш і найбольш гавораць яго кнігі, асабліва калі ў сваіх творах ён не цураўся аўтабіяграфічных момантаў. Аднак калі гэта тычыцца пэўных жыццёвых рэалій, светапогляду аўтара. У астатнім жа даводзіцца прыслухоўвацца да голасу і меркаванняў тых, хто яго добра ведаў. У дачыненні да Майсея Кульбака — не ў меншай ступені. Столькі ж часу мінулася з пары, калі яго, разам з іншымі пісьменнікамі, расстралялі як ворага народа.

“Ён быў высокі, чорнавалосы, запаволены і скупы ў словах і жэстах”, — такія згадкі пакінуў пра М. Кульбака наш знакаміты крытык Р. Бярозкін. А гэта сведчанне вядомага яўрэйскага паэта С. Галкіна: “Сустракаючыся з Кульбакам, цяжка было сказаць, чаго ў ім больш — тонкай праніклівасці альбо камлюкаватай прастаты, што ў ім свеціцца — бляск дыямента ці полымя смалістай лучыны”.

І тут жа С. Галкін удакладняе: “Я б сказаў, што пры святле лучыны шліфаваў ён свой дыямент”.

Родам М. Кульбак са Смаргоні, а ўпершыню пабачыў свет 20 сакавіка 1896 года. Праўда, як сведчыць Т. Тарасава ў артыкуле, змешчаным у біябібліяграфічным слоўніку “Беларускія пісьменнікі” (т. 3, 1994), па іншых крыніцах нарадзіўся ён пяццю днямі пазней. А паходзіў М. Кульбак са старадаўняй яўрэйскай сям’і, цудоўна ведаў родную мову, таму і пісаў на ідыш.

А наколькі дружна жылі Кульбакі, якімі працавітымі былі, можна даведацца з паэмы “Беларусь”, у якой відочны аўтабіяграфічныя моманты:

**Мой дзед быў стары местачковы яўрэй,**
**Хадзіў то ў сярмязе, то ў рэпсавым пыльніку.**
**Меў хату, каня**
**і семнаццаць дзяцей**
**І жыў у Кабыльніку.**

**У бацькі майго, такім чынам, было**
**Шаснаццаць братоў —**
**не малое багацце.**
**Як сядуць за стол, дык сказаў бы —**
**сяло**
**Сабралася ў дзедавай хаце.**

**І ўсе — плытагоны, карчавікі —**
**Вазілі калоды, карчы капалі.**
**Малыя ж, бывала, як тыя снапкі,**
**Упокат, дзе прыйдзецца,**
**там і спалі.**

*(Пер. Я. Семяжона).*

Маленства будучага пісьменніка, як піша Т. Тарасава, прайшло “ў атмасферы стараяўрэйскай рэлігійнасці і містыцызму”. У 13-гадовым узросце бацькі аддалі хлопчыка вучыцца ў Валожынскі ешыбот. Калі пачалася першая сусветная вайна, М. Кульбак пераехаў у Мінск, дзе экстэрнам здаў экзамен на званне настаўніка, пачаў працаваць у школах і гімназіях Смаргоні, Мінска і Вільні. На гэты час прыпадае яго захапленне паэзіяй.

Як вядома, далёка не кожнаму маладому аўтару ўдаецца лёгка і адразу самасцвердзіцца. Яму ж, можна сказаць, пашанцавала. Як сцвярджае Р. Бярозкін, “Кульбак дэбютаваў у 1916 годзе першым вершам “Зорачка”, які адразу стаў народнай песняй. Маладому паэту споўнілася тады дваццаць год”.

Пасля кастрычніцкіх падзей М. Кульбак пераязджае ў Мінск. Ён належаў да тых, хто не толькі прыняў рэвалюцыю, і ўслаўляў яе ў сваіх творах. Прынамсі, у 1919 годзе з-пад яго пяра з’явілася паэма “Горад” — пафасная, тэмпераментная, з адкрытай публіцыстычнасцю.

У гэты час М. Кульбак настойліва шукае сябе ў жыцці і літаратуры. І шчыра верыць у тое, што піша: “Ведайце,//Што мы — народ крамнёвы://Спапялілі падзямелля змрок.//Мы нясём для свету//Светач новы,//Не спыняем//Пераможны крок” (Пер. С. Гаўрусёва). Гэтая вера выклікала пастаяннае жаданне знаходзіцца там, дзе — ён быў упэўнены — асабліва неабходна яго прысутнасць. Таму ў 1919 годзе, ледзь вызвалілі Вільню ад белапалякаў, ён паехаў туды ў камандзіроўку. Не ведаў, што тым самым гэтая “камандзіроўка” зойме ажно цэлых восем гадоў. Вільня хутка зноў была занята палякамі, вярнуцца ў Мінск М. Кульбак не паспеў, таму застаўся жыць у гэтым горадзе, які хутка палюбіў і пачаў лічыць сваім. Пазней паехаў у Берлін, хацеў паступіць ва універсітэт. У Мінску апынуўся толькі ў 1928 годзе. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, у Акадэміі навук Беларусі. Як ворага народа, М. Кульбака арыштавалі 11 верасня 1937 года, а 29 кастрычніка таго ж 1937-га расстралялі.

Пісаў М. Кульбак вельмі шмат. І не толькі як паэт, але і як празаік, драматург. А яшчэ займаўся перакладчыцкай дзейнасцю, пераўвасобіў на ідыш асобныя вершы Я. Купалы, Я. Коласа, п’есу М. Гогаля “Рэвізор”, раман М. Астроўскага “Як гартавалася сталь”.

Першы зборнік М. Кульбака “Вершы” пабачыў свет у Вільні ў 1920 годзе. Потым выйшлі кнігі паэзіі “Вершы” (Берлін, 1922), “Новыя вершы” (Вільня і Варшава, 1922), раманы “Месія сына Эфраіма” (Вільня і Берлін, 1924), “Панядзелак” (Вільня, 1924, Варшава, 1926). У 1929 годзе да чытача прыйшоў трохтомнік “Усе творы Майсея Кульбака”, выдадзены ў Вільні. У гэтым жа годзе яго выбраныя “Вершы і паэмы” з’явіліся ў Мінску. Увогуле, па вяртанні ў сталіцу Беларусі М. Кульбак друкаваўся часта, кнігі яго выходзілі ці не кожны год. Але ўсе на мове ідыш. На даваенны час прыпадаюць толькі дзве публікацыі яго твораў у перакладзе на беларускую мову. Так, З. Бядуля пераўвасобіў урывак з рамана “Зельманцы” (першая яго кніга выйшла ў Харкаве ў 1931 годзе, другая — у Мінску ў 1935), а дзякуючы І.Плаўніку ў “Звяздзе” было надрукавана апавяданне М. Кульбака “Радыё”.

Сучасны ж чытач можа пазнаёміцца з раманам М. Кульбака “Зельманцы” (у 1960 годзе выйшаў у Дзяржаўным выдавецтве БССР у перакладзе В. Вольскага і ў тым жа годзе ў маскоўскім “Советском писателе” ў перакладзе Р. Баумволь. Праўда, жанр твора чамусьці пазначаны як аповесць). Нарэшце, у 1970 годзе выдавецтва “Беларусь” выпусціла невялікі зборнік паэзіі М. Кульбака “Выбранае”.

Няшмат твораў у гэтай кніжцы, ды сабраны акурат тыя, што даюць уяўленне аб творчасці гэтага самабытнага паэта. Адразу відаць, што М. Кульбак і ў вершах, і ў паэмах адштурхоўваўся ад жыцця, ад тых рэалій, якія добра ведаў. Праўда, быў час, калі ён захапляўся сімвалістамі (не без іх уплыву напісана яго паэма “Горад”), не абмінуў яго і імпрэсіянізм. Ды ўсё гэта было выпадкова — як даніна часу, літаратурнай модзе. У аснове ж талент М. Кульбака быў рэалістычным.

Ад пачатку паэзія М. Кульбака — гэта паэзія, у якой як бы праламляецца сам час. Узяць хоць бы верш “На фабрыцы”, што мае падзагаловак “Малюнак з мінулага”. Праўдзіва перадае паэт працу тых, хто праводзіць гадзіны ля станкоў. Усё тут асязальна, значна, выразна, а дасягнута гэта ашчадным выкарыстаннем выяўленчых сродкаў. Нічога лішняга: “Толькі неба пабляднее —//Горкі спеў праврвецца з вуснаў.//Гоняцца,нібыта змеі,// Рэмні, змазаныя тлуста.//Грукат-гул машынных колаў —//Моцны, сумны, прагавіты.//Пырснуць вогненныя пчолы — //Закрычыць руда сярдзіта” (Пер. Э. Агняцвет).

Паэма ж “Каваль Ёста”, кажучы словамі Р. Бярозкіна, вызначаецца “цэласнасцю, духоўнай сілай, вернасцю народным уяўленням аб дабры і красе”. Эпіграфам да твора ўзяты радкі Г. Гейнэ: “Я — полымя”, а ў цэнтры паэмы — вобраз каваля-працаўніка. Ёста ад свайго імя прамаўляе і аб годнасці сваёй прафесіі, і аб патрэбнасці яе. Аднак у паэме важны іншыя моманты. Ёста пададзены як чалавек агню, чалавек полымя. Ды не знішчальнага агню, а таго, што нясе чалавеку і ўпэўненасць у яго патрэбнасці на зямлі, і важнасць гэтага моманту, калі паядноўваюцца між сабой прыродная стыхія і стыхія працы — цяжкай, знясільваючай, але і патрэбнай. Яна — як той агонь, што многае можа высвеціць. І ўвасабленне гэтага агню сам Ёста:

**Я ўвесь — агонь.**
**З агню я, смуглы, з горна,**
**Таму з агністай чорнай барадой,**
**З вачыма, што агнём палаюць чорным,**
**Агонь мой мёртвы — гэта молат мой.**
**Гарым мы ноччу, калі горан вые,**
**Гарым па-над жалезам, як браты,**
**Распростваемся, як лісты крывыя,**
**Гарачыя, чырвоныя лісты,**
**Ўдыхаем жар,**
**Палаем прамяніста,**
**Зліваемся ў адзін магутны сплаў,**
**Каб полымя агнём палала чыстым,**
**Агонь каб чыстым полымем палаў.**
**Раўня агню, па сіле брат ягоны,**
**Я — толькі Ёста паміж двух агнёў...**
**Браты — агні: я — смуглы, ён — чырвоны.**
**Кідаемся ў абдымкі зноў і зноў.**

Жыццё народнае паўстае і са старонак вышэй ужо згаданай паэмы “Беларусь”. У ёй, як і ў вершах, дакладнасць малюнка, пластычнасць, выверанасць ранка.

М. Кульбак пісаў пра тое, што добра ведаў, сведкам чаго быў з маленства. Для прыкладу, два раздзелы з твора. Першы “Косяць сена”... На сенажаці сабраліся паэтаў бацька і яго шаснаццаць братоў. Наперадзе ж усіх, канечне, сам дзед. Быццам чарнявае, смуглявае “войска” сабралася. Праўда, гэтае параўнанне ўзнікае па асацыяцыі, у М. Кульбака параўнанне іншае і, пагодзімся, куды больш дакладнае: “Чаўкаюць босыя ногі па твані.// Цугам — адзін за адным услед.// Быццам іх прашчуры — на Іардані”.

Галоўнае ж наперадзе, калі і пачнецца тое, дзеля чаго і сабраліся ўсе на лузе:

**І пачынаюць. Што ўзмах, то ж-жах.**
**Вісне зіпун на лазе сіратліва.**
**Сыкаюць косы — аж свіст у вушах.**
**Дзедавы пэйсы ўзлятаюць, як грыва.**



**А там, у арэшніку недзе, ўсё**
**Дрозд прадзімае сваю жалейку.**
**І дзед не стрывае, апусціць касcё**
**І скажа: — Паслухайце канарэйку.**

Ды і як жа інакш, калі душа прагне хараства?! А пра дзеда М. Кульбак дакладна скажа ў раздзеле “Гоняць плыты”: “Ён, паэт у душы,//І не промах жывое тварыць, //Сам-насам з прыродай // Па-свойму ўмеў гаварыць”.

Але паэма, канечне ж, не пра аднаго дзеда, а пра ўвесь род свой. Так і бачыш прадстаўнікоў яго быццам увачавідкі, калі гоняць яны плыты:

**А сыны ўжо не спяць —**
**Пры такім хараств не да сну.**
**Задзіраюць галовы на сонца,**
**вітаюць вясну.**
**І плывуць Кульбакі — плытагоны**
**пад бору птушынага гоман.**

Праплываюць Віллю. Уплываюць у Нёман.

А ў раздзеле “Дзядзька Абрам на начлезе” з адным з Кульбакоў знаёмімся бліжэй: “У дзеда ўсе не гультаі, не лежні: //Брат брату рад падсобіць, памагчы.//Адзін Абрам сярод сыноў — начлежнік, // Яго занятак — выпас штоначы”.

Якая ж чулая і адкрытая душа ў яго, наколькі гатова яна ўвабраць у сябе ўсё наваколле! А яшчэ душа гэтая — закаханая. І ў тое ж наваколле, і ў любую дзяўчыну. Не спіцца дзядзьку Абраму. Узіраецца ў начное неба, загадвае на чарговую зорку, што падае: “Няўжо мая шчаслівая?”

Чуйная душа ў Абрама, чуйная і такая лірычная, ажно не верыцца, што на падобныя перажыванні здатны ён. Але гэта так, бо дзе сапраўднае каханне — там і пэўная непрадказальнасць учынкаў, праяўлення пачуццяў:

**Яго кудысь цягнула. Праз сутонне**
**Ён у туман нырнуў, і у тумане**
**Знайшоў свайго буланага між коней,**
**Агледзеў пута, ляпнуў па спіне**

**І па вільготнай грыве так пяшчотна**
**Пагладзіў, быццам па ручайках кос.**
**Ужо падняўся ветах і самотна**
**Іскрыўся на шчацэ, сырой ад слёз.**

**Ён плакаў, а душа нібы спявала**
**Журботна, як няўцешная ўдава.**
**— Настасся, эх, Настасся — пакахала,**
**А між табой і мною — светы два!..**

Але будзе ўсё ж спатканне. І будуць хвіліны, якія немагчыма перадаць словамі. М. Кульбак дасягае немагчымага:

**Ах, прыгоды юнацтва,**
**Залёты юначыя,**
**Пацалункі — аж хустка з плячэй.**
**І ў шчаслівых спатканні да хмелю гарачыя,**
**А ў няшчасных —**
**Яшчэ гарачэй.**

*(Пер. паэмы Я. Семяжона).*

Умеў М. Кульбак быць лірыкам — тонкім, шчырым, непасрэдным. Яшчэ як умеў! Як у гэтым невялікім вершы: "Снягі. Снягі. Святло ад зоркі вострае, як крык.// Месяц жоўклы./ / За трыдзевяць зямель кладзе дзіця на журавік// Мая жонка. Рыдае скрыпка сіняя і снежная віяланчэль.// Які вецер! Мяне мой сын прысніў за трыдзевяць зямель//І ў сне смяецца". (пер. В. Макарэвіча).

Аднак М. Кульбак быў і не менш таленавіты паэт-публіцыст. Я маю на ўвазе не тыя вершы-аднадзёнкі, што пісаліся ў духу часу. Сцвярджаць аб набытках яго ў гэтым кірунку дае падставы сваімі лепшымі радкамі паэма "Дзісненскі Чайльд Гарольд", у якой аўтар папярэджвае, да чаго можа прывесці фашызм, які паступова ў Германіі ўзнімаў сваю галаву.

З празаічных твораў М. Кульбака, як ужо гаварылася, сучаснаму чытачу вядомы яго раман "Зельманцы". І гэта невыпадкова. І В. Вольскі, і Р. Баумволь для перакладу выбралі лепшы твор пісьменніка. Што тычыцца раманаў "Месія сына Эфраіма" і "Панядзелак", дык у іх адчувальны рэлігійныя і містычныя погляды аўтара, а сам матэрыял належным чынам "незарганізаваны", над мастацкасцю нярэдка пераважае звычайнае абгрунтаванне той ці іншай пазіцыі.

Ёсць некаторыя пралікі і ў рамане "Зельманцы". Прычына з'яўлення іх хутчэй за ўсе ў творчай маладосці М. Кульбака, калі талент сам па сабе яшчэ не ў стане кампенсаваць адсутнасць мастакоўскага вопыту, хоць, праўда, яго М. Кульбак у многім набыў, працуючы над папярэднімі раманамі. Але, відаць, усё ж трэба і пагадзіцца з Р. Бярозкіным, які пра "Зельманцаў" сказаў так: "Слабасці рамана звязаны з засіллем манеры,з тым, што яна нярэдка празмерна дыктуе свае "ўмовы" расказу пра людзей і падзеі,і ў выніку — страта непасрэдных кантактаў паміж аўтарам і матэрыялам, паміж чытачом і аўтарам".

Хіба застаецца дадаць, што відочна і пэўная кампазіцыйная рыхласць твора, асабліва, калі супаставіць яго першую і другую кнігі. У прыватнасці, у другой знаходзяць удакладненне асобныя сюжэтныя лініі з першай, не абышлося і без звычайных у такім разе паўтораў. А ў астатнім...

Мая парада тым, хто з раманам не знаёмы, — вазьміце кнігу і прачытайце. Атрымаеце задавальненне, якое надараецца далёка не часта. "Зельманцы" — свайго роду энцыклапедыя яўрэйскага жыцця, узноўленая чалавекам неабыякавым, але адначасова і пазбаўленым жадання, як кажуць, сваё, кроўнае толькі ўзвышаць, паэтызаваць. Для М. Кульбака не гэта галоўнае. Для яго важней — праўда. І тут ён цудоўна працягвае традыцыі сваіх вялікіх папярэднікаў — класікаў яўрэйскай літаратуры.

Наконт гэтага правільна сказаў С. Галкін: "Майсей Кульбак у большасці сваіх твораў народны, але не ў духу народнасці Шалом-Алейхема. Калі гаварыць пра літаратурнае сваяцтва, дык ён хутчэй за ўсе блізкі дзядулю яўрэйскай літаратуры Мэндэле Мойхер-Сфорыму: у яго больш сатыры, чым гумару, больш іроніі, чым спачування. А сціпласць гаворкі, удзельная вага слова, уся хватка — ад Мэндэле. Але гэта не значыць, што на творах Кульбака пячатка наследавання класіку".

І сапраўды: ў сваіх празаічных творах, асабліва ў рамане "Зельманцы" М. Кульбак ішоў да свайго жыццёвага і творчага вопыту, плённа выкарыстаўшы шматлікія і шматгадовыя назіранні над побытам роднага яму народа. Таму зельманцы (зельманцы ў дадзеным выпадку не як назва рамана) — сам зрэз жыцця яўрэйскага грамадства, калі на змену спаконвечным традыцыям прыходзілі новыя рэаліі, а чалавек, з цяжкасцю і не адразу прывыкаючы да іх, вымушаны быў многае пераглядаць у самім сабе, пераасэнсоўваць у сваіх учынках і паводзінах.

Хоць з ironіяй, нязменным гумарам, а месцамі і з непрыхаваным сарказмам гаворыць пісьменнік пра сваіх герояў, але пры гэтым пастаянна прысутнічае яго любоў да "чалавека нізоў", да "чалавека прадмесця", як кажа Р. Бярозкін. Любоў, што праступае праз разуменне стану тых, хто, каб выжыць, выстаяць, мусіў прыстасоўвацца да абставін і ўжо насуперак ім працягваць свой род:

"Адкуль узяўся рэб Зелмелэ?

Сярод яго сям'і жыве паданне, быццам ён паходзіць з "глыбіні Расеі". Але як бы там ні было, ён ужо тут ажаніўся з бабкай Басяй, якая тады яшчэ, відаць, была дзяўчынай і пасля гэтага пачала пладзіцца.

Бабка Бася, як кажуць, пладзілася без усякай меры, безупынна, з нейкім заўзятым запалам, і дзеці ў яе нараджаліся рослыя, чорныя, з шырокімі плячыма — сапраўдныя зельманцы. Пазней дзеці пераходзілі да рэб Зелмелэ, гэта значыць, нянькай ён ім не быў, але, пачакаўшы трохі, аддаваў іх вучыцца на рамеснікаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не паспелі агледзецца, як ужо і самі дзеці пачалі пладзіцца. Нявесткі былі рознай пладавітасці, і зяці розныя, але, нарэшце, суседзі павінны былі ачысціць ім месца на двары. Усе хаты былі бітком набіты жвавымі, чорнымі зельманчыкамі. Русыя трапляліся рэдка. І тое — больш сярод дзяўчат. Пара рыжых хлопцаў з'явілася ўжо ў апошні час, у самыя апошнія гады. Як яны трапілі ў гэтую сям'ю, не высветлена да гэтага часу".

Крыху пазней М. Кульбак удакладняе: "... зельманец — просты, як кавалак хлеба". Ды ад гэтай сваёй прастаты не сказаць каб зельманцам жылося лягчэй. А па той прычыне, што наўкола менш за ўсё знаходзілася гэткіх простых і адкрытых, а найбольш — хіжых, гатовых горла парваць іншым дзеля асабістай выгоды, дзеля ўласнага кавалка хлеба.

Пісьменнік застаецца нязменным рэалістам, праўдзіва паказваючы, як патрыярхальны быт зельманцаў уступае ў супрацьстаянне з тым новым, што прынесла рэвалюцыя. А як гэта заўсёды і адбываецца ў час надзвычайных сацыяльных зрухаў, паражэнне церпяць слабейшыя. У дадзеным выпадку "слабейшыя" — самі зельманцы. Праўда, будзем справядлівымі, аўтар зусім не ідэалізуе іх, адсюль і пастаянны гумар, сатыра, іронія, пэўны сарказм. Аднак, высмейваючы цемру, забабонства, невуцтва, ён усё ж робіць гэта незласліва, гаворыць пра іх са спачуваннем, чаго, на жаль, чамусьці не змог убачыць у рамане С. Галкін.

Вось узор, так бы мовіць, кульбакоўскага гумару. "Хаечка дзядзькі Юды" і "сын дзядзькі Ічы" Бера пакахаліся. Больш ініцыятывы пры гэтым праявіла дзяўчына — няйначай дзейнічала ў духу паслярэвалюцыйнай свабоды: "Хаечка раптам абхапіла яго сваімі тоўстымі, заўсёды змерзлымі рукамі за галаву і пачала цалаваць у губы, у нос, у шчокі. Вось што было далей.

Справа такім чынам высветлілася. Толькі неяк дзіўна было, што стаялі яны на страшэнным марозе і цалаваліся без канца, без краю. Яшчэ больш: пазней нейкі пажылы чалавек праходзіў выпадкова па гэтай вуліцы, дык ён тут, на гэтым самым месцы, адмарозіў нагу".

Дарэчы, пра Беру ў рамане гаворыцца найперш у другой кнізе. Як-ніяк, а ён "новы чалавек"! А дагэтуль ваяваў на фронце. Ды яшчэ як ваяваў?! Ніяк не хацеў развітацца з барацьбой. Нават выпадкова трапіўшы ў зельманскі двор, нядоўга затрымаўся: "Ён сеў есці вельмі заўзята і глядзеў на стол". Дзядзька Юда плюнуў і выйшаў. Бера пад'еў, надзеў боты і зноў пайшоў ваяваць". Цяпер жа Бера — міліцыянер, а пасля ідзе працаваць рабочым дзеля перавыхавання...

Менш пераканаўчыя ў рамане заключныя раздзелы. Але гэта калі падыходзіць да іх так, як у свой час асэнсоўвала іх крытыка, ды і, бадай, улічваючы тую задачу, што ставіў перад сабой пісьменнік. А ён, працуючы ў духу часу, прытрымліваючыся тагачасных ідэйных норм, імкнуўся паказаць, як у рэшце рэшт зельманскі двор, як увасабленне старога жыцця, перастае існаваць. На яго месцы ўзнікаюць карпусы фабрыкі, а самі насельнікі атрымліваюць кватэры ад дзяржавы.

Ва ўсім гэтым відочна не псіхалагічная пераканаўчасць і глыбіня, а тая зададзенасць, калі аўтар вымушаны пісаць, як ад яго патрабавалася. Калі ж пра ўсё гэта чытаеш сёння, не пакідае пачуццё шкадавання, скрухі, што разам з зельманскім дваром адышла цэлая эпоха. Незваротна, назаўсёды.

Тым не менш, яна дайшла і да нас — дзякуючы раману М. Кульбака "Зельманцы". Дзякуючы іншым яго творам, якія, на жаль, даўно не перавыдаваліся і далёка не ўсе перакладзены на мову таго народа, сярод якога ён жыў і ніколі сярод яго не лічыў сябе чужым.

Ды, будзем верыць, што настануць лепшыя часіны. А пакуль яшчэ раз успомнім добрым словам цудоўнага пісьменніка Майсея Кульбака. Успомнім у дні яго 100-гадовага юбілею.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі ПАРХУТЫ Яраслава Сільвестравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе ў сувязі з напаткаўшым горам — смерцю заслужанай артысткі Беларусі, актрысы Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа МЕЛЬДЗЮКОВАЙ Акцябрыны Францаўны і выказвае спачуванне блізкім, родным і калегам нябожчыцы.**

**Фонд садзеяння літаратуры і культуры "Палескі смутак" выказвае спачуванне члену праўлення фонда ЯРАМЧУКУ Аляксею Васільевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці Юліі Андрэеўны.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Беларусь" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі Алене МІЦКЕВІЧ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.**

# "ВОРАГІ НАРОДА"

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Праверкай матэрыялаў выяўлена, што Казека раней распрацоўваўся па ліквідаванай аг(ентурнай) справе "Ворагі" як удзельнік контррэвалюцыйнай групы, якая існавала ў Вышэйшым педагагічным інстытуце ў гор. Мінску. Казека вёў сярод студэнтаў а(нты)с(авецкую) агітацыю.

Няхай Гаўрыіл матэрыяламі агентуры характарызуецца як чалавек антысавецкі настроены. У бытнасць яго вучобы ў Вышэйшым педагагічным інстытуце ў гор. Мінску быў цесна звязаны з кіраўнікамі літаратурнага гуртка Германам (асуджаны). З Германам, на глебе антысавецкай дзейнасці, быў таксама звязаны студэнт Бачыла А. М.

Матэрыяламі, якія ёсць у агентурных распрацоўках "Арганізатары" і "Фашысты", устаноўлена, што Кандраценя Уладзімір быў цесна звязаны з выкрытым намі актыўным удзельнікам контррэвалюцыйнага нацыянал-фашысцкага падполля ў Беларусі Кузьмой Чорным.

К. Чорны, знаходзячыся на свабодзе, набліжаў да сябе Кандраценю, апрацоўваў яго ў нацфашысцкім накірунку, аказваў уплыў на яго творчасць, усяляк стараючыся прасоўваць Кандраценю на літаратурным фронце. На пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР (май 1938 г.) К. Чорны ў гэтых мэтах зрабіў даклад пра творчасць Кандрацені.

З Кандрацене́м быў звязаны на глебе агульнасці антысавецкіх поглядаў студэнт Мінскага педінстытута Грамовіч Іван. Пра Грамовіча вядома, што ён таксама быў цесна звязаны з выкрытым намі актыўным удзельнікам контррэвалюцыйнай нацфашысцкай арганізацыю К. Чорным, неаднаразова бываў у яго на кватэры. Сам Чорны станоўча адгукаўся аб літаратурных творах Кандрацені (аповесць "Каханне") і Грамовіча ("Чужы грунт").

Панчанка Пімен настроены антысавецкі, раней быў звязаны з выкрытым намі актыўным удзельнікам контррэвалюцыйнай нацфашысцкай арганізацыі пісьменнікам М. Чаротам (асуджаны).

Матэрыялы, атрыманыя ад агентуры, паказваюць, што ўсе распрацоўваемыя па дадзенай справе асобы цесна звязаны паміж сабой, карыстаюцца вялікай падтрымкай і апекаваннем з боку тых, хто распрацоўваецца намі па агентурнай справе "Фашысты", удзельнікаў контррэвалюцыйнай нацфашысцкай арганізацыі беларускіх пісьменнікаў — Бядулі, Броўкі і Глебкі. Гэта распрацоўваемая намі група маладых пісьменнікаў і студэнтаў склалася на глебе агульных антысавецкіх настрояў. Групуе вакол сябе студэнтаў педінстытута, сярод якіх праводзіць антысавецкую агітацыю. Удзельнікі групы выказваюць рэзкае незадавальненне праводзімымі мерапрыемствамі ВКП(б) і Савецкага ўрада, ідэалізуюць фашысцкі лад.

Пачынаючы з 1935—36 г., Казека, Няхай, Кандраценя, Грамовіч і інш., як маладыя аўтары, пачалі друкаваць у перыядычных выданнях БССР (часопісы "Полымя рэвалюцыі", "Одногодки", газ. "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Піонер Беларусі" і інш.) свае першыя артыкулы, нарысы, апавяданні і паэмы.

Пад выглядам гутарак на літаратурныя тэмы гэтая група распрацоўваемых намі асоб перыядычна збіраецца ў гор. Мінску на кватэрах Грамовіча і Кандрацені (інтэрнат педінстытута, пакоі NN 11 і 25), на кватэры крыніцы — "Палонскага" і радзей — у Калодзішчах Мінскага раёна (раён размяшчэння рацыі РВ-10), на кватэры Няхая Гаўрылы, дзе больш шчыра вядуць антысавецкія гутаркі па пытаннях знешняй і ўнутранай палітыкі СССР, асабліва пра палітыку ў вёсцы, усхваляючы літаратурныя творы нацфашыстаў — Пушчы, Чарота, Зарэцкага (асуджаны), Кузьмы Чорнага і інш.

Агент "Палонскі" паведаміў, што Няхай, Бачыла, Кандраценя, Панчанка, Казека дамовіліся дзейнічаць сумесна на літаратурным фронце, памагаючы адзін аднаму ў працягванні сваіх нацыяналістычных твораў.

Гэтыя асобы ў адной з гутарак прасілі ўдзельніка распрацоўкі Казеку (які друкуецца як літаратурны крытык) напісаць пра іх літаратурную дзейнасць у часопісе "Полымя рэвалюцыі" спецыяльны артыкул, які характарызаваў бы іх творчасць са станоўчага боку, выстаўляючы іх як лепшых маладых пісьменнікаў рэспублікі.

Паколькі па распрацоўцы "Арганізатары" працавала адна крыніца "Палонскі", намі былі прыняты меры для праверкі матэрыялаў агента "Палонскага" праз агентуру, якая працуе па аг(ентурнай) справе "Фашысты", "Баявы", "Грыгор'ева", "Пісьменнік", "Пятроў" (апошні адсеяны па загадзе НКУС N 00827), якія пацвердзілі аг(ентурныя) матэрыялы пра сувязь Кандрацені і Грамовіча з удзельнікам нацфашысцкай арганізацыі Кузьмой Чорным.

Народны камісар унутраных спраў БССР старшы маёр дзяржбяспекі

**Л. Цанава**

*28 лютага 1939 г.*
*г. Мінск*

Як бачым, чым далей, тым большая колькасць беларускіх літаратараў "распрацоўвалася" чэкісцкімі органамі. Сярод іх мы сустракаем ужо прозвішчы Э. Самуйлёнка, П. Броўкі і П. Глебкі, якія праходзілі па антысавецкай групе "Фашысты".

Цікава, што дакладную запіску Л. Цанава падпісаў 28 лютага 1939 г., а яшчэ 2 лютага таго ж года ў газетах рэспублікі быў апублікаваны Указ прэзідыума ЦВК СССР аб узнагароджанні сямі беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх ордэны атрымалі і тыя, каго НКУС БССР "праводзіў" па справе "Фашысты": З. Бядуля — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, П. Броўка і П. Глебка — ордэны "Знак Пашаны". Так вырашылі ў Маскве, зразумела, па прадстаўленні бюро ЦК КП(б)Б, у якое ўваходзіў і нарком унутраных спраў. Тым не менш, рашэнне, прынятае на самым высокім узроўні, як сцвярджаў Панамарэнка, з ведама і пры падтрымцы самога Сталіна, Цанаву ніколькі не засмучала. І хоць да гэтага часу былыя наркомы ўнутраных спраў Берман і Наседкін, а таксама буйны чэкіст Ермалаеў былі арыштаваны, пачатыя імі "справы" працягвалі ў рэспубліцы каціцца па ўжо наезджанай каляіне. У Сталіна з Панамарэнкам былі свае разлікі, у Берыі з Цанавай — свае "справы".

З абдымкаў наседкінска-цанаваўскіх "агентурных спраў" маладых беларускіх пісьменнікаў хутчэй за ўсё выратаваў прызыў усіх пералічаных у дакладной запісцы на вайсковую службу восенню 1939 г. У радах Чырвонай Арміі і партызанскіх злучэннях яны прайшлі вайну ад першага да апошняга дня, змагаючыся з фашызмам на розных франтах.

Трагічны лёс напаткаў У. Кандраценю. Як паведамляе даведнік "Беларускія пісьменнікі", ён на пачатку вайны трапіў у палон, уцёк, наладзіў сувязі з партызанамі, стварыў у Слуцку падпольную групу. Быў выдадзены правакатарам, і ў лютым 1943 г. у Слуцку пакараны смерцю.

Пасля вайны ўсе пяцёра пісьменнікаў вярнуліся на Беларусь, працавалі ў рэдакцыях газет, часопісаў, выдавецтвах, у праўленні Саюза пісьменнікаў. Стварылі мастацкія творы, узбагацілі беларускую літаратуру. Ну, а Пімен Панчанка, з якім мы нядаўна развіталіся, стаў гонарам, славай беларускай літаратуры, народным паэтам Беларусі.

Сёння мы імкнёмся, абапіраючыся на архівы, сведчанні ацалелых вязняў ГУЛАГаў, іншыя крыніцы, зразумець прычыны трагедыі, што спасцігла наш народ у сярэдзіне 30-х гадоў. Не забудзем і тое, што жорны знішчальнай энкавэдысцкай машыны спраўна круціліся і дзякуючы розным "Палонскім", "Баявым", "Пісьменнікам", "Грыгор'евым" і іншым правакатарам, на рахунку якіх нямала загубленых чалавечых жыццяў. У тым ліку і ў пісьменніцкай арганізацыі.

**Р. ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук.**

# ПАРАШЫЛІ І... ЗАФАРБАВАЛІ

КАЖУЦЬ, што старыя людзі не помняць, што было ўчора, але затое добра помняць, што было 60 ці 70 гадоў таму. Пэўна, яно гэтак і ёсць. Дзіўна толькі, што лепшае ў жыцці памяць трымае добра, а горшае забываецца хутчэй, выцесненае тым лепшым. Скажам, тыя самыя галадоўля і нястача неадступна крочылі разам з табой па жыцці, а — не хочацца іх успамінаць, ці што. Але калі гартаеш старонкі свайго жыцця і задаешся пытаннем, чаго было болей, дык, хоцькі-няхоцькі, відавочна робіцца, што майму пакаленню дасталося болей пакут, чым радасцей. І творчых засмучэнняў было таксама болей, чым радасцей, хоць, праўда, не так па сваёй віне, як па віне іншых, ад каго залежаў і твой уласны лёс, і лёс тваіх твораў.

Згадваецца даўняя ўжо мая работа (разам з іншымі мастакамі) у тэатры оперы і балета...

У гэтым тэатры па праекце архітэктара Лангбарда было запланавана ў трох гасцёўнях размясціць па два вялікія люстэркі — каб ілюзорна павялічыць прастору фае. Але так сталася, што нішы памерам шэсць метраў на чатыры так і засталіся без люстэркаў, як і шмат чаго іншага не было зроблена ў аздабленні будынка. Напрыклад, па ўсім перыметры тэатра павінны былі быць скульптуры, павінны былі быць абліцаваны шліфаваным гранітам усе чатыры ўваходы ў тэатр, а барабан — керамічнаю пліткаю. Дзеля чаго, наогул, быў патрэбен гэты пустацелы барабан, які ўзімку з'яўляўся адно накапіцелем снегу, і вельмі дорага каштавала штогод яго ачыстка? Зрэшты, аўтар, здаецца, ажно занадта дбаў аб мануменальнасці будынка, што было данінай модзе. Тады, у гады першых сталінскіх пяцігодак, гналі колькасць, а аб якасці мала хто турбаваўся — важна было пусціць пыл у вочы і адхапіць "Сталінскую прэмію".

Я ўжо неаднойчы гаварыў аб тым, што архітэктар Лангбард меў ці не манапольнае права на аўтарства праектаў самых важных збудаванняў у Мінску. Згадаем Дом урада, будынкі Акадэміі навук, тэатр оперы і балета, Дома афіцэраў... Аўтар рабіў вельмі прыгожыя праекты на паперы, дзе нават дрэвы з'яўляліся элементамі архітэктуры, але ў жыцці, на жаль, так атрымлівалася не заўсёды. Зірніце, скажам, на будынак Акадэміі навук, дзе вялікая каланада так і засталася ні да чаго не прывязанай. Дом урада і Дом афіцэраў, праўда, вырашаны значна лепей. Здзейсніць на практыцы, у поўнай меры, усё, што было ў праекце, ніколі не ўдавалася, бо важна было "запусціць" у строй да нейкіх свят гэты аб'ект: як падарунак да чарговага з'езда партыі, як вялікую перамогу на фронце будаўніцтва аб'ектаў савецкай культуры. А недаробкі лічыліся дэталямі, якія можна ліквідаваць на хаду,а... можна і пакінуць назаўсёды без увагі.

Так вось і нішы ў фае засталіся без люстэркаў. Голыя сцены наводзілі сум, выглядалі як нешта недарэчнае. У тэатры нечага не хапала.

У 1958 годзе на пасаду дырэктара тэатра оперы і балета заступіў Павел Лютаровіч, які да гэтага быў старшынёй Кіраўніцтва па справах мастацтва пры Савеце народных камісараў БССР. Ён ведаў літаральна ўсіх мастакоў, вельмі любіў выяўленчае мастацтва, заўсёды прымаў удзел у абмеркаваннях мастацкіх выставак, цікавіўся гісторыяй мастацтваў.

Менавіта П. Лютаровіч запрасіў групу мастакоў прыняць удзел у афармленні тых пустых фае, у якіх, як я ўжо казаў, было па дзве нішы памерам 6 метраў у вышыню і 4 метры ў шырыню. Тэмы размяркоўваліся так: Іван Ахрэмчык — сюжэт на тэму оперы "Садко", Ісак Давідовіч — опера "Дзяўчына з Палесся", Натан Воранаў — балет "Лебядзінае возера", Міхась Блішч — опера "Дэман", Яўген Зайцаў — опера "Яўгеній Анегін", а я — балет "Князь-возера". Мы павінны былі выканаць роспісы тэмпернымі фарбамі (вельмі моцнымі, разлічанымі на доўгія гады). П. Лютаровіч сам адбіраў мастакоў дзеля гэтае работы, лепшых, на яго думку, майстроў у жанры мануменальных фрэсак ці роспісаў тэмпернымі фарбамі. Мы пагадзіліся трымацца адзінай манеры кампазіцыі, а што тычылася колеравай палітры, дык яна залежала ад зместу і формы оперы ці балета.

Некаторыя мастакі зайздросцілі нам, прэтэндавалі на наша месца, імкнуліся быць хоць бы "напарнікамі". І гэта ўсё ў час, калі ішла грунтоўка паверхні сцяны пад роспісы. У выніку мы не змаглі прасачыць, каб гэтая праца была выканана дасканала, у адпаведнасці з тэхналагічнай рэцэптурай. Вось гэты недагляд потым і вылез бокам: амаль на ўсіх роспісах праз нейкіх дзесяць гадоў фарба пачала асыпацца.

Забягаючы наперад, скажу, што гэта была яшчэ невялікая бяда — можна было б правесці рэстаўрацыю, калі б мастакі тэатра былі ў гэтым зацікаўлены і своечасова звярнулі б увагу адміністрацыі на стан роспісаў. А між тым, трэба адзначыць, што такіх роспісаў у Беларусі ніколі раней не было. Маю на ўвазе не толькі вялікія памеры роспісаў, хоць і гэта было зроблена ўпершыню. Галоўнай жа і самай цяжкай задачай было зрабіць менавіта мануменальны твор, а не кніжную ілюстрацыю, не стракатую карцінку, трымаць колеравую гаму ў спакойнай і сціплай, як кажуць, пастэльнай палітры. Трэба было захаваць колеравыя прынцыпы



фрэскавага жывапісу — гэта значыць, не ламаць паверхню сцяны перспектываю, будаваць кампазіцыю па плямах без перавагі адной над другімі. Абагульняць і стылізаваць дэталі так, каб не перайсці парог да абстракцыі, але і не апынуцца ў палоне натуралізму, — апошняе было самым рызыкоўным станам, бо не было ніякай практыкі ў насценных роспісах. Кожны з нас рабіў па два, а то і па тры варыянты эскізаў. Збіраліся разам і рабілі адзін аднаму заўвагі, адным словам, працавалі на карысць агульнай справе.

Трэба сказаць і пра тое, што, акрамя творчых цяжкасцей, былі яшчэ і фізічныя. Уяўляеце сабе рыштаванне вышынёй каля васьмі метраў, на якое трэба ўзлезці, папрацаваць гадзіну, спусціцца ўніз і паглядзець здаля, што атрымалася, прытым, што рыштаванне замінае ўбачыць усю паверхню роспісу. Зноў узлезці на зыбкае рыштаванне, і зноў працаваць над тым, што здавалася знізу няўдалым — стракатым ці занадта аморфным. І гэтак увесь працоўны дзень, усю зіму ў 1958 годзе.

Харчаваліся ў тэатральным буфеце, каб не траціць час на хадзьбу дахаты. Буфетам карысталіся толькі артысты, ну і мы з імі. У той час не ўсё было добра з харчаваннем — выручалі сталоўкі, буфеты зачыненага тыпу. Артыстаў тэатра мы неўзабаве ведалі ўсіх. І не толькі дзякуючы сумесным абедам. Яшчэ і таму, што ўдзень адбываліся рэпетыцыі, і мы бачылі іх у "дзеле", а часта і самі яны заходзілі да нас, каб паглядзець, што і як мы робім.

Мне асабіста пазіравалі артысты балета Аляксандра Нікалаева і Сямён Дрэчын. Гэта давала мне магчымасць спазнаць танцавальныя рухі, зафіксаваць тыя з іх, дзе і дынаміка і статыка былі б у згодзе між сабою.

Зараз гляджу на фотаздымкі свайго роспісу "Князь-возера". Маладыя, прыгожыя Нікалаева і Дрэчын у беларускіх народных строях вось-вось пусцяцца ў танец. І душа мкне туды, у той ужо далёкі час, калі ўсё было маладое: і тэатр, і артысты, і мастакі, і беларуская опера, і нацыянальны балет.

Ну а як аднеслася крытыка да такой з'явы, якую не назавеш другараднай, — у тэатры з'явілася шэсць роспісаў? Пра іх ніхто не сказаў ні слова — ні добрага, ні благога. Мо таму, што ў Мінску ў тыя часы амаль не было прафесійнай мастацкай крытыкі. А калі сёй-той нешта і пісаў, дык з аглядкаю на ЦК партыі, з аглядкаю на тое, што скажуць "куратары" з аддзела агітацыі і прапаганды. Менавіта яны вызначалі, як пісаць, пра каго пісаць і што пісаць. Тагачасныя пісакі адносна гэтага бясконца раіліся па тэлефоне і выконвалі парады з верху няўхільна.

У нейкім даведніку сёе-тое, памятаю, чытаў пра нашы роспісы (пісаў, здаецца, Барышаў), але не знайшоў там ні свайго прозвішча, ні назвы свайго пано "Князь-возера". Што ж, такое замоўчванне бачыць мне было не ўпершыню: я ж — "акупант", чалавек, які быў пад акупацыяй, хай і не па сваёй волі, але ж застаўся, не эвакуіраваўся, дык, мабыць, супрацоўнічаў з немцамі, лепш пра яго не пісаць нічога. І — не пісалі.

У сувязі з гэтым успамінаецца і другая падобная прыкрасць. Напярэдадні 30-й гадавіны заснавання БССР у Маскву на выстаўку былі адпраўлены работы мастакоў, што былі ў акупацыі, самім жа мастакам забаранілі суправаджаць свае працы. Тады дзве мае карціны — "Дапамога Масквы партызанам" і "Партызаны ў разведцы" — экспанаваліся на Кузнецкім мосце, а я мусіў сядзець у Мінску. На той выставе, дарэчы, большасць карцін была зроблена мастакамі, што сербанулі гора акупацыі. І вось такое пакаранне — ад сваіх. За што?

Аднак жа — вернемся да роспісаў у оперным тэатры. Сёння іх няма там. Няма ўжо даўно. Іх, усе шэсць, зафарбавалі гадоў 15 назад, калі не больш.

Памятаю, галоўны мастак мастацкага фонду Уладзімір Басалыга кажа мне: "Яўген Мікалаевіч, выступіце з пратэстам супраць вандалізму — знішчэння шасці пано ў тэатры оперы і балета". А я ў адказ яму: "Перад кім пратэставаць?" А Басалыга і сам не ведае, перад кім. І хто, кажу, мяне паслухае? Мо Яўген Зайцаў, народны мастак БССР, член, нават ветэран партыі, пашукае вінаватых? Яму, кажу, больш зручна гэта зрабіць. А Басалыга адказвае: "Зайцаў не рашыцца, хоць і ведае, хто гэта зрабіў, не захоча ён псаваць адносіны з работнікамі ЦК КПБ".

Я ўсё ж узяў фотаздымкі роспісаў нябожчыка М. Блішча "Дэман" і свайго "Князь-возера" і пайшоў да намесніка міністра культуры А. Ваніцкага. І што? Ён, ці бачыце, не ведае, каго вініць, не ведае нават, што адбылася такая дзікунская акцыя. Ён выклікаў да сябе супрацоўніка міністэрства, даручыў яму разабрацца, што здарылася. Звярнуўся да галоўнага мастака тэатра оперы і балета Яўгена Ждана. Той адказаў мне, што рэстаўрацыю пано нельга рабіць, бо яны... зафарбаваны водаэмульсійнай фарбаю.

Адным словам, у Міністэрстве культуры шмат адказных работнікаў, але ў дадзеным выпадку браць на сябе адказнасць ніхто не хацеў. І тады я думаў і цяпер думаю, што ніколі мы не знойдзем таго, хто аддаў распараджэнне ўчыніць варварства, хоць ён меў пасаду і прозвішча: пры калектыўным кіраўніцтве адказчыка няма.

І ўсё ж такі — якая мэта была ў знішчэнні твораў шасці беларускіх мастакоў? Няўжо дзеля таго, каб, зафарбаваўшы адны творы, павесіць (ужо не намаляваць) на іх другія? А як жа надоўга?

Ды, зрэшты, гэта ўжо зусім іншыя пытанні. Я ж меў на мэце проста падзяліцца згадкамі пра тое, як мы распісвалі тэатральнае фае і пра лёс тых нашых роспісаў...

**Яўген ЦІХАНОВІЧ**

---

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У Баранавічах забаранілі семкі: гандлююць імі пенсіянеркі, да бабулек ці не чарга, куды ні ступіш — лузга, з семкамі людзі нахабней, што тут прывабнага! Згодны з бацькамі горада. Але ўсё так дорага, не загоніш людзей у шарэнгі, адсюль усе мітрэнгі. І што гэта за сістэмка, калі мацней за яе семкі!

●

У апошні міг верабей вырваўся ў ката з кіпцюроў, і кот ці не цэлы дзень хадзіў прымяты. Убачыце такога ката, ведайце — вераб'і вінаватыя.

●

— Кругом адна нішчымніца, і робім — не атрымліваем, і не робім — не атрымліваем. — Не тое, браце, галоўнае, галоўнае, што мы не беспрацоўныя, што нас, калі трэба цэнтру, клічуць на рэферэндумы, і мы, хоць каго і не знаем, рашаем і выбіраем. — Ну як тут не чухаць патыліцу, нішчымніца, кажу, нішчымніца.

●

— Прабачце, — сказала афіцыянтка, — прыйшлі бандыты, вунь тыя, у скуры, яны — пачэсная кліентура і абслугоўваюцца без чаргі... Што бандыты — папрывыкалі, што ў скуры — таксама нармальна, а што без чаргі — не разумеем, гэта ж наша, дэпутацкая прывілея!


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7315.
Нумар падпісаны 4.4.1996 г.
Заказ 1711/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12